Першая
кніга
празаіка

# АЛЕСЬ КАЖАДУБ



# ГАРАДОК

Апавяданні
і аповесць



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1980

## Лютаўскай замецццю

Люты браўся больш завеямі, якія несла з абалоні Дняпра на вёсачку, што зачапілася, як тое дрэўца над стромаю, за вышэйшы бераг ракі, прыціснулася да яго, ледзь-ледзь трымаючыся. Завеі круцілі над хатамі слупы снегавое крупы, выдзьмухвалі з падстрэшшаў і гарышчаў леташні пыл, часта ляскалі адарванай дошкаю на прыгрэбніку, роўненька насыпаючы ў яго праз дзірку гурбачку снегу. Вецер так гнаў з ракі дробненькую крупу, што падветраная сцяна хаты выдавала густа пасечанаю белымі шрацінкамі — снег адразу прымярзаў да настылага дрэва. У маленькія вокны было бачна, як мёртва матлялася сшэрхлае голле патанчэўшых вішнякоў. Хоць і не ціснулі гэтымі днямі асаблівыя маразы, усё адно было надта сцюдзёна.

Макар хварэў трэці тыдзень, але сёння пачуваўся ўжо лепш. Адно толькі круцілася ў галаве ды цяжка было варушыцца, аднак думалася ўжо лёгка. Яго заразіла на тыф стрыечная сястра Даша, калі прыйшла да іх, уцякаючы ад фронту. Яна і паляжала ў іх мо якія суткі, потым прыехалі яе бацькі і забралі да цёткі Хадоскі ў Вятхінь, але Макар заразіўся. Пакуль ён хварэў, прыйшлі нашы, пагналі немцаў далёка за Дняпро.

Макар ляжаў на цвёрдым самаробным ложку, бачыў перад сабой нізкую столь, кавалак сляпога акна, з якога падзімала холадам так, што не патрымаеш рукі каля яго і хвіліны, і чуў, як маці збірае есці. Яна грукнула аб стол нечым цяжкім — мусіць, чыгунком з бульбаю,— схадзіла ў баковачку, бо тоненька, знаёма рыпнулі фанерныя дзверцы. Ён крыху павярнуў гала-

ву і ўбачыў бацьку, які ўжо сядзеў, згорблены, за сталом, разглядваў вялікія, не надта каб гнуткія рукі. Бацьку ўжо было пад шэсцьдзесят, але ён яшчэ закладваў між пальцаў на кожнай руцэ па тры арэхі і лёгка трушчыў іх. Макару, якому ішоў пятнаццаты, ніяк не ўдавалася зрабіць гэта.

Бацька, мусіць, заўважыў, што Макар глядзіць на яго, павярнуў галаву і сказаў:

— Ачуняў, сынок? Ну хадзі тады, паямо разам.

Макар узрадавана адхінуў коўдру, спусціў на халодную падлогу худыя жоўтыя ногі і рыўком, як баючыся, што не здолее, устаў. У вачах адразу крутнулася, пацямнела, і ён абсунуўся на падлогу акурат каля ложка...

Але праз два дні ён ужо хадзіў па хаце, пазіраў у вокны на двор, дзе ўсё мяло, курэла над сумётамі снегавым пылам. У вокны мала што было відаць — адно прыгрэбнік, старую, таўшчэзную таполю са зледзянелай карою ды цьмяны абрыс суседскае хаты. Макару надта карцела на вуліцу — каб хаця ўбачыць шырокую прастору дняпроўскага рэчышча, няхай сабе замеценага, скутага лёдам, убачыць выцягнутыя шнурком уздоўж ракі хаты роднае вёскі, жывога чалавека, што ідзе-рыпіць цеснаю вулачкаю, угнуўшы галаў, па сваіх справах. Вось ужо люты на дварэ, а там хутка марац з жоўтымі туманамі, якія з'ядуць зляжалы снег, пагоняць капяжы са стрэх. Па лёдзе на рацэ папаўзуць падталіны, будуць штодня большаць, аж пакуль не выцісне на паверхню цёмная вада. Вытнуцца з белі чорныя рыльцы грудкоў — і запахне зямлёй. І гэта ўжо будзе сапраўдная вясна, хай сабе і са звінючым лядком у лужынах. Па вясне хоць дыхаецца цяжка, ды ўсё адно весялей пазірае чалавек, званчэй гукае на дварэ да суседа, барзджэй бегае вуліцамі. Аднак гэта толькі будзе яшчэ, і невядома, як хутка. Дзед Гапей казаў, што марац сама што зімовы месяц, халодны, з

куслівымі маразамі. Ён як той сабачка малы — на яго і не зірне чалавек, не дасць увагі вісклівайу, хоць і заядламу брэху яго, аж той цопне за лытку, ды так, што будзеш кульгаць тыдзень. Так гаварыў дзед Гапей, як быў жывы. Смешны быў дзед, гаваркі, байкі яго далёка па вёсках перадаваліся. А памёр ціха, адзін у сцюдзёнай хаце ляжаў два дні, пакуль не знайшлі суседзі.

Сёння не ўстаў з нараў бацька, цяжка дыхаў у куце, перхаў і не абзываўся. Маці таксама ледзь хадзіла, часта прысаджвалася на ўслон, каб перадыхнуць, аддыхацца. Макар прачнуўся рана, убачыў, што маці слабая вельмі, і схадзіў па дровы. Касцёр быў тоўста засыпаны снегам, разабраны з аднаго боку. Дровы, як прымёрзлыя, цягнуліся цяжка, Макар прымарыўся, пакуль набраў бярэмя. З непрывычкі балела ў грудзях, ад свежага, вострага паветра слязіліся вочы, не было як глянуць на Дняпро, разгледзець процілеглы ніжэйшы бераг. Усюды ляжала шмат снегу, сцежка да кастра амаль не бачылася на яго роўнядзі. Макар ледзь сунуўся па ёй з дровамі, пільнаваўся адно, каб не паваліцца.

Маці наварыла рэдкай заціркі, але сама бадай і не ела, адразу захацела легчы. Макар наліў заціркі бацьку, занёс місачку яму на нары, потым паеў сам.

— Макар,— паклікаў з кута бацька,— ідзі сёння ў школу... У Вятхіні школа працуе ўжо... вучыся, сын...

Бацька надта глядзеў, каб дзеці яго вучыліся. Сам ён быў непісьменны, маляваў за распіску крыжыкі на паперчынах і, мусіць, вельмі шкадаваў, што не вучыўся ніколі. А дзецям — тром сынам — рабіў усё, каб вучыліся. На падручнікі ён не шкадаваў апошняе капейкі. Макар быў малы, а помніць — па вёсках ішоў голад, людзі гэтак жа, як і цяпер, елі макуху замест хлеба і посны булён. І ў той час Васілю, старэйшаму брату, трэба было ісці ў школу, а не меў ён ні сшытка,

ні падручніка. Дык бацька, узяўшы з апошніх грошай, пешшу пайшоў у Рэчыцу і купіў падручнік. Сшыткаў жа зусім не было ў магазінах. Ён не сказаў тады нічога, але Васіль, які дагэтуль толькі і шукаў прычыны, каб не пайсці ў школу, пачаў штодня ўставаць разам з маці і бегаць за тры кіламетры ў Вятхінь. Васіль ведаў: бацька лёгка дараваў бы што другое, ды толькі не ўцёкі ад школы. Яно так і было, калі Васіль, забыўшыся на ўсё, скіроўваў разам з сябрамі да рэчкі, дзе і паляжаць можна было на белых косах, і рыбу палавіць, і пакатацца на ўкрадзеным чоўніку. Лупцаваў тады бацька не шкадуючы.

А Макар вучыўся ахвотна і добра. Вось толькі за немцамі не хадзіў у школу, не працавала яна, але Макар сам чытаў кніжкі, якія знаходзіў у сяброў. Ён браў братавыя падручнікі і стараўся рашаць задачы, чытаў правілы.

Да школы Макар брыў доўга — не ішлі ногі, моцна і часта стукала сэрца. Ён успацеў і вельмі саслаб, сядзеў у класе як сонны. Вучняў у школе яшчэ было мала, ды і тыя больш незнаёмыя, малодшыя за Макара. Настаўніца ў старым паліто спачатку проста чытала з кніжкі, потым пыталася табліцу множання. Макар сядзеў на апошняй парце, яго так і не выклікалі. Хацелася есці, аж дрыжалі рукі.

Дамоў са школы Макар ішоў зусім памалу. Тыя тры кіламетры ніяк не канчаліся, і ўжо шарэла наўкола, бралася на вечар. Чамусьці падумалася, што ідзе ён са школы ўжо каля трох гадзін. «Не трэба больш сядаць адпачываць»,— сказаў сам сабе. А ў галаве было неяк пуста, і поле перад вачыма пагойдвалася, пакручвалася.

Толькі са свайго двара Макар убачыў, што дзверы і адно акно іхняе хаты забітыя крыж-накрыж старымі, струхлелымі дошкамі, якія з лета валяліся каля прыгрэбніка. Сэрца захаланула ад нядобрага прадчування,

ён спыніўся пасярод двара, не ведаючы, што рабіць. Але наўкола не было ніводнага чалавека, ніводнага гуку не ляцела з маўклівых, нежывых хат, адно вецер пасвістваў у страсе, церушыў снегавым пылам, апякаючы твар. Не відаць было і слядоў на двары. Макар падышоў да дзвярэй і пачаў, абдзіраючы пальцы, таргаць дошкі ў тоўстай наледзі. Яны аддзёрліся наўздзіў лёгка, бо трымаліся, мусіць, на адным цвіку. У хаце было сцюдзёна, ажно не раставаў каля парога наношаны нечымі нагамі снег. На ложках і нарах не было коўдраў, у халоднай печы стаялі чыгуны з наабіранай, але не варанай бульбай.

Макар учуў, як нехта затупаў у сенцах, доўга намацваў клямку, потым з цяжкасцю адчыніў дзверы. У хату ўлезла суседка Кулічыха, якая часта заходзіла да іх, як ён хварэў, паіла яго нейкім адварам з карэнняў.

— Гэта ж убачыла, як ты ідзеш па вуліцы, і прыйшла сказаць, што тваіх у бальніцу забралі. Яны, Макарка, на тыф захварэлі, маці дык і ўстаць не здолела,— Кулічыха падышла блізка да яго, зірнула проста ў вочы.

— Яна ж раніцою яшчэ сняданак наварыла...— Макар глядзеў долу, бо павільгатнелі вочы, пачало ўсё расплывацца.

— Жанчына заўсёды ходзіць да апошняга, аж пакуль не паваліцца. Паклалі іх у сані, абкруцілі коўдрамі, каб не памерзлі, і ў Холмеч павезлі. Брыгадзір, мусіць, думаў, што ты да цёткі ў Вятхінь падаўся, дык і забіў хату.

— Я ў школе...— Макар не дагаварыў, ледзь-ледзь праглынуў гаркату, што назбіралася ў горле. Слёзы ўсё-такі паўзлі па шчоках.

— Ох, дзіця, дзіця...— заківала галавой, шкадуючы, Кулічыха.— Запалі печку і пераспі пакуль. Я табе во яйка, хлеба кавалак прынесла. Заўтра б узяў сяго-

таго і схадзіў у больніцу, дык у цябе ж, мусіць, няма нічога?..

— Да цёткі схаджу...— Макар выцер слёзы,— у яе мо масла, яйкі ёсць...

Кулічыха пайшла. Макар разгублена пасоваўся па хаце, потым уцяміў, што трэба схадзіць па дровы. Сырыя паленні сіпелі, не хацелі разгарацца, дым ад іх выядаў вочы. Макар надзёр з большых паленняў бяросты, і тады толькі заскакала па сценах мігатлівае святло, выхопліваючы з цемры стол, услон, стары камод. Вусцішна было ў маўклівай хаце, дзе яшчэ сёння гаварылі, хадзілі бацькі. Дзе яны, што з імі? Няўжо так захварэлі яны, што не змаглі нічога перадаць яму, Макару?..

Назаўтра Макар прахапіўся, як толькі пачало развідняць. Ён зноў запаліў печ, паставіў варыцца бульбу, у другі чыгунок проста наліў вады — на чай. Ён думаў, што пойдзе зараз да цёткі Хадоскі ў Вятхінь, папросіць у яе што-якога хворым бацькам, а адтуль падасца ў бальніцу. Сам паеў варанае бульбы з соллю, завязаў з дзесятак бульбін у хусціну, каб узяць з сабой. Макар спяшаўся, але накруціў на ногі некалькі ануч, бо ягоныя бахілы на холадзе адразу выстывалі, адбіралі цяпло з ног.

На вуліцы снег ужо не сыпаў, але падзімаў рэзкі, парывісты вецер, які быццам кранаў лядзянаю далонню за голае цела, перахопліваў дыханне. Макар ужо ладна адышоўся ад вёскі, як нехта быццам схапіў яго за плечы і спыніў. Наўкола гойдаліся тонкія лазнякі, на гладкіх гурбах павівалася лёгенькая замець, і неба, здавалася, гатова было прыціснуцца да зямлі. Макару падалося, што нехта сапраўды трымае яго за плечы. Ён выцер рукавом вочы, якія слязіліся, мусіць, ад ветру, і павярнуў назад. Ён усё прыспешваў хаду, хоць вельмі цяжка было перастаўляць ногі ў вялікіх бахілах, ды і не хапала паветра і балела ў грудзях.

Макар ужо дайшоў да свае хаты, як з-за дзіравае, напаўпаваленае агароджы паклікала яго Кулічыха:

— Макарка, бяжы ў больніцу, дзетка... Анэля Прусава была ў Холмечы, сказала, што з маці тваёй блага. Бяжы, я тут ужо хату пагляджу...

Яна доўга глядзела ўслед худзенькай, кволай постаці хлопца, які і раней не выдаваў на свае чатырнаццаць, а пасля тыфу дык і падаўна. Кулічыха нешта шаптала, гаротна ківала галавой, выцірала чырвонай рукой вочы. Думала, мусіць, яна пра свайго сына Міколу, якога не бачыла аж з трыццаць дзевятага, як забралі яго разам з Макаравым братам Васілём у армію.

Макар дайшоў да Холмечы неяк незаўважна. Ён згубіў адчуванне часу, здагадваўся адно, што паказвае ўжо за паўдня. Палова хат у вёсцы была спалена, яшчэ вісеў у паветры цяжкі пах смуроду, але многія дамы не кранула полымя — немцы ўцякалі надта хутка, не паспелі знішчыць вялікую вёску. Макар ведаў, дзе ў Холмечы бальніца. Яна, як і раней, стаяла пры вялікіх вязах, якія ўлетку амаль укрывалі яе зусім.

У калідорчыку нікога не было, не чулася галасоў і за зачыненымі дзвярыма. Макар асцярожна прыадчыніў адны — у пакоі было пуста, нават не стаялі ложкі. Ён зазірнуў у суседні пакой — і ўбачыў бацьку, які нерухома, як нежывы, ляжаў на ложку каля сцяны. Яшчэ адзін ложак быў пусты. Макар зайшоў, і бацька тут жа, бы цікаваў яго, расплюшчыў вочы. Ён глядзеў на сына, але пагляд быў нейкі мутны, быццам бацька пазіраў скрозь яго.

— Тата...— Макар падышоў бліжэй, зняў шапку,— а дзе мама?..

Бацька варухнуўся, слаба павёў рукою да суседняга ложка і зірнуў раптам праяснелымі вачыма:

— Тут была... не ведаю...

Ён зноў заплюшчыў вочы. Няголены твар яго быў як чэрап, абцягнуты караваю скурай. Ён дыхаў часта

і вельмі ціха. Макар пастаяў крыху, паклаў хусціну з бульбай на столік пры ложку, потым выйшаў на ганак і сеў на прыступку. Думкі блыталіся, не было ніводнае яснай, зразумелай. «Але ж не магла маці нікуды з бальніцы пайсці»,— раптам ухапіўся ён за адну. Нерашуча ўстаў і зноў пайшоў у будыніну. Падыходзіў да дзвярэй, прыслухоўваўся, ці не гавораць за імі, потым нясмела торкаўся. Каторыя дзверы былі зачыненыя. Макар вельмі баяўся, што яго ўбачыць доктар і выганіць з бальніцы. Ён стараўся ісці ціха, хаця б толькі не рыпнуць маснічынай.

У самым канцы калідора былі яшчэ адны дзверы, меншыя за астатнія. Макар дрыгатлівай рукой узяўся за ручку, адчыніў. Вочы не адразу прывыклі да цеснаватага пакоя, і ён ледзь разгледзеў стол, што стаяў пасярэдзіне. На стале нехта ляжаў, накрыты белай прасцінаю. І Макар ужо ведаў, хто гэта ляжыць, нерухомы, пад прасцінаю, але, быццам не верачы свайму прадчуванню, не чуючы ног, падышоў і адхінуў накрыўку. Гэта была нежывая маці.

Ён не бачыў, як у пакой убегла доктарка, не чуў, што гаварыла яна, не даваўся, каб адарвалі яго ад маткі і паднялі з усколенцаў. Але жанчына ўсё-такі неяк адцягнула яго, прыгарнула да сябе, потым памалу вывела на калідор.

— Зараз я табе чаю гарачага налію, спаць ляжаш,— гаварыла доктарка, гладзячы яго па плячах.— У маці тваёй тыф быў, мы нічога не маглі зрабіць... Мы яе тут самі пахаваем...

— Забяру...— раптам сказаў праз слёзы Макар і вырваўся з мяккіх рук.

Ён выйшаў на вуліцу, завярнуў за вугал бальніцы і доўга стаяў, выціраючы рукавом мокры твар.

Браўся прыцемак, нарываўся разам з ім моцны вецер. Стылі рукі і ногі, але Макар не хацеў ісці ў бальніцу. На дарозе ён раптам убачыў каня, запрэжанага

ў сані, які рыўкамі, часта торгаючы галавой, ішоў супраць ветру. У санях сядзеў згорблены чалавек. Па старым рудым кажуху з натапыраным каўняром Макар пазнаў паштара Ісака Пенчука. Ісак яшчэ да вайны вазіў з Холмечы ў Валюхі пошту ў гэтым жа кажуху, толькі конь у яго тады быў другі — многа большы.

— Дзядзька Ісак!..— Макар выбег на дарогу, замахаў рукамі.

Конік адразу, як наскочыўшы на сцяну, спыніўся, а Ісак марудна, быццам выблытваючыся, злез з саней.

— Дзядзька, давайце маму маю забяром з бальніцы... Яе тут закапаць хочуць...

— Макар? — дзядзька паўглядаўся крыху, затупаў на месцы.— Ага, ага, ведаю, што памерла Марыя... А давай забяром, месца во ёсцека. Якраз і пакладом во так во, яна ж невялікая, маці твая...

Ісак завярнуў каня, пад'ехаў санямі акурат да ганка. Доктарка стаяла на калідоры, але нічога не сказала, убачыўшы Макара з Ісакам.

Ісак акуратна, па-гаспадарску згарнуў прасціну, паклаў яе на край стала.

— Ну, давай, хлопец...

Ён узяўся за плечы, Макар — за ногі, і яны панеслі маці да саней. Макар спатыкнуўся на ганку, ледзь не ўпаў, але Ісак ужо без яго помачы паклаў нябожчыцу як зручней, адсунуў трохі ўбок яе ногі, каб было сесці Макару.

— Паехалі...— Ісак цмокнуў на коніка, і той, рэзка тарганууўшы, часта заперабіраў нагамі.

Сцямнела, дарога ледзь бачылася, але конік бег борздзенька, стараўся. Макар моўчкі сядзеў каля нежывой маці, цёр вочы, якія мала што бачылі, курчыўся ад стылай халадэчы. Ісак таксама маўчаў, зрэдку турзаючы за лейцы. Рыпеў пад палазамі снег, тупацеў конік...

У хаце было цёпла — Кулічыха, мусіць, зусім нядаўна паліла ў печы, бо абкручаны анучаю гаршчок з бульбаю быў яшчэ гарачы. Макар і дзядзька Ісак занеслі ў хату маці.

— Пераспі як-небудзь,— сказаў, збіраючыся выходзіць, Ісак,— сёння ўжо нічога не зробіш. Я Судзянісе скажу, каб падышла ўранку. А бацька яшчэ жывы быў?

— Жывы...— Макар баяўся глядзець на маці. Ён хацеў папрасіць дзядзьку Ісака застацца з ім, але змоўчаў.

Як Пенчук пайшоў, Макар пабраўся на печ і адразу, як праваліўшыся у чорную бездань, заснуў.

Ранкам прыйшлі Судзяніха і Кулічыха. Усе разам паклалі матку на стол, і жанчыны, тоненька галосячы, пачалі мыць яе. Макар не вытрываў і таксама заплакаў.

Апранулі матку ў лепшае. Яна ляжала спакойная, маленькая, амаль уся змяшчалася на стале, толькі пад ногі падставілі табурэтку са скрыняю, каб вышэй.

— Бяжы, Макарка, да брыгадзіра, папрасі, каб даў людзей яму выкапаць,— паўшэптам сказала Судзяніха.— Цяпер і капаць цяжка па зямлі такой мерзлай. Бяжы, прасіся...

Брыгадзіра Макар ледзь-ледзь знайшоў. Ніхто не ведаў, куды ён паехаў. З гадзіну Макар чакаў каля ягонай хаты, баяўся зайсці ў яе, бо пачуў, як гаварылі за спіной: «На тыф хварэюць... заразныя...» Дзядзька Кандраценя, які ў брыгадзіры трапіў проста з партызанскае зямлянкі, прыехаў на сваім кані стомлены, злосны. Убачыўшы Макара, падышоў да яго, паляпаў па плячы:

— Людзей у мяне няма... ды і не паспелі б яны выкапаць сёння. А ўчора баба Цывуніха памерла, яму ўжо ёй выкапалі. Пахавай сваю матку разам з ёй. Скажы, што я так сказаў. І хутчэй, бо спознішся.

Макар адразу пабег да Пенчукоў. Ісакаў конь стаяў пры хаце запрэжаны, а сам Ісак корпаўся ў каморы, нешта шукаў.

— Дзядзька Ісак, завязі матку на могілкі,— Макар ужо даўно не плакаў, але голас усё адно дрыжаў, перарываўся.

Ісак апрануў кажух і пайшоў на двор.

— Хадзем пад павець труну возьмем. Сёння збіў,— сказаў ён у сенцах.

Труна для маткі аказалася завялікая.

На могілках, павярнуўшыся спіною да завеі, што несла сыпкі і колкі снег, ужо стаяла кучка людзей, чакала, пакуль пад'едуць сані. Кандраценя ўсё-такі паслаў свайго сына сказаць, каб не закідвалі яму. Маўклівыя мужчыны ўзялі труну, забілі яе двума цвікамі і на лейцах спусцілі ў яму...

У хаце, лежачы на печы, Макар доўга плакаў, клікаў братоў — Васю і Пецю,— якія недзе там, у арміі, не ведалі, што маці ўжо няма.

Сярэдні брат, Пеця, так ніколі і не даведаўся, калі і як памерла яго маці. Магіла яго недзе ва Усходняй Прусіі.

А бацька акрыяў, Макар прывёз яго з бальніцы дзён праз некалькі, і зноў жа на Ісакавым коніку.

## Адпачынак

Сяргей з Таняю прыехалі на поўдзень пачаткам жніўня.

Таня дагэтуль ніколі не была на паўднёвым моры, хадзіла, разглядваючы вялікімі, здзіўленымі вачыма пальмы, невялічкія бары, шакаладных людзей на пляжах, асцярожна купалася ў мутна-зялёнай пасля шторму вадзе, не адыходзячы, праўда, і трох крокаў ад берага. Сяргей павольна хадзіў побач з ёю, тлумачыў, што гэта алеандры цвітуць, а вунь там — гартэнзія, купляў ёй малочныя кактэйлі і марожанае з тоўчаным арэхам, ляніва паглядаў на даўгалыгіх дзяўчат у бікіні — маўляў, бачылі такіх, абрыдзелі нават. Ён сапраўды ўжо ездзіў пару разоў на поўдзень, якраз на Каўказскае ўзбярэжжа, і цяпер трохі напускаў на сябе абыякавасці, хоць падабалася яму і вялікая сіняя бухта, недзе на дне якой ляжыць таямнічая Дыяскурыя, і белае сонца, такое непадобнае да беларускага, і шурпатыя, падраныя знізу кіпарысы.

Таня і Сяргей былі маладажонамі.

Уладкаваліся жыць яны ў старое грузінкі цёці Шуры. Нават не самі ўладкаваліся, а ім дапамаглі Сяргеевы знаёмыя, якія жылі ў гэтым горадзе. Пакой з двума драўлянымі ложкамі, вялікім люстрам і шафаю каштаваў два рублі ў суткі з чалавека. Праўда, у ім яшчэ стаяў тэлефон, які зрэдку, чамусьці раніцою, званіў — у трубцы нешта пыталіся па-грузінску, Сяргей па-беларуску адказваў, што нічога не разумее, і ўжо потым той, хто пытаўся, па-руску прасіў прабачэння. Сяргею з Таняй званіць не было куды, хіба што ў аэрапорт — даведацца, што на мінскі рэйс білетаў няма і

за пятнаццаць дзён. Але білеты пакуль што іх не абыходзілі. Вольнага часу наперадзе было шмат.

Акрамя Сяргея і Тані ў кватэры жыла яшчэ адна сям'я курортнікаў. Сама цёця Шура мела свой дамок, недзе за горадам, і ўсю гэтую трохпакаёвую зяцеву кватэру здавала прыезджым.

— Зяць мой у Тбілісі цяпер жыве. Забралі на іншую работу. Вось толькі кватэру пакуль не даюць. Сто рубель плаціць трэба.

Яна намякала, што вымушана браць два рублі з чалавека. Грошы ёй не трэба, давала зразумець яна, але вось зяцю ў Тбілісі трэба плаціць сто рублёў за кватэру.

— Аві, дзеці, жывіце. Тут гістраном побач, кілбаса, сір, на кухні гатуйце. Маладыя, харошыя, жывіце,— штодня гаварыла яна, правяраючы кватарантаў.

Гастраном быў сапраўды пад бокам, але дабрацца да кухні было цяжкавата: там доўга рабіла абеды Ніна — бялявая, хуткая жанчына, якая зусім не выдавала на свае сорак пяць год. Муж — высокі, грацыёзны, з позіркам гордага і дзікага прыгажуна аленя, і дачка — таксама высокая, танклявая, ■ радаснаю ўсмешкаю,— трошкі баяліся Ніны, заўсёды ў час прыходзілі з пляжа і выводзілі гуляць калматую сучку Бібу. Ніна расказвала, як цяжка было ёй, рускай, прывыкаць жыць у Тбілісі, крычала нешта па-грузінску мужу, але той не абзываўся і не выходзіў — баяўся сустрэцца з Сяргеем або Таняй.

— Такі ўжо сарамлівы,— махала рукою Ніна,— хоць і прывыкла, а ўсё роўна злосць разбірае. Не ўяўляю, як гэта ён загадчыкам аддзела кадраў працуе.

Уявіць гэта сапраўды было цяжка.

Людзі, відаць, яны былі неблагія, але чамусьці лічылі сябе ў гэтай хаце гаспадарамі. Пазней ужо Сяргей даведаўся, што муж Ніны працуе загадчыкам аддзела якраз у тым інстытуце, у які перавялі зяця цёці Шуры. Канечне, ніякіх грошай за кватэру яны не пла-

цілі. Цёці Шуры гэта вельмі не падабалася, і сваю непрыхільнасць да Ніны і яе сямейства яна выказвала праз сабаку Бібу.

— Блох міне пакіне,— скардзілася цёця Шура Тані,— а самі ў Тбілісі паедуць. Навошта сабаку з сабой везці?!

Біба ведала, што цёця Шура яе не любіць, і хавалася пад канапу. Яна была з тае пароды сабак, у якіх з-за поўсці зусім не відаць вачэй і якія ходзяць барадатымі, трошкі сумнымі дзядкамі, вінавата пазіраюць чорнымі, далёка схаванымі вугельчыкамі вачанят. Біба адразу спадабалася Тані і Сяргею, асабліва тым, што больш за ўсё любіла салёныя гуркі і ўмела прасіць іх, слупком стоячы на задніх лапах і боўтаючы перад сабою пярэднімі. Ды і сапраўды гэта была ласкавая, ціхая і разумная сучка, якая любіла стаяць, проста ўткнуўшыся носам у чые-небудзь калені. Толькі блохі псавалі Бібе жыццё, таму што яе гаспадыня забылася ўзяць з сабою лекаў ад іх, а купанне ў вадзе амаль не дапамагала.

Сяргей і Таня ўставалі пазнавата — з самае раніцы неба звычайна было занавешана воблакамі; яны распаўзаліся, раставалі толькі гадзін пад адзінаццаць. Да гэтага цяжка было прывыкнуць, бо прыгадваўся ўвесь час блакіт ранішняга беларускага неба, на якім спакваля, недзе пад полудзень, гушчэлі размазаныя снегавыя палосы і пульхныя гурбачкі, і ў другой палове дня сонца выплывала толькі ўрыўкамі. Тут жа, у Грузіі, сонца сушыла воблачную смугу — і выгаралае неба было чыстым да самага вечара.

Пясчаны пляж апяразваў лукою вялікую бухту, губляўся недзе ля партовых молаў. Там, у цэнтры горада, пляж ужо быў галечны, вузенькі і цесны. А тут, на ўскраіне, не было гмахаў шкляных гасцініц, толькі белыя высакаватыя домікі дзёрліся на зялёныя, трош-

кі запыленыя кручы. Некаторыя з дамкоў віселі над самым абрывам, і да іх нават не круцілі асфальтавыя вулачкі, больш падобныя да сцежак. За драцянымі агароджамі разлягаліся тэрасы вінаграднай лазы, выспявалі абрыкосы.

На пляжы можна было б ляжаць да самага вечара, ды ад нязвыкла пякучага сонца надта хутка чырванела скура. Таня накідвала на плечы ручнік, а Сяргей плаваў далёка ў мора, на чыстую ваду, адкуль былі відаць горы, шырокае неба, белы горад пад ім,— але мала ўратоўвала гэта. Сяргей нават трошкі глухнуў ад спякоты, не чуў смеху і гоману курортнікаў, якія плёскаліся ля берага, скакалі і падалі ў ваду, бегалі з віскам да халоднага душа і латка, дзе можна было купіць хачапуры ці бутэльку цёплага піва.

Але праз колькі дзён яны прывыклі да гэтага сонца. Карычневыя, у цёмных акулярах, яны ўжо з усмешкаю паглядалі на белых, нязграбных навічкоў, ведалі сваіх пляжных суседзяў — армянскую сям'ю, маладзенькіх, высокенькіх дзяўчат, па вымаўленню масквічак, мясцовых хлопцаў, якія не загаралі, а толькі ныралі ці каталіся на маторках і самаробных яхтах. Хлопцы асталяваліся тут, канечне, з-за дзяўчат-масквічак.

Сяргей быў задаволены, што ўгаварыў Таню паехаць у гэты горад. Прыемна было бачыць яе радасць, калі яны куплялі на базары дарагія — тры рублі за кілаграм — персікі, арэх фундук, калі пілі смачную, на тваіх вачах згатаваную, каву, калі чорнымі, мяккімі вечарамі хадзілі ўздоўж вялізных платанаў — чуўся плёскат марское хвалі, пад алеандрамі, на лавачках, шапталіся парачкі, незлічонымі агнямі гарэў цеплаход «Грузія», які прывёз нямецкіх турыстаў. На ўсім гэтым ляжаў адбітак незвычайнасці, і яны былі як госці ў вялікім палацы без гаспадароў.

Сяргея ахоплівала пяшчота, калі ён глядзеў на Таццяну, якая ляжала на пляжы, спала ў ложку на яго

руцэ, ішла побач у густой чарнаце, ледзь бачная, па-новаму прыгожая ў водбліскях святла, што гойдаліся на роўных хвалях,— і часта думаў, як жахліва было б, каб не сустрэў яе год назад. Сяргей быў упэўнены, што ягонае жыццё да Таццяны было марным, пустым, невыразным. І яму цяжка было знайсці меру свайго кахання да яе.

Яго толькі раз-пораз уражвала звычайнасць іх знаёмства — на нейкім свяце ў ягоных сяброў, мужа з жонкаю, ён, спачатку добра выпіўшы, пайшоў праводзіць Таню дамоў, нешта расказваў, смешнае, мусіць, бо ўмеў смяшыць, і тады ж пацалаваў яе ўпершыню. І пасля таго пацалунка — як зачаравала яна яго: толькі пра яе думаць пачаў, шукаць сустрэч, нават надакучаць, як здавалася яму цяпер. Яна і нумара тэлефона свайго не давала яму спачатку, часта не прыходзіла на спатканні, нават злавала каторы раз — проста так, без дай прычыны,— а ён усё цярпеў. І ўрэшце як прымірылася яна, паспакайнела. Сяргей іншы раз з усмешкаю думаў, што яна проста стамілася.

Сяргей адчуваў, што Таццяна яго кахае. Але адчуваў ён і тое, што кахае нейк па-свойму, цяжка, з раптоўнымі слязьмі, якія маглі пабегчы ў любую хвіліну — тады яна хацела застацца адна, думала пра нешта доўга і засмучана, нічога не хацела тлумачыць. Сяргей спачатку моцна перажываў, потым прывык.

Але што б там ні думаў ён раней, цяпер Таццяна была яго жонкай. І ён яе кахаў — ладную, са стройнай, па-жаночы моцнай, фігурай, з асабліваю ўсмешкаю светла-шэрых вачэй. Ён вельмі хацеў, каб Таццяна з ім толькі радавалася — гарам, мору, моднай вопратцы, незвычайна смачнай каве, бутэльцы грузінскага віна, што выпівалася сцішанымі вечарамі, калі з адчыненага акна даносіўся толькі звон цыкад, шматлікіх і далёкіх, а чорная гушчыня за ланцужком белых агнёў была морам.

— Фота-рэра! Фота-рэра! Каму здымак! Улітка, фота-рэра ідзе!

Пляжны фатограф крычыць моцна, але неяк абыякава. Прафесійна. На яго кліч адгукаюцца ў асноўным навічкі, якім карціць хутчэй сфатаграфавацца ў пене трохбальнае хвалі, каб потым з гордасцю паказваць гэтыя здымкі ўсім знаёмым. Фатографаў на пляжы некалькі — тры ці чатыры. Усе маладыя. Сяргей добра запомніў двух — адзін тоўсты, з жывоцікам, другі малы, жвавенькі. Меншы носіць вялікія пляжныя брылі, надзеўшы іх адзін на другі. Ён пазычае брылі курортнікам, калі тыя здымаюцца.

— Што гэта ён маладых жанчын смаўжамі называе? — пытаецца Сяргей.

— Відаць, што галаву хаваюць,— смяецца Таня.— О, зірні, усё на сонцы, а галава пад ручніком.

— Ну, каб і хацеў, усё астатняе не схаваеш. Жанчына нішто сабе.

— Калі ўжо кукуруза прыйдзе,— капрызна гаворыць Таня.— І піць хочацца.

Па пляжы часта ходзяць мясцовыя жанчыны ў чорным, прадаюць вараную кукурузу, яблыкі.

— Магу піва прынесці,— гаворыць Сяргей, хоць яму і не хочацца цягнуцца па гарачым пяску да латка.

— Хачу піва,— патрабуе Таццяна.

І двух жа глыткоў не вып'е, думае Сяргей і ідзе, заціснуўшы ў кулаку капейкі.

Калі прыносіць піва, Таня ўжо з асалодаю грызе падсоленую кукурузу.

— Хочаш?

— А,— махае рукой Сяргей,— піва лепш вып'ю.

Вішчаць дзеці суседзяў-армян, хлапчукі гадоў чатырох і сямі. Меншы, як не па калена бацьку, чорны ад загару, крэпенькі, як каменьчык, быў іх агульным улюбёнцам. Ён любіў спяваць, хоць і атрымліваў за гэта кухталёў ад старэйшага брата, любіў бегаць сама-

лёцікам, растапырыўшы рукі і завываючы, любіў боўтацца ў вадзе і смяяцца.

— Вось хто ўмее радавацца жыццю,— гаварыла пра яго Таня.

Сяргею за гэтымі словамі чуўся намёк на тое, што вось ён, Сяргей, яе муж, радавацца жыццю не ўмее. Ён маўчаў, спрабаваў чытаць кніжку ці ішоў плаваць.

— Горача надта,— мармыча Таццяна.— Стамілася ўжо загараць. Зірні, скура хутка аблазіць будзе?

— Хутка. Наступным летам не паедзем на поўдзень.

— Не паедзем,— згаджаецца Таня.

— На Прыпяці будзем загараць. Там яшчэ рыбы шмат. І людзей, здаецца, паменей.

— Я рыбу лавіць не люблю.

— Не лавіла ні разу, дык і не любіш. Раніцою цішыня, дымок над вадой, вецер яшчэ не разагнаў хвалю, толькі, можа, дзе рыбіна баўтане хвастом. Набярэш шыцікаў — і плотка твая. За шыцікамі ажно на бераг скача.

— Нешта не бачыла я твае рыбы ніколі.

— Як гэта? — крыўдзіцца Сяргей.— А помніш, я табе сушаных акунёў прыносіў? На Бярозе яшчэ лавіў.

— Тыя дзве рыбкі другі б і ўспомніць пасаромеўся. З мезенец кожная.

— Не хочаш са мной на Прыпяць ехаць — так і скажы,— верне на сваё Сяргей, але спрачацца болей не хоча.

Зноў крычыць фатограф, цяпер таўставаты, далікатнага абыходжання хлопец. Ён добра можа ўгаворваць адзінокіх жанчын. Ён нешта такое гаворыць ім, што яны прыхільна ўсміхаюцца і сарамліва фатаграфуюцца. Маленькі, заўважыў Сяргей, такім поспехам не карыстаецца.

— Можа, сфатаграфуемся? — Таццяна глядзіць услед фатографу.

— Не хочацца нешта. А ты — калі ласка.

— А, сам мяне паздымаеш. Надвячоркам. Фотаапарат мы ж узялі?

Сяргей успомніў, што свой «Кіеў» ён забыўся ў Мінску. Фотаапарат застаўся ляжаць на стале сярод яго папер і кніг. Але пакуль што нічога не сказаў, змоўчаў.

У Таццяны, на думку Сяргея, быў цяжкі характар. Яна раптам, з-за якое-небудзь дробязі, на якую любы іншы чалавек ніколі б не звярнуў увагі, магла раззлавацца, пакрыўдзіцца. Сяргей гэтага не разумеў. А Таццяна хадзіла з гаротным тварам — чорнай хусткі не хапае толькі, завязанай пад бараду, думаў іншы раз Сяргей,— не гаварыла і не глядзела на яго. Ты нічога не ўмееш зразумець, паказваў яе выгляд, ты не здольны зразумець, бо такі ты чалавек, з тоўстай скурай і каменным сэрцам, а я... што ж, я буду пакутаваць, і няхай усе бачаць, які ты чалавек. У тыя хвіліны гаварыць з Таццянай было не тое што цяжка — немагчыма. Сяргей маўчаў, хадзіў, сапучы, па пакоі, стараўся не заводзіцца, каб не атрымалася лаянкі. Што-небудзь давесці жонцы ён ужо і не спрабаваў. А тая, адпакутаваўшы і трохі паплакаўшы, неўзабаве зноў рабілася нармальным чалавекам.

Мінаўся другі тыдзень іхняга жыцця на поўдні, і Сяргей часам думаў, што гэты адпачынак не зусім падобны да сапраўднага адпачынку, калі ні нерваў, ні фізічнае стомленасці, а адно задавальненне жыццём. У сталовых і рэстаранах былі чэргі, у магазінах ляжалі не тыя бранзалеты і пярсцёнкі, а сонца ў полудзень проста вар'яцела. Каторы дзень у Таццяны благі настрой быў з самае раніцы.

На некалькі дзён над горадам павіслі цяжкія хмары, што спаўзлі з гор. Яны абрынулі на дамы і вуліцы патокі вады, якія ўставалі сцяной, і ўжо праз некаль-

кі крокаў мала што можна было разгледзець, нават размываліся абрысы вялізазных платанаў.

Залева грымела па дахах і асфальце, роўнай і моцнай плынню зносячы ссохлыя скарынкі апельсінаў, агрызкі яблыкаў, шматкі папер і персікавыя костачкі, імчала гарбатымі вулачкамі, якія цяпер зрабіліся невялікімі рачулкамі. Але было цёпла. З адчыненых вокнаў старых, аблупленых дамоў выглядвалі чорныя галоўкі дзяцей, а дзе нерухома тырчала галава дарослага.

Сяргей з Таняю хадзілі па горадзе. Парасон не ўкрываў дваіх, і адзін бок Сяргея адразу змок, ужо не кажучы пра ногі. А Таня радавалася і ішла па дажджы, заходзіла ў пустыя магазіны, прыглядалася да пярсцёнкаў цьмянага серабра. Ёй падабалася залева, а Сяргей бурчэў трохі, не разумеў, чаго трэба цягацца па дажджы.

Але дождж раптам сціх. Было парна, нязвыкла ціха, адно буйныя кроплі рэдка дзяўблі зямлю пад дрэвамі. І сярэдзінаю вуліцы шырока ішла роўная вада, амаль нябачная з-за свае чысціні. Памытыя акацыі лёгка ўздрыгвалі, з бела-ружовае пены іх квецені знік заўсёдны налёт пылу.

Яны апынуліся на набярэжнай, каля прычала, дзе стаяў вялізны цеплаход, цяпер ужо не «Грузія», а «Украіна». Доўгі прычал быў амаль пусты, здаваўся ад гэтага крыху панылым і вельмі доўгім. У самым канцы яго на канатных тумбах і самаробных лавачках сядзела некалькі маўклівых, згорбленых рыбакоў. Цяжка лёталі вялікія чайкі, у зялёнай вадзе плавалі недакуркі, скарынка белага хлеба, надкусаны яблык.

Рыбак-абхазец раптам павярнуў да іх бронзавы твар, падміргнуў і сказаў дзядулю з вялізнай бамбукавай вудай:

— Лаві не лаві, нічога не спаймаеш. Дынаміт трэба.

Дзед нічога не адказаў, напружыў спіну і перакінуў вуду, хоць і цяжкавата яму было махаць ёю. Абхазец яшчэ раз падміргнуў, запрашаючы Таню і Сяргея павесяліцца разам з ім, і зноў сказаў да дзеда:

— Э, сур'ёзны які. Глядзі, у ваду не зляці, чаек палкай палохаючы. У ваду адны сур'ёзныя падаюць. Думаюць многа, э?

Дзедава рука тарганулася яшчэ раз перакінуць вуду, але стрымалася. Дзед яшчэ больш напружыў спіну, ажно растапырыліся локці. Мусіць, так ён даваў адпор назоле.

Сяргею прыемна было слухаць вясёлага абхазца, сачыць за яго спрактыкаванымі рухамі, наогул бачыць каламутнае мора. Ён паглядзеў на Таццяну, але тая не адказала яму позіркам, абыякава глядзела, як адзін ▪ рыбакоў выцягваў ладнага лабана. Скончыўся дождж, і ў яе сапсаваўся настрой, падумаў Сяргей. Ізноў ён, Сяргей, аказаўся нячулым.

Ля ўвахода на прычал, побач з таблічкаю «Лоўля рыбы вудамі з прычала катэгарычна забаронена» фатаграфавалася сям'я грузінаў. Яны стаялі пад пальмаю, як тычку з'еўшы, а дзед-фатограф усё нечага марудзіў, і шкада было глядзець, як ўсе трое — маці, бацька і сын-піянер — нечалавечым намаганнем стрымліваліся, каб не міргнуць і не паварушыцца. У сына з вачэй папаўзла ўжо цяжкая сляза, але ён мужна і сурова глядзеў у аб'ектыў. Нават Таня пастаяла і з павагаю пасачыла за імі.

Яны яшчэ раз зайшлі ў магазіны на набярэжнай. У гэтых магазінах Сяргея больш за ўсё ўражвалі надпісы пад таварамі, сярод якіх сустракаліся надзвычай цікавыя, зробленыя лёгка і проста, без асаблівага ламання галавы. Адзін, напрыклад, рэкламаваў — «Надуўная бервяно. 2 руб.». Другі сціпла паясняў — «Какоў «Залаты ярліг». Тут ужо, трэба было разумець, цана какавы ролі асаблівае не мела, галоўнае было

растлумачыць, што гэта стаіць пад шклом. Раней, у добрым гуморы, Сяргей і Таня абавязкова абмяркоўвалі творчасць прадаўцоў, знаходзячы ў надпісах усплёскі фантазіі і лёгкую інтэрпрэтацыю агульнавядомага. Яны сыходзіліся ў думцы, што тут было вельмі блізка да арыгінальнасці. Аднак сёння Таня хадзіла падкрэслена заклапочана.

У магазінах яна зусім нічога не знайшла купіць. Ад крыўды ў яе ажно задрыжалі вусны. Сяргей не стрымаўся і сказаў нешта пра тое, што трэба берагчы нервы, а то іх можа не хапіць да канца адпачынку.

— Калі б я для цябе нешта значыла, ты б даўно знайшоў такі бранзалецік, які мне хочацца. А ты толькі цягаешся ззаду...— Жонка махнула рукой пагардліва, рухам гэтым убок і ўніз напомніла яшчэ раз не каму-небудзь іншаму, самой сабе, як мала добрага ў яе жыцці.

А вуліцы пасля залевы былі чыстыя і прахалодныя, і з іх глыбіні наплываў мяккі, як шэрстка малога кацяняці, морак.

Апошнім тыднем у кватэры цёці Шуры з'явілася яшчэ адна сям'я яе сваякоў. Сваякі прыехалі «Жыгулямі» з Тбілісі, прывезлі з сабой мех бульбы, фасолю, памідоры, стручкі зялёнага перцу, палову барана, воцат, алей і чачу. Чабукі — галава сямейства — меў круглы твар і ёмісты жывот, лысіну, упрыгожаную на патыліцы кудзеркамі валасоў, добрыя вочы. Жонка яго больш тупала на кухні, варыла лобіа, а дзеці — даволі ўжо вялікія хлопчык і дзяўчынка — хадзілі з бацькам на пляж або сядзелі на балконе. Да іх прыходзіла шмат другіх дзяцей, і яны ўсе ледзь улазілі ў свой пакой. Ён быў для іх, вядома, зацесны, гэтак жа, як замалой была для Чабукі кабіна «Жыгулёў». Гледзячы на Чабукі, Сяргей успамінаў свайго дзядзьку Яўхіма, які, калі сядаў на прысадзісты, цягавіты ро-

вар, найбольш стараўся роўна пакласці на раму свой жывот — каб вісела аднолькава з абодвух бакоў. Праўда, старанна пачаў займацца ён гэтым з лёгкай рукі — дакладней, з лёгкага языка — другога дзядзькі, Базыля, ды пра гэта ўжо не кожны памятае.

З Чабукі ў Сяргея адразу пачалося сяброўства. Яны былі футбольныя балельшчыкі. Сустракаючыся ў прыхожай, на лесвіцы альбо на вуліцы, Чабукі ўздымаў правую руку, заціснутую ў кулак, і гаварыў: «Дынама» Мінск!». «Дынама» Тбілісі!»,— салютаваў у адказ Сяргей, адчуваючы адначасова некаторую няёмкасць з-за свае прыналежнасці да балельшчыкаў мінскага «Дынама». А Чабукі, малайчына, далікатна не распытваўся пра некаторыя гульні мінчан. Сяргей за гэта з удзячнасцю глядзеў разам з ім матчы тбілісцаў, дзе рэпартаж вёўся на грузінскай мове.

Таня пачаставала суседзяў сухой каўбасой, жонка Чабукі іх — густым і на дзіва смачным лобіа, і дзве сям'і засталіся задаволеныя адна адной. У мінулую нядзелю, гледзячы футбол, Сяргей з Чабукі нават выпілі чачы.

Ніна і яе палахлівы муж з даўгалыгаю дачкой Ліяй паехалі праз два дні, як з'явілася сямейства Чабукі. На развітанне Ніна і Лія доўга цалаваліся з Таняю, пакінулі ёй свой адрас, вельмі запрашалі прыехаць. Сяргея яны таксама цмокнулі ў шчаку, і ён раптам заўважыў, што Лія — зусім дарослая дзяўчына, з цяжэнькімі яблычкамі грудзей, і хоць з сарамлівым, але цікаўным позіркам. Муж Ніны непрыкметна знік раней, «будзе чакаць ля поезда»,— махнула рукой Ніна.

...Сяргей і Таня не засталіся на вячэрняй набярэжнай, дзе з надыходам цемры большала людзей і рабілася весялей. Звычайна яны елі тут марожанае, сядзелі на зацененых лавачках, слухалі бясконцы, але ненадакучлівы пошум мора. А сёння яны адразу селі ў тралейбус і паехалі ў свой Сіноп, не завярнулі нават у

кафэ. Яны не размаўлялі і глядзелі ў розныя бакі — Таня ў акно, за якім мільгалі кіпарысы і зрэдку асветленая агароджа Батанічнага саду, Сяргей на чатырох співаючых грузінаў. Грузіны сядзелі ў вялікіх шапках і сур'ёзна, ні на каго не гледзячы, спявалі нейкую горную песню, бо высокія і доўгія гукі яе ўзляталі і падалі, каціліся рэхам, накладваліся адзін на адзін. Яшчэ гук трымцеў у горле, быццам хуткая, заціснутая ў каменнях вада перабірае шкляныя шарыкі, але не можа знесці іх.

У чорнай начы пахлі магнолія і акацыя, над цямнейшымі за неба гарамі вісеў кавалак бледнага месяца, недзе ў вінаградзе, што распоўзся па жэрдках проста ў двары іхняга пяціпавярховага дома, востра звінела нейкая нястомная цыкада-аптымістка.

Дома Сяргей адразу лёг з кніжкаю, а Таня хадзіла з ваннай да шафы і з усяе моцы старалася не звяртаць на яго ўвагі. Сяргею карцела сказаць, што псіхаваць вось так ні ён, ні яна доўга не вытрымаюць, але пакуль што маўчаў.

У дзверы ціха пастукаўся Чабукін хлопчык, усунуў напалову галаву:

— Дзядзя Серга, тата і вялікі сабака... выйсці трэба, а ён сядзіць. Тата сказаў, каб вы шчотку ўзялі...

Хлопчык гаварыў з акцэнтам, і Сяргей добра зразумеў толькі пра шчотку. Ён незадаволена схадзіў на кухню па шчотку, выйшаў на лесвіцу.

На прыступах пралёту стаялі спалоханыя Чабукі, яго жонка, дзяўчынка і суседка з кватэры насупраць. У кутку пляцоўкі, сціснуўшыся, ашчэрыўшы дробныя зубкі, сядзеў малы сабачка. Ён моцна трусіўся, выварочваў на людзей адно вока, ціха гырчаў.

Усе гаварылі, падпіхвалі Чабукі ў спіну і ў бок, той нясмела стаўляў нагу на ніжэйшую прыступку, аднак тут жа адскокваў. Яго пхалі зноў.

Убачыўшы Сяргея, усе моцна ўзрадаваліся.

— Мне трэба да машыны, а ён не пускае!..— абурана паказваў Чабукі тоўстай і валасатай рукой на сабачку.

— Ён тату чуць не ўкусіў!..

— Ён даўно сядзіць. На вуліцы холадна, дык ён прыбег і сеў.

Жонка і суседка хваляваліся па-грузінску.

— Шчотка, давай шчотка! — ваяўніча затупаў Чабукі.

— Ну навошта вам тая шчотка,— зверху спускалася Таццяна.— Цюцька, цюцька, бедненькі, напалохалі цябе...

Яна смела падышла да сабачкі, прысела перад ім. Ва ўсіх быццам адняло мову. Таццяна нешта ціха гаварыла, і брудна-белы бяздомнік перастаў калаціцца, выкочваць вока і гырчаць.

— Ну ідзіце, куды вам трэба,— кінула цераз плячо Таня.

Першы бокам прайшоў Чабукі, за ім дзеці і жонка. Чабукі спыніўся на прыступцы, пакруціў галавой і з павагаю сказаў:

— Цюцька!

Мусіць, ён не ведаў гэтага магічнага слова.

Сяргей таптаўся са шчоткаю, адчуваючы сябе трохі дурнем, а Таццяна ўжо гладзіла сабачку і гаварыла з ім пяшчотна.

А вечарам Сяргей і Таня пасварыліся яшчэ больш, пагаварылі моцным шэптам пра тое, што ні ён, ні яна болей так не могуць.

Таццяна нават пакі́дала свае самыя неабходныя рэчы ў сумку і раніцою з'ехала ў Піцунду, дзе адпачывалі ў гэты час яе маці і бацька. Сапраўды, у Піцундзе адпачывалі Сяргеевы цешча і цесць. Можа, якраз з-за гэтай Піцунды так упарта сварылася Таццяна? Можа. А можа і не.

Сяргей яшчэ дзень пашлындаўся па горадзе, узяў

выпадкова, хоць і па блату, білет на самалёт у Мінск і назаўтра раніцою паляцеў.

Праз тры дні Сяргей і Таня сустрэліся ў Мінску, у сваім пакойчыку ў цешчынай кватэры, моцна ўзрадаваліся, убачыўшы адзін аднаго. Я такая дурніца, а я так хацеў цябе ўбачыць, Таццянка, — прыблізна так, прыгажэй толькі, з хваляваннем гаварылі яны паміж пацалункаў.

А праз тры гады кожны з іх успамінаў той жнівень на Чорным моры як цудоўны адпачынак, якіх бывае мала і рэдка.

## Паход

І вось Віцік Мацкевіч скончыў дзевяты клас.

Гэта было вельмі доўга — дзевяты клас, і Віцік усё чакаў, калі мінецца восень, за ёй зіма, потым — вясна. Асабліва цяжкімі аказаліся апошнія дні. Ахінуліся зяленівам дрэвы ў старым парку, зацвіў бэз па ўсіх яго кутах — і павісла над зямлёй сляпучае сонца, угрэла не толькі травяністую зямлю, але і ваду на азёрах. А тут Віцік пачаў хадзіць са Светаю Зуйко, прыгожанькай, тоўсценькай дзяўчынкай. З дзяўчынкамі хадзіць лічылася модным, і Віцік цягаўся таксама, хоць і адчуваў сябе трохі ніякавата. А Света больш за ўсё любіла ездзіць на Палучэнскае возера, бліжэйшае да гарадка. Яна любіла ляжаць у цеснаватым купальнічку і паказваць свае стройныя, поўныя ножкі, на якія Віцік глядзеў скоса і крадком, але доўга. Адзнакі ў класным журнале Свету абыходзілі столькі ж, колькі глухога дзеда абыходзіць опера ці сляпую бабулю футбол. Віцік быў вымушаны з ёй ездзіць на возера, хоць якраз ён пра адзнакі думаў. У яго заўсёды было вельмі мала чацвёрак, а тут, канечне, колькасць іх непрыкметна большала, што здзіўляла бацькоў і настаўнікаў. Аднак жа і не ездзіць са Светай таксама было нельга.

Трэба адразу сказаць, што ў тыя часы, калі Віцік Мацкевіч заканчваў дзевяты клас, слова «акселераты» яшчэ не было. Дакладней, яно было, але ўжывалі яго вельмі рэдка. Амаль зусім не ўжывалі. У тыя часы нават дзевяцікласнікі лічыліся дзецьмі, і неабходнасці ў гэтым слове не было. Гэта пазней ужо, у сямідзесятыя гады, пайшло гуляць такое слаўцо, бо часта трэба было

сёе-тое вытлумачваць, а не заўсёды ўдавалася. Ну і знайшлося слова, якое ўсім спадабалася. І цяпер бацькі не адразу хапаюцца за сэрца, калі іхняе чатырнаццацігадовае дзіця пытае: «А ці не пайсці мне, мамачка, замуж?..»

Але прыйшоў нарэшце той дзень, калі ўсё цяжкае і нуднае засталося ззаду. У школе скончыліся заняткі, на вуліцы пахаладнела, знікла сонца за хмарамі — у сувязі з гэтым Віцік атрымаў невялікую перадышку ад Светы, а самае галоўнае — можна было ісці ў паход.

Пра гэты паход Віцік і яго сябра Саня Валовік гаварылі цэлы год.

— Пойдзем на Глыбокае возера,— казаў Саня і глядзеў на Віціка, быццам той яму пярэчыў.

— Ага, пойдзем,— згаджаўся Віцік.— Пройдуць зіма, вясна, і ніхто нас не ўтрымае, нават твая маці.

Саня трохі цішэў, але ненадоўга.

— Не можа быць, каб не пусцілі. Мы ўжо дзесяцікласнікамі будзем.

— Канечне, пусцяць. Ты сваім скажаш, што на дзень ідзём, а самі цэлы тыдзень сядзець там будзем!

Саня ўздыхаў, шкроб патыліцу, але ўпарта выводзіў у сшытку назвы неабходных для паходу рэчаў. З бацькамі ў Сані была праблема, і ён яшчэ не быў упэўнены, што здолее яе вырашыць. Пра няўпэўненасць гэтую ён нікому не гаварыў, але Віцік і так усё бачыў. За сябе Віцік не надта хваляваўся, бо ведаў: калі пусцяць Саню, пусцяць і яго. Віцікавы бацькі лічылі Саню сур'ёзным і разважлівым хлопцам. Такім жа сур'ёзным хлопцам лічылі Валовікі Віціка, і кожная сям'я нічога добрага не гаварыла пра сваё дзіця. Няма прарока ў сваёй айчыне — супакойвалі сябе хлопцы. Але самая вялікая небяспека, па агульнаму разуменню, хавалася ў Саневай маці — Алене Леанідаўне. Алена Леанідаўна не верыла ні свайму мужу, ні начальству, ні бюро прагнозаў. Яна верыла сабе і

сваёй маці, якая жыла далёка — у вёсцы пад Гародняй. Маці зараз побач не было, і такім чынам усё залежала ад яе самой. Гэта Алена Леанідаўна паўтарала не толькі сабе, але і ўсім акружаючым. І зусім невядома было, якія б прадчуванні з'явіліся ў яе, калі б яна пачула пра паход. Саня пакрысе рыхтаваў маці, і тую ўжо раз-пораз ахоплівала лёгкая трывога, аднак пакуль што неба было ясным.

Відаць, хлопцы сапраўды схадзілі б у паход калінебудзь пасля дожджычка ў чацвер. Ва ўсякім выпадку, Віцік упэўнены ў гэтым, бо ён бачыў твар Алены Леанідаўны, калі яна пачула жахлівую навіну. Але тут адбылося нечаканае. Пятро Фёдаравіч, муж Алены Леанідаўны і Санеў бацька, які амаль заўсёды маўчаў і гуляў сам з сабою ў шахматы, на гэты раз перавярнуў дошку з фігурамі, закурыў — у пакоі! — «беламорыну» і сказаў:

— Няхай ідуць!

І хлопцы пачалі збірацца ў паход.

— Вось што значыць слова,— шэптам гаварыў Віцік Саньку,— калі яго гавораць зрэдку, а не кожную мінуту. Як адрэзаў.

— Маладзец, бацька,— толькі круціў у адказ галавой Саня.— Першы раз бачу, каб у маці мову адняло.

— Ага, маўчыць і за сэрца трымаецца.

— Але ж акрые хутка. Як пачне ўсякае раіць — толькі ківай галавой і маўчы.

Алена Леанідаўна сапраўды акрыяла пад вечар. Яна збегала да суседзяў, потым прыйшла і катэгарычна сказала:

— Возьмеце кожны па дзве коўдры. І світэры. Кажуць, што пазамінулай ноччу было ўсяго плюс пяць, амаль замаразкі.

Хлопцы дружна заківалі галовамі.

Праз два дні ў прыхожай Валовікаў стаялі два новенькія, туга напакаваныя рукзакі. У хлопцаў, калі яны глядзелі на іх, сама сабой з'яўлялася шчаслівая і трохі дурная ўсмешка. Алена Леанідаўна асцярожна кратала рукзакі рукой і крычала ў суседні пакой:

— Пеця, можа, ты заўтра машыну з работы возьмеш? Завёз бы хлопчыкаў, паглядзеў, як там... А, Пеця?

Пятро Фёдаравіч не абзываўся, гуляў у шахматы.

— Заўтра ў сем раніцы паедзем аўтобусам,— сказаў Саня.— А там пешшу пройдзем, усяго чат... адзін кіламетр.

— З такімі мяшкамі!..— бедавала Алена Леанідаўна.

Бацькі Віціка да паходу паставіліся спакайней. Маці, канечне, з паўдня не знаходзіла сабе месца, прыдумвала, як бы гэта затрымаць сыночка, але нічога не прыйшло на розум. Бацька, распытаўшыся, узяўся абедзвюма рукамі за жывот — такая ў яго была прывычка думаць — і сказаў:

— Доўга не выседзяць. Дні праз тры прыскочаць. Як згаладаюцца, так і прыедуць. Чуеш, маці?

— Там жа возера гэтае... Яшчэ ў ваду палезуць...— забедавала маці, гаротна заківала галавой.

— Паглядзі, халадэча якая,— паказаў у акно пальцам бацька.— Палкай у ваду не загоніш. Патрасуцца, збяруць манаткі і прыбягуць.

Віцік сцвярджальна пахітаў галавой — канечне, прыбягуць, на хвілінку заскочаць на возера — і назад.

Назаўтра ранкам хлопцы адбіліся ад праважатых і самастойна прыйшлі на аўтобусную станцыю.

— Узяў? — спытаўся Віцік, пільна паглядзеўшы па баках.

— А то! Пад вечар хадзіў. Сказаў, што ў футбол іду гуляць, а сам да магазіна. Партвейн, дзве бутэлькі.

Вось так. Калі аўтар папярэджваў, што нашы героі не акселераты, ён зусім не хацеў паказаць хлопцаў

бледнатварымі анёламі, якія вучаць днямі, завёўшы вочы пад столь, вершы і тэарэмы. Нават і думкі такое ў аўтара не ўзнікала. Можа, дзе і ёсць хлопчыкі, якія з ранку да вечара вучаць урокі, дапамагаюць адстаючым, не заўважаюць папяровак у суседнім садзе і нават і не падазраюць, што за рубель з нечым можна купіць у адным з аддзелаў гастранома сёе-тое. Тэарэтычна такія хлопчыкі могуць быць. Аднак Віцік і Саня, на жаль, ведалі і пра гастраном, і пра тое, што з дзяўчынкамі можна цалавацца. Так ужо атрымалася ў іхнім жыцці, што давялося спазнаць. І тут доўга, мусіць, разбірацца, хто вінаваты ў гэтым. Аўтару проста хочацца, каб не думалі пра яго знаёмых Віціка і Саню як-небудзь памылкова. Маўляў, яны такія правільныя, што аж сумна. Не, гэта звычайныя, добрыя хлопцы, якія жывуць між людзей.

На станцыі было народу — як мурашак у мурашніку. Хлопцы даведаліся, што большая частка гэтага растрывожанага натоўпу едзе на фэст у недалёкае мястэчка, а многія якраз іхнім аўтобусам, на які хлопцы — малайцы — загадзя ўзялі білет. Хоць і з білетамі, але ўвапхнуцца ў аўтобус яны ледзь-ледзь здолелі.

Дзядзькі і цёткі варушыліся, пхаліся клункамі і кашамі, зусім не звярталі ўвагі на добра-ткі заціснутых турыстаў. Чакаў фэст, і тут ужо сваіх турбот вышэй галавы. «Абы даехаць...» — кректаў пад пахаю магутнай кабеты высахлы дзядок. Хлопцы маўчалі, бераглі сілы.

На прыпынку «Возера Глыбокае» Валовіка выкінула з аўтобуса адразу, а Віцік засеў. Ён тузаўся, торгаўся, вужом выкручваўся — але рукзак сядзеў між спінаў дзядзькоў, як цагліна ў кладцы. Нешта і трэснула яшчэ каля вуха. Віцік аб'ехаў трохі ўніз і ўбок, каб хоць як скрануцца з месца — іываліўся з аўтобуса.

— А дзе рукзак? — залыпаў вачыма Саня.

— Там...— дрыгатлівай рукою паказаў Віцік.

— Аддайце руказак! — кінуўся да дзвярэй Саня, уклешчыўся між дзвюх цётак.

Трэба сказаць, што Саня быў хлопчык ужо не худзенькі. Гэта толькі Алена Леанідаўна ходзіць за ім з катлеткамі і рыбіным тлушчам. А так аднаго разу прыціснуты Санем дзядзька заенчыў на ўсю чаргу: «Оё-ёй, пусці, здаравіла, руку аддай!»

У сярэдзіне аўтобуса зноў завірыла, узмацнелі галасы, і з дзверцаў выціснулася спачатку цётка ў збітай на плечы хустцы, за ёй рукзак, потым чырвоны Саня.

— Ай-я-яй,— загаласіла адразу цётка,— застануся, людцы!

Але дзверцы за ёй зачыніліся вельмі лёгка. Мусіць, цётцы сапраўды пільна трэба было да мястэчка.

— Лямкі адарваліся,— сказаў, цяжка дыхаючы, Саня,— ты і вылузаўся з рукзака.

Да возера Віцік цягнуў рукзак у руках, нёс яго перад сабой, як бярэмя дроў. Сцяжынкі не было відаць, а карэнні соснаў, як на тое, высока вытыркаліся з зямлі. Пот казытаў шыю, адна кропля вісела на кончыку носа, не хацела падаць. Віцік прымружваў павекі, але ўсё адно рэззю залівала вочы. Думкі ў галаве блыталіся гэтак жа, як і ногі.

Возера выяснілася між соснаў зусім нечакана. Адступіліся ў бакі і назад дрэвы, і далёка і роўна разляглася асмужаная прастора спакойнае вады. Было ціха, сонца не магло прабіцца з-за аблокаў, але здавалася, што з азёрнае глыбіні ідзе яснасць, з-за якое слепа ўваччу. Лес выпускаў пад самую ваду шырачэзныя дубы, і чорныя, вузлаватыя карэнні іх знікалі ў вадзе. З вады патыхнула свежасцю і спакоем. Трохі ўбаку нячутна рэзалі роўную ваду вострыя шыльцы чарацінак.

Хлопцы прайшлі берагам колькі сот метраў і спыніліся пад дубам на тры катакі. Тут было роўна, прастор-

на, зусім блізка да вады. Адразу пачалі корпацца з палаткаю, круцячы і цягаючы яе па зямлі.

— Здаецца, во гэта ўваход...

— Во, ну во верх, а тута ніз, давай, расцягні...

— Сюды кол, тут кол, а гэта дзірка нашто?

— Бач ты, вялізная якая палатка. А казалі, што на дваіх.

— Гэтую вяроўку да дуба прыкруцім, гэтую да куста... Што, яшчэ адна вяроўка? Доўгая, халера...

Саня ў кустах знайшоў два калы. Нехта ссек дрэўцы, абчасаў іх — і кінуў. Паставілі калы, прывязалі вяроўкі — і палатка ўжо стаяла, як на малюнку. Па чарзе злазілі ўсярэдзіну, з павагаю да сябе адабральна пакракталі.

— Харошая.

— Д-да, што тая хата.

Саня пайшоў аглядаць мясціны — спачатку шамацеў у бліжэйшых кустах, потым сціх. Віцік абкопваў палатку, акуратненька выкладваў дзёран. Спыніўся на хвіліну, з'еў цукерку, каб лягчэй працавалася. Раптам загула побач адна аса, другая, паселі на абгортку цукеркі. І яшчэ зазумкалі над вухам паласатыя стварэнні, лёталі пры палатцы, бы тут было іх жытло.

— Каб на вас... Пазабіваю!

Віцік ляснуў рыдлёўкай па абгортцы, прыстукнуў адразу дзвюх вос. Нізка загула яшчэ адна, і Віцік, ганяючыся за ёй, стукнуў чатыры разы ўзапар.

— Шчэ адна... Та-ак, наступная...

З кустоў выскачыў спалоханы Саня.

— Цьфу, а я думаў — страляюць. Па лесе далёка чуваць.

— Восы,— паказаў на зямлю Віцік.— Джыгне каторая — мала не будзе. Ну от я і...

— Можа, гняздо іхняе блізка... Тады спакою не дачакаемся.

— Не, яны на салодкае прыляцелі. Я цукерку з'еў, дык пачулі.

Неўпрыкмет бралася на вечар. Сшарэла, злілася з вадою палоска процілеглага берага. Памалу, незаўважна грувасціліся нізкія хмары, дачасна выціскалі з лясное гушчыні шапатлівы змрок. Зацямнелася і возера, разгойдалася невялічкая хваля. У дубовых карэннях ужо плюскацела, быццам нехта боўтаўся пры беразе.

Віцік корпаўся ў палатцы, як пачуў побач галасы. Незнаёмы голас нешта бубнеў, а Санька апраўдваўся.

Каля палаткі стаяў ляснік, перад ім, як перад дырэктарам школы, пераступаў з нагі на нагу Саня.

— Мы не ведалі,— гаварыў Саня,— мы толькі сёння прыехалі...

— Бліжэй як за чатырыста метраў ад возера палаткі стаўляць забаронена,— строжыўся ляснік.— Сёння ж пераходзьце. Выйшла пастанова аб ахове возера. Для парушальнікаў — штраф.

Цяперашнія аднагодкі Віціка і Сані наўрад ці тут жа пабеглі б выконваць такі загад. Тым больш што пачаўся дождж. Яны, мусіць, пераначавалі б, а раніцою пераставілі б палатку. Гэта прыкмета цяперашняга часу — рацыяналізм і імкненне рабіць усё па-свойму. А Віцік і Саня выслухалі вінавата лесніка, пакідалі усе свае шлункі ў палатку, зашпілілі яе збольшага, адзін узяўся спераду, другі ззаду — і пабрылі ўжо ледзь бачнаю сцяжынкаю. Дзядзька пры форменнай фуражцы сказаў — трэба рабіць. Яшчэ штрафу ўлупіць. А штраф — гэта ого, можа, тры рублі, а можа, усе пяць. Шалёныя грошы. Дарослых трэба слухацца, тым больш калі на службе яны.

І ўліў дождж. Барабаніла ў голаў, грымела па шчыльным лісці, коўзаліся ногі на раскіслай сцяжыне. Было цёмна, мокра, слепа ўваччу. Бліскаў раз-пораз Санеў ліхтарык, але надта кволы быў агеньчык святла

ў гэтай вялікай, вусцішнай начы. Віцік ужо ішоў куды ішлося, адно пільнаваўся, каб не паваліцца.

— Давай тут...— пачуў ён як быццам здалёк.— Трасцы што лепшага знойдзем...

Зноў пачалі цягаць палатку, торкаць калы, да нечага прывязваць слізкія, звужэлыя вяроўкі.

— Хай яно спрахне... Лезем усярэдзіну.

— Во, і тута вада...

— У гэтым куту няма, давай сюды.

— Памацай, коўдры сухія ці не. Нешта я не разбяруся.

Ад мокрае вопраткі бралі дрыжыкі, але ўжо не лілася за каўнер вада і не трэба было нікуды ісці.

— Заўтра паедзем.

— Д-да... дахаты...

— Дождж, халера.

— Ага, залева цэлая...

— Мусіць, і заўтра будзе.

— Ну, не высахнем.

Аднак ранак выдаўся пагодны — уліўся ў вочы вялікім, на паўнеба, сонцам, абмытым зяленівам, здаволенаю цішынёй, што вісела цяжкімі кроплямі на кожным лістку. Добра выбітыя, пачысцелыя сцежкі ляжалі гладкія, без слядоў, а пад выносістымі соснамі ўжо не калоліся, змякчаныя дажджом, леташнія іголкі. Віцік ажно прабегся трохі сцежачкаю, не засмуціла яго лужына пасярод палаткі, у якую закаціўся ён, прачнуўшыся. Дзе падзеліся жуда ўчарашняе ночы, роспач і думкі пра ўцёкі? Як і не было нічога — гойсаюць хлопцы наўкруг палаткі, выцягваюць мокрыя коўдры і вопратку, падсцілаюць пад сваё жытло ялінавыя лапкі. Аказалася, што і месца, не выбіраючы, выбралі яны ўдала: наўкола кусты, амаль не відно дамка [redacted] дарогі, якая бяжыць да возера. Вось ужо і есці захацелася. Віцік паляцеў з кацялкамі па ваду, Саня капае ямку

пад вогнішча. І гаворка ўжо ў хлопцаў не падобная да ўчарашняй:

— Санька, табе пакеты з супамі несці ці боршч?

— Супы цягні. Зараз мы туды перцу, лаўровага ліста з каўбасой накідаем. За вушы не адцягнеш!

— Ага, давай як паболей. Дарма што супы розныя. З'ямо.

— А то не. А потым загараць ляжам. Бачыш, сонца якое. Неграмі прыедзем.

— Хы-хы... яны там у горадзе, а мы тут, як каралі!

— Пад вечар скупнёмся, а? Вада за дзень нагрэецца.

Наварылі нечага, ці то суп, ці то каша — не разабраць, але дарма, з'елі з асалодаю. Ляжаць, жмурацца на сонцы, як каты на прыпечку, не гавораць нават, бо лянота. Шкадуюць цяпер, што праз тыдзень трэба вяртацца на вытворчую практыку пры школе. А так бы сядзелі, праз увесь час не ўспомнілі б на той горад. Што горад? Дамы ды людзі. А тут натура! Вунь птушка нейкая, можа, сіваграк, а можа, івалга. Дзе ўбачыш такую? А во, калі ласка, сядзіць на кусце, круціць галавой, пазірае адным вокам цікаўна. Ва ўсякім выпадку — не верабей гарадскі дзівіцца з іх, а птушка.

Ружовым шарам кацілася за дрэвы на тым баку возера сонца, вада стаяла — як шкло. Хлопцы радаваліся, бо аднекуль ведалі, што ружовы захад — на добрае надвор'е. Як утыркнутыя, стаялі пры беразе чарацінкі, у чыстай цішы сачылі за наваколлем нерухлівыя дубы. Далёка, як не на ўсё возера і лес, ляцеў плёскат, калі, плаваючы, малацілі рукамі і нагамі хлопцы па вадзе. Спакой, вялікая ціша клаліся і на сэрца, і думалася лёгка, крышачку нават трывожна.

Наступнымі днямі сапраўды сонца добра ўгравала зямлю, раненька, гадзін у шэсць, выганяла хлопцаў з палаткі. Віцік спрабаваў лавіць рыбу, а Саня пераш-

каджаў яму — купаўся побач, знікаючы ў тумане-пары, боўтаўся, як шчупак на заранцы. Хлопцы былі б зусім шчаслівыя, каб не наязджалі да іх госці. Спачатку прыехаў Санеў бацька, ніякавата патупаў вакол палаткі.

— Я, гэта, на рыбу...— гаварыў ён, гледзячы па баках і ўгору.— Сябра ехаў, дык і я з ім. Пайду зараз лавіць...

— Знайшоў жа,— сказаў Саня, калі бацька пайшоў.

— А я так і думаў, што нехта прыедзе,— супакоіў яго Віцік.— Толькі я думаў, што твая маці прыляціць.

— Во цяпер і радуйся са свае прадбачлівасці,— чамусьці як не зазлаваў Саня.

А назаўтра, абышоўшы за паўдня вакол возера, знайшла іх стрыечная Віцікава сястра Люда. Цяпер Віцік стараўся адшукаць пільную справу, лазіў заклапочана ў кустах. Добра, хоць Люда не хавалася, а адразу сказала — прыехала дзяцей пабачыць, раптам што-якое. Яна і пазайздросціла хлопцам, каб быў час, сказала, пажыла б разам з імі.

А яшчэ, перацягваючы ў тую першую ноч палатку, хлопцы згубілі бутэлькі. Тыя самыя, за рубель [redacted] нечым. Пашукалі трохі — і кінулі. Што ж, якія пітакі — такое і пітво іхняе. Каб заўсёды гэткае гора было, ніхто б на жыццё не наракаў.

І вось стаіць у кустах палатка, курэе рэдкім дымком вогнішча, каля яго сядзяць Віцік і Саня. Упэўнена сядзяць, лазяць лыжкамі ў кацялок — вараць есці. Яшчэ не ведаюць, што за страва ў іх павінна атрымацца, але не бяды. Нешта будзе. Твары ў хлопцаў крыху абветралі, яны ўжо не мітусяцца, не скачуць казлом, [redacted] няспешна ўпраўляюцца па гаспадарцы.

Кожны можа прыгадаць сябе на месцы гэтых хлопцаў. Раней ці пазней надараюцца ў жыцці чалавека та-

кія паходы. А што ж — выпраўляецца моладзь за кухталямі і адкрыццямі, прамываць, так сказаць, вочы. Бо вядома ж, што тыя вочы спачатку плевачкаю зацягнутыя, як у кацяняці малога. Глядзіць кацяня, здаецца, на свет, а бачыць адно матку сваю ды спадачак з малаком. Што, адкуль — не цікавіць яго. Яно, тое кацяня, і ўсунецца куды не след, зробіць што не так. А дадуць па носе, глядзіш — паразумнелі вочы.

Хлопцы сядзяць каля вогнішча, уважліва зазіраюць у кацялок, лыжкі ў іх напагатове. Няхай сядзяць. Яшчэ, мусіць, сустрэнемся мы з імі, невядома толькі, ці пазнаем адно аднаго.

## Хадоска

Баба Хадоска апошнімі днямі думала, што ўсё было б добра, каб не пераезд Толікавых бацькоў у Мінск. Ажно з самага Урала, з горада Чалябінска збіраліся пераязджаць бацькі Толіка — мужа яе сярэдняе ўнучкі Ліды.

Хадоска шмат жыла на зямлі, ажно ў дзевятнаццатым стагоддзі пачаўся даўгі век яе, і яна мала здзіўлялася з людзей — з іх чуласці да другіх і сквапнасці, душэўнасці і жорсткасці, прыгажосці і абыякавасці. Яна прымала людзей такімі, якія яны ёсць.

Большую частку свайго жыцця Хадоска пражыла пад Хойнікамі, у той вёсцы, дзе нарадзілася і выходзіла замуж, дзе нараджаліся ў яе дзеці — хлопчыкі і дзяўчынкі,— дзе перабыла лютую вайну, якая забрала палову дзяцей і якая забіла мужыка Макара,— праз два гады пасля заканчэння, але забіла. Два гады адхадзіў, адлежаў Макар — і памёр, бо напаўмёртвым прыйшоў ён з вайны, перхаў і харкаў крывёю, не мог хадзіць за плугам і часаць бёрны, не мог нават спаць спакойна па начах. Яна ведала, што жыць ён не будзе, прывыкла да гэтае думкі і толькі баялася таго дня, калі ён будзе паміраць. Але Макар памёр ціха, яго пахавалі, пакрысе забываўся ён, бо час бег, нараджаліся ў яе дзяцей свае дзеці. Ды забыўся не назусім яе Макар, а стаў успамінацца цяпер, праз вялікую чараду розных, але нечым падобных, гадоў. Мусіць, Макар чакаў да сябе, так заўсёды людзі думаюць, калі пачынае ўспамінацца даўно забыты нябожчык. Гэтак жа думала і Хадоска.

Некаторыя дзеці яе раз'ехаліся па сваё шчасце яшчэ да вайны, некаторыя пасля, неўпрыкмет засталася Хадоска адна. Добра было, што старэйшы сын Міша жыў недалёка, у Хойніках. Меў ён вялікую сям'ю, вялікую хату, адбудаваў на сваім участку дом старэйшай дачцэ, думаў яшчэ пра адзін — сыну, і ўвесь час клікаў Хадоску да сябе. Прыязджаў на матацыкле назапашваць сена ці выбіраць бульбу, угаворваў, каб ішла матка жыць да яго. «Не хачу,— казаў,— каб ты адна тут жыла, прадасі хату, грошы схаваеш на няшчасны дзень — і будзеш у мяне. Унукі велікаватыя ўжо, гадаваць нават не трэба. Я хачу, каб ты жыла, як усе людзі».

Хоць Хадоска і так жыла, як усе людзі, Міша ўсё ж дамогся, каб маці прадала хату і пераехала да яго. Увосень тое было, калі і ў людзей, і ў Хадосчыным садзе жоўта было ад буйных, сакавітых антонаў, што роўненька, як цыбуліны на нізцы, сядзелі на затонкім для іх вецці, глыбока ўганяючы ў зямлю падпоркімыліцы. Бульбу тады, помніць Хадоска, выбіралі пазнавата, усё лета барабанілі, церушылі дажджы, але і бульба ўдалася. Праўда, ніколі не было такога, каб на Хадосчыных сотках благая бульба расла. Зямля там была добрая, а Хадоска любіла хадзіць па ёй, у час, якраз калі трэба, прасіла мужчын выкінуць гной на поле, абагнаць ці паскарадзіць маладую бульбачку. Ды і так вольнаю хвілінаю крукам гнулася на сотках, скубла пустазелле, якое і без таго цяжка было знайсці між роўных кусточкаў. Хадоска вельмі любіла і бульбяны цвет, часта проста прыходзіла глядзець, як ахвотна ляціць пчала да беленькае ці ружовенькае кветкі. Пах квітнеючае бульбы яна выразна памятала нават цяпер.

Большая дачка, Волька, таксама жыла недалёка, пятнаццаць кіламетраў з Хойнікаў, але жыццё яе складвалася шмат горай, як у Мішы ці Тані, другое

дачкі, якую мужык [redacted] вайсковых звёз ажно ў Разань. Таня часта пісала матцы, хвалілася, як добра жыве яна ў дзяржаўнай кватэры і як жалее яе мужык. На фатаграфіях, якіх шмат прысылала Таня, мужчына сапраўды выдаваў прыгожым, вясёлым чалавекам, заўсёды здымаўся ў гальштуку і абдымаў поўную, задаволеную сабой Таню. Хадоска была ўпэўнена, што Сяргей Танін не п'е і любіць дзяцей і жонку. Яна радавалася за гэтую сваю дачку, успамінаючы Вольку.

Волька яе, маленькая, рухавая, языкастая, выйшла замуж пасля вайны, хутка нарадзіла траіх дзяўчынак і потым, не вытрываўшы жыцця з мужыком-п'яніцаю, развялася. Гэта яна так гаварыла — не вытрывала і кінула п'яніцу, а на самой справе толькі чорт, пэўна, ведае, хто там быў вінаваты, што і біліся мужык з жонкаю, і хату запаліць гразіліся адзін аднаму. Але хто б там ні быў вінаваты, спакойнага жыцця ў іх наперадзе, канечне, не бачылася. Добра, што разышліся. Волька, дальбог, хваткая жанчына, другая б на яе месцы бедавала век, а гэтая ў адзін год прадала хату і падалася некуды пад Мінск, гэта з трыма дзеўкамі, вялікімі ўжо. Пазней, прыехаўшы ў Хойнікі паглядзець сваякоў, Волька расказвала, як хутка яна паправіла купленую хату, развяла агарод, зжылася з суседзямі, якія надзівіцца не маглі на дзелавую кабецінку, не маглі не ацаніць здольнасці яе ўлагоджваць людзей, што і цагліна ў яе заўсёды была, і гонта, і дошкі на хлявок.

— Харашо жыву,— гаварыла Волька.— Кабанчыкі ёсць, ядуць добра, і такія ўрэдныя, проста налпам лезуць да мешанкі. Хата харошая, тэлевізар справіла, кіно поцемкамі гляджу.

Ну, тэлевізарам яна, канечне, нікога не здзівіла і не магла здзівіць, а вось што адна ў чужым баку здолела прыжыцца — за гэта яе хвалілі, а каторыя з сваячак і зайздросцілі.

— Цяпер трэба ўмець жыць! — трохі падпіўшая Волька гаварыла хуценька і моцна.— Аднаму грошай падкінеш, другому проста слова харошае скажаш — і ўсё ў цябе ёсць. Калі Марыйку, большую сваю, выдавала замуж, прывяла яна мне першы раз хлопца, а я адразу бачу — абы-што, а не хлопец. У хату баіцца зайсці, чаўпецца, не ведае, дзе прысесці. Я і кажу — не будзе ў цябе з гэтым хлопцам нічога, ні грошай, ні сям'і людскае. Паслухалася, прывяла другога, у форме, красівага такога, высокага. Лётчыкам служыць, пасажыраў возіць. Сэрца матчына адразу чуе, дзе шчасце яе дзіцяці. Цяпер у Чалябінску жывуць, кватэру атрымалі.

Хадоска сядзела побач, ківала галавой, радавалася, што яе дачка такая хваткая, не прападзе. Яна толькі думала, ці не замнога хваліцца Волька. Цяпер людзі калі і бядуюць у жыцці, усё роўна стараюцца паказаць, што ім добра надта. Цяпер от, заўважай, калі і жанчыны адны збяруцца, асабліва маладзейшыя, не старога веку — дык расказваюць, што ў каго ў хаце ёсць, зайздросцяць тым, хто з машынаю сваёю. Даўней бабы, сабраўшыся разам, пра нягоды гаварылі, спачувалі адна адной, не хаваліся, калі ў каторай з мужыком блага.

Хадоска ў такіх сваіх думках не памылілася. Як кладліся спаць, застаўшыся адны ў маленькай спаленцы, Волька шмат скардзілася матцы на сваю жаночую адзіноту.

— Падрасце трошку меншая, Верачка,— і застануся зусім адна,— шаптала, баялася голасам ускалыхнуць сонную цішыню цёмнага дома Волька.— Вунь і Лідка паехала за Марыяй, у дзіцячым садзіку працуе. Піша, што хлопец ёсць, жаніцца на ёй хоча. Будуць жыць за светам, калі цяпер давядзецца ўбачыць іх...

Яна нават паспрабавала трошкі паплакаць.

Але дарма бедавала тады Волька — яе Ліда не за-

хацела жыць у Чалябінску, прыехала назад дамоў і прывезла з сабою мужыка. Толя, муж, быў кароткі, шырокі, круглы тварам і чарнявы. Хлопец моцнага здароўя, ён любіў і ўмеў выпіць з сябрамі ці знаёмымі бутэльку-другую гарэлкі. Лідка, што была ўся ў маці, побач з ім выдавала зусім дробненькаю.

Волька ў пісьмах нарадавацца не магла на зяця — той перакрыў ёй хату, зрабіў прыбудову да хлева, выкапаў студню ў двары, не трэба было цяпер бегаць да суседзяў па вядро вады. Хоць і добраю гаспадыняю была Волька, а ўсё ж мужчынская рука шмат што знайшла паправіць ці зрабіць у гаспадарцы.

Толя і Ліда прыехалі з таго Уралу не проста маладымі мужам і жонкаю, а з добрымі грашыма, якія далі ім Толікавы бацькі. З цяжкасцямі, праз нейкія блаты, прапісалася Лідка з сям'ёю ў Мінску — ужо нарадзіўся Юрык, трэці з праўнукаў Хадоскі,— а потым, зноў цераз знаёмых, стала ў чаргу на кааператыў. Больш правільна — у той кааператыў Лідка ўлезла без чаргі, таму што чатырохпакаёвую кватэру яны атрымалі амаль праз паўгода. Да кватэры ў Лідкі нарадзіўся Сяргейка, і ўваходзіны і нешта накшталт хрэсьбінаў гуляліся ў іх разам.

Вось якраз тады Толя і Лідка паклікалі да сябе Хадоску. Спачатку прыслалі ліст, потым прыехаў сам Толік. Была сярэдзіна зімы, сляпым днём і глухімі доўгімі начамі над гарадком панаваў спакой. Хоць і хадзілі павужэлымі ад метровых гурбаў снегу вуліцамі людзі, усё роўна гарадок выдаваў снулым, жыццё ў ім разам з цяплом хавалася па хатах. Толік у сваім вялікім кажусе быў падобны да мядзведзя, радаваўся цішыні і вялікаму снегу.

— Кватэра ў нас вялікая, ажно чатыры пакоі,— гаварыў да Хадоскі Толя,— будзеце жыць, у якім хочаце. Каб Лідцы не трэба было на работу выходзіць, яна б сама Юрыка і Сярожку даглядзела. Але малы

хварэе нешта, баімся ў яслі аддаваць. А вы сабе будзеце сядзець у цяпле, праўнукаў глядзець. Малым з бабуляю добра будзе.

А Хадоска і так ужо была гатова ехаць у Мінск. Увогуле, чалавеку цяжка скрануцца з абжытага месца, паехаць туды, дзе незнаёмыя людзі і мясціны. Гэта маладым, ды і то рэдкім, лёгка сабрацца і гайсануць куды вочы глядзяць, хоць сабе на поўнач, хоць на поўдзень. Але Хадоска без асаблівых роздумаў наважылася ехаць з Толем. «Каб мне яшчэ якая работа была тут,— неяк адразу падумала яна,— то і гаворкі, мусіць, не было б ніякае. А соўгацца па чужой хаце, замінаць, няхай сабе і ў роднага сына — невялікая радасць. Лепей малых гадаваць, тым больш не чужыя яны, родная кроў, а там надыдзе час паміраць, і калі ты пры справе — лягчэй гэта». Яна была ўпэўнена, што паміраць, робячы што-небудзь, шмат незаўважней і лягчэй. Яна нездарма так часта стала ўспамінаць свайго Макара, які на яе вачах згасаў пакутліва і доўга.

З праўнукамі жыць ёй стала сапраўды весялей, яна часта ўсміхалася, расказвала казкі, цяжка ўспамінаючы ваўкоў і лісак, дзядоў і баб, што жылі ў тым напаўзабытым казачным свеце. Але ўспаміналась і радавалася, бачачы здзіўленыя вочы Юрыка. Нават Сяргейка слухаў, хоць і разумеў адно толькі «мама», «баба» ды «дай».

Усё добра было б, каб не надумаліся пераязджаць пад Мінск бацькі Толіка.

Гэта яна ўжо гады тры пражыла тут, як пачаліся размовы пра пераезд. Старыя бацька і матка Толіка, мусіць, ніколі не захацелі б ехаць сюды, каб не Лідка. У матку яна ўдалася, дальбог, гэткая ж спрытная, усё некуды ляціць, усё цягаецца па магазінах. З работы як пойдзе — гадзін у дзесяць прыходзіць, стомленая, але з басаножкамі якімі-небудзь ці іншай халерай.

У магазінах у яе знаёмыя, на складах знаёмыя, шмат і ў хату прыходзяць. Толік дык і зазлуе каторы раз, сварыцца пачынаюць, але ўжо не перайначыш яе. Мусіць, мала ёй паказалася хаты вялікае, у чатыры пакоі, дываноў ды гарнітураў усялякіх. Машыны захацелася.

— Калі твой бацька хату прадасць у Чалябінску,— з дня ў дзень пачала гаварыць мужыку Лідка,— дык яму дзесяць тысяч за яе дадуць. А мы ім тут, пад Мінскам, таннейшую хату падшукаем. Будуць жыць сабе на ўсім сваім, мы ім і дроў падвязём, і бульбу выберам, і так што па гаспадарцы зробім. І якраз нам на машыну будзе.

Толік слухаў Лідку моўчкі — відаць, і яму хацелася ездзіць на машыне, адчуваць сябе не горшым за тых, хто так упэўнена і прыгожа круціць руль на гарадскіх вуліцах. Маўчаннем гэтым ён як быццам даваў сваю згоду. А Лідка не сунімалася, і ляцелі ў Чалябінск лісты з уговорамі і абяцаннямі, часцейшымі рабіліся тэлефонныя званкі ў той жа горад, не глядзеў ніхто, што званкі тыя каштавалі грошай.

Хадоска не ўмешвалася, слухала толькі, што гаварылася ў хаце. Апошнімі часамі не было ў яе асаблівых клопатаў — Юрык у школу пайшоў ужо, цягаў вялікаваты для такога дзіцяці партфель, а Сяргейка ў садзіку з маці, з Лідкаю, яна выхавацелькаю ля самага дому здолела ўладкавацца. Хадзіла Хадоска па пакоях, шукала работы сабе, часта ездзіла на ліфце з восьмага паверха ў двор, на лавачку, дзе сядзелі старыя, шмат, праўда, маладзейшыя за яе. На лавачцы гаварылі пра хваробы, пра благое ці нешчаслівае, што здаралася ў суседзяў.

Як работы ў чалавека няма, той думаць пачынае шмат, можа, і залішняга. Ніхто ёй не гаварыў, ніводным словам не абазваўся, што яна нічога не робіць, есць чужы хлеб. Але яна сама пачала так думаць. Тут яшчэ і Лідка ўсё прыспешвала свёкра са свякру-

хаю, каб хутчэй распрадаваліся ў Чалябінску і сюды ехалі. Нічога, кажа, у нас пакуль пажывяце, хату самі прыгледзіце, купіце такую, каб падабалася. Лідка нават трох студэнтаў, маладзенечкіх хлопчыкаў, пусціла жыць, па пятнаццаць рублёў з кожнага бярэ. Яно і праўда,— за кааператыў ажно шэсцьдзесят рублёў трэба плаціць. І Хадоска рашыла ехаць у Хойнікі да сына. Вельмі лёгка рашыла, і сказала адразу Лідцы і Толіку, папярэдне адпісаўшы ў Хойнікі, што прыедзе. Яна не захацела нават чакаць да лета. Здзівіліся ўсе з бабы, але надта не адгаворвалі, толькі падумалі, мусіць, здурнела старая, столькі год паглядзеўшы на свет. Сяргейка, праўнук яе любы, што ўжо гучненька тупатаў па кватэры і нават біўся з Юрыкам за цацку якую-небудзь, сказаў: «Ты, баба, едзь, я ўжо ў садзік хаджу, там мяне цяпер мама глядзіць».

— Вачаняты ў цябе — як жучкі,— чамусьці засмяялася квола Хадоска.

— Якія жучкі? — здзівілася малое, папаўзло на калені да свае старое бабы.— Раскажы, чаму жучкі...

— Гэта ў нас вішанькі пераспелыя так завуцца. Чорненькія, смачныя, бо на сонейку віселі шмат. Іх птушкі розныя надта любяць.

— Хачу вішаньку! — закруціўся на каленях малы, абедзвюма рукамі стаў церці хітранькія вочкі.

— Бяжы цукерку ў шуфлядзе вазьмі.

Усякіх цукерак у хаце заўсёды было поўна, як і кілбас, як і рыбы тоўстай, чырвонай, як мяса ўсё роўна.

Вось і едзе Хадоска. А тут яна яшчэ пра Мішу дачулася. Волька, як прыязджала мінулым разам, свежыны прывозіла, сальцісону ды крывянкі свежанькае, расказвала, што Міша, ажаніўшы двух сыноў і дачакаўшыся, пакуль скончыць інстытут малодшы, раптам вырашыў кінуць жонку ці, як цяпер кажуць, развесціся. Хадоска не надта паверыла дачцэ, ведала, што тая

не адну праўду па сваяках ды знаёмых носіць, але затрывожылася. Наўрад ці гэтак адразу паехала б яна да Мішы ў іншыя — лепшыя — часіны. Ніколі не любіла яна вучыць. Але дапамагаць людзям Хадоска заўсёды хацела і ўмела гэта рабіць шчыра і душэўна. Калі сапраўды блага ў іх, думала яна пра Мішу і ягоную Тоню, дык пасаромеюцца, можа, няславіць сябе, мяне ж глядзець трэба будзе, а я і захварэць магу.

Хадоска заспяшалася так, што прымусіла Лідку пашыць ёй у знаёмае краўчыхі сукенку і спадніцу. Яна хацела прыехаць да сына ў абноўках — каб не думаў, што дрэнна ёй жылося ў вялікім горадзе, што не толькі пастарэўшаю прыехала яна назад, але і збяднеўшаю. Хадоска ніколі не прасіла ўнучку зрабіць ёй штонебудзь з вопраткі — а да той і па жуковіны залатыя прыходзілі, і па адрэзы на касцюм,— але цяпер за тры дні пашылі ёй усё. Старая нават драўляны ложак купіла сабе, Толік адправіў яго са станцыі на Хойнікі. І без гэтых грошай, што аддала яна за ложак, ёсць на што пахаваць Хадоску, а яна помніць, што ў Мішы ложак для яе зусім стары, рыпучы і гарбаты.

І яна едзе.

Пад татаканне вагонных колаў Хадоска задрамала ў плацкартным купэ. Прысніла, што адняло ёй рукі і ногі, мову адняло, і ляжыць яна нерухлівая, нікому не патрэбная, а Міша з жонкаю развёўся. З цяжкасцю скідваючы ліпкі цяжар дарожнага сну, яна расплюшчыла вочы, адчула, што ўвесь твар заліты слязьмі. Хадоска варухнула рукою. Паралюшу, які яна так наяўна адчула ў сне, пакуль што яшчэ не было.

Цягнік ішоў праз залітыя веснавой паводкаю паплавы, над якімі зрэдку ўзнікалі чырвоныя астраўкі тонкіх вербалозаў, праз белыя клубы ранішняга туману. У сляпыя вокны цадзілася кволае святло.

## Паступленне

Гэтае лета ў Кавалёвых выдалася цяжкім — Леначка скончыла дзесяты клас. Прыйшлі ўрэшце тыя дні, калі трэба было не толькі гаварыць пра паступленне Леначкі ў інстытут, а і рабіць нешта.

Вераніка Рыгораўна са страхам думала, што нічога пэўнага яна так і не зрабіла за цэлы год, што хутка экзамены, а ні яна, ні яе дачка Леначка не ведаюць, куды падаваць дакументы. Па вечарах Вераніка Рыгораўна сварылася з мужам, спрабавала нават пакрыўдзіць яго, каб ён хоць неяк пачаў варушыцца, але Сямён Мікалаевіч толькі апраўдваўся і ўключаў па тэлевізары які-небудзь футбол. Вераніка Рыгораўна ведала, што ў такіх пытаннях з яе мужа толку як з казла малака, ды ўсё ж спадзявалася на нешта — на які-небудзь шчаслівы выпадак. У глыбіні душы яна, канечне, разумела: не прыдумае выйсця — так і пойдзе паступаць яе дзіця без ніякае падтрымкі.

Леначка — высокенькая, сімпатычная, з моднай кароценькай прычоскаю — скончыла школу няблага, але было ў яе класе нямала хлопцаў і дзяўчат, якія вучыліся не горш. Ды і Вераніка Рыгораўна жыве сярод людзей, яна добра ведае, што не ў адзнаках справа. Другая з тройкамі выскачыла са школы — а будзе ў інстытуце. Як хто ўмее, гаворыць яе суседка Соф'я Барысаўна. Вераніка Рыгораўна згодна з ёй. Вось у Соф'і Барысаўны знаёмствы, дык у яе дзяцей і гарнітуры імпартныя, і дублёнкі. Леначцы яна джынсы амерыканскія прадала, дык тая ад шчасця не ведала, што рабіць. Як надзела — ні дня не здымае. І от дзе-

ці цяперашнія — пра джынсы дачка ў дзесяць разоў больш думае, чым пра інстытут.

Спачатку Вераніка Рыгораўна хацела, каб Леначка паступала ў інстытут народнай гаспадаркі. Але напалохалі шалёныя конкурсы, і пачалі думаць пра педагагічны. Ды тут ужо сама Леначка закруціла носам, надзьмула губкі — маўляў, у вёску трэба ехаць, настаўнікаў у горадзе і без яе хапае. І ўрэшце самымі апошнімі днямі спыніліся на універсітэце.

— Універсітэт ёсць універсітэт,— гаварыла Вераніка Рыгораўна.— Праўда, конкурсы там таксама немалыя. Але ж будзем шукаць, а, Сёма?

— Му-гу,— адказваў Сямён Мікалаевіч.— Можа, што якое... Ды і сама Лена...

— Што Лена? Ты ж ведаеш, як цяпер робіцца.

— Ну не ўсе ж так. А з вёскі як едуць?

— Вясковым паблажкі,— упарцілася Вераніка Рыгораўна.— У іх прахадны бал меншы.

Гэта было глупства, што ў вясковых меншы прахадны бал, але Сямён Мікалаевіч не спрачаўся. Ён не любіў спрачацца.

А Леначка ўзрадавалася:

— Вось добра! Будзем разам з Нэлаю Левінай паступаць.

— Нэла дык паступіць,— пакрыўджана, гаротна падціснуўшы вусны, сказала Вераніка Рыгораўна.— У яе бацька мастак, не тое што...

І пайшла на кухню.

Сямён Мікалаевіч пасунуўся быў да тэлевізара, але спыніўся і сказаў у паветра:

— Ну ёсць у мяне адзін знаёмы... пагавару...

Вераніка Рыгораўна тут жа ўзнікла ў пакоі, пачала хадзіць кругамі, распытваючыся, але Сямён Мікалаевіч хмурна маўчаў. Ён, мусіць, шкадаваў ужо, што раскрыў рот, як дурная рыба на чарвяка з кручком. Ды ці шмат карысці, калі даведваешся пра сваю дура-

ту дзе-небудзь у траве, пляскаючы хвастом і пазяхаючы? Сямён Мікалаевіч цяпер пакорліва чакаў, калі яго пачнуць варыць ці смажыць.

На наступны дзень, праўда, ён паспрабаваў давесці жонцы, што гэта, уласна кажучы, не яго сябра, а знаёмы аднаго яго знаёмага, Васі Шпілеўскага, але дарма — жонка ўжо рыхтавалася да сустрэчы. У халадзільніку з'явіўся каньяк, нейкі джын, балычок, каўбаса «Сталічная». І яшчэ не хапала нечага, бо безупынна круціўся дыск тэлефона, а голас Веранікі набываў непрывычныя адценні мяккасці і добразычлівасці. Раз-пораз жонка смяялася ў трубку, і смех той звінеў малінавым званочкам.

Сямён Мікалаевіч прывёў патрэбнага знаёмага ў суботу. Дакладней, займаўся тым знаёмым Вася Шпілеўскі, а Сямён Мікалаевіч толькі сустрэў іх у скверыку каля свайго дома і паказаў, куды ісці. Вася быў бадзёры, вясёлы, гаварыў, што справа сур'ёзная, і паляпваў па плячы маўклівага, трохі разгубленага знаёмага. Мусіць, Вася неяк здагадваўся аб тым цудоўным стале, які чакае іх у Кавалёвых, а знаёмы яшчэ не бачыў стала, таму і ішоў насуплены.

Вераніка Рыгораўна так прыязна ўсміхалася, была такою гасціннаю, што Сямён Мікалаевіч аж скрывіўся. Ён не любіў фальшывых усмешак, яму было сорамна бачыць іх.

За сталом гаворка чамусьці не пайшла і пасля трэцяй чаркі, хаця чарачкі тыя былі пузаценькія, даволі ёмістыя. Вася ўсё цягаў з талеркі балык. Сямён Мікалаевіч таксама, не хочучы, калупаўся ў салаце. Вераніка Рыгораўна паказвала сябе гаспадыняю і штохвіліны бегала ў кухню, хоць рабіць ёй там не было чаго.

Госць — Барыс Арнольдавіч — адчуваў сябе, па ўсім відаць, ніякавата. У яго трохі разлілася мінеральная вада, упаў відэлец, а на пераноссі з'явіліся малень-

кія кропелькі поту. Ён глядзеў сабе ў талерку і зрэдку на Васю.

— Дачка літаратуру вучыць,— нарэшце сказала Вераніка Рыгораўна, прыбегшы чарговы раз з кухні.— Цэлымі днямі сядзіць.

— Да, трэба паступіць ёй,— кіўнуў галавою Вася.— Барыс во ва універсітэце працуе.

— Дзяўчынка на філфак хоча? — нарэшце, сабраўшыся з духам, паглядзеў на Сямёна Мікалаевіча госць.

— Так, у яе здольнасці харошыя,— не выпусціла ініцыятывы з рук Вераніка Рыгораўна.— Яна толькі і думае пра філалагічны...

Госць баяўся глядзець на Вераніку Рыгораўну, вочы яго старанна абміналі яе вялікую фігуру. Ён яшчэ больш успацеў.

— На беларускім аддзяленні конкурс меншы...— сказаў ён зноў да Сямёна Мікалаевіча.

За сталом зрабілася ціха.

— Беларускую літаратуру яна вучыла,— Вераніка Рыгораўна няўпэўнена пазірала на мужа, чакала ад яго падтрымкі.

— Вучыла...— чмыхнуў Сямён Мікалаевіч.— Там жа сачыненне на беларускай мове пісаць трэба.

Вераніка Рыгораўна трохі павагалася, потым цвёрда сказала:

— Не, няхай лепш на рускае.

Госць паклаў відэлец, і галава яго амаль уехала ў плечы, што надало яму падабенства да вераб'я, які добра-ткі змёрз, седзячы ўзімку на паркане.

Барыс Арнольдавіч з самага пачатку праклінаў сябе, што паддаўся Васіным угаворам і прыйшоў сюды. Чалавек ціхі і спакойны, ён не любіў нечаканасцей, хваляванняў, мітусні, якую прыносяць тэрміновыя справы. І з першае свае жаніцьбы Барыс Арнольдавіч баяўся энергічных жанчын. Першая жонка — канды-

дат мастацтвазнаўства — круціла ім, як хацела, цягала ў тэатры, вучыла курыць, лаяла, што ён не ўмее надзець патрэбны гальштук. Барыс Арнольдавіч сапраўды не разумеў у гальштуках і ад гэтага губляўся яшчэ больш, чырванеў, адчуваў сябе непаўнацэнным. Як жонка з ім развялася, ён адчуў палёгку.

Цяпер яму здавалася, што жонка зноў побач з ім, і ён міжволі сціскаўся, быццам зараз павінны стукнуць яго. «Не адстане,— думаў ён з тугою, вывучаючы посуд на стале,— не дасць уцячы... Сказаць, што еду ў адпачынак? А чаго ішоў сюды?»

Вася зноў трымаў у руцэ чарговую чарку, запрашаў выпіць.

— Я сёлета не ў прыёмнай камісіі,— ціха сказаў Барыс Арнольдавіч.

— Цябе што, вучыць трэба? — Вася махаў чаркаю, але ніводная кропля не вылівалася.— Зробім! Усё, што можна, зробім, і нават больш!

Джын Вераніка Рыгораўна на стол не паставіла. У яе ўжо былі прадчуванні, што і каньяк дарэмна быў вынуты з бара, гэтак жа, як балык і ікра з халадзільніка. Як такія ва універсітэт трапляюць, думала яна, разглядаючы худзенькую фігурку Барыса Арнольдавіча. Чаму ён навучыць можа? І ёй было вельмі шкада сябе і Леначкі.

А Вася ўсё ніяк не мог здагадацца, што можна ўжо ісці дахаты, гаварыў з Сямёнам Мікалаевічам пра футбол і пра рыбу.

Вераніка Рыгораўна амаль не звярнула ўвагі на абяцанне госця пагаварыць пра дачку. Тут ёй было ўсё ясна.

А на той час ліпень прыспешваўся. Хоць і доўгія былі дні яго, аднак міналіся яны хутка. Было горача. Леначка хадзіла па кватэры ў купальніку і прасіла, каб яе хоць на пяць дзён пусцілі на Нарач. Аднак Вераніка Рыгораўна і слухаць не хацела:

— Хутка экзамены, а ты на Нарач паедзеш. Вучыць трэба.

— Там бы я больш прачытала! — дзьмулася Леначка.

Вераніка з трывогаю заўважала, што экзамены не надта каб хвалявалі дачку, і гэта яе палохала. Яна не магла ўявіць, як гэта яе дачка не будзе вучыцца ў інстытуце. Яна нервавалася, каторы раз без дай прычыны пачынала крычаць на Леначку, хоць тая мала ў чым была вінаватаю.

— На экзамены мне каб у сукенцы пайшла! — як не штодня гаварыла яна Леначцы.— Каб я не бачыла тых джынсаў!

Дачка торгала плечуком, не абзывалася.

З вялікімі цяжкасцямі, праз даўно забытых сваіх аднакласнікаў Вераніка Рыгораўна знайшла яшчэ аднаго чалавека, які мог ёй дапамагчы. З Сяргеем Зайкоўскім яна разам вучылася ў школе, ужо амаль не памятала яго, але ўспомніла, што ён таксама працуе ва універсітэце. Даведалася пра гэта яна зусім выпадкова і даўно і тым не менш запомніла. Вераніка Рыгораўна парадавалася са свае прадбачлівасці ў тым сэнсе, што запомніла месца работы Сяргея, і пачала «выходзіць» на яго, абзвоньваючы былых сябровак. Так яна спачатку знайшла Тамару Буйко, якая працавала ў выдавецтве, а тая ўжо дапамагла адшукаць Сяргея, балазе ён быў яе аўтарам якіх гады два таму.

Сяргей аказаўся высокім, маладжавым, у замшавым пінжаку. Тамара і сама Вераніка Рыгораўна выдавалі побач з ім шмат старэйшымі. Сустрэліся яны ў Тамарынай кватэры, ніякіх прысмакаў не было, проста пілі сухое віно, а Сяргей гарэлку. Успаміналі спачатку аднакласнікаў, дзе хто, як жыццё задалося, аднак надакучыла хутка гэта, бо з узростам чалавек ахвотней гаворыць пра сваё жыццё. Сяргей быў гаваркі, дасціпны, вельмі ўпэўнены. «Я тут з-за мяжы нядаўна

прыехаў,— гаварыў ён,— зноў прынясу да цябе кніжку, Тамара, трэба ж грошы зарабляць, а?» Смяяліся.

Вераніка Рыгораўна ўсё ніяк не магла распачаць гаворку пра Леначку. Яна баялася, што ізноў нічога не атрымаецца, і тады канец усім яе спадзяванням. Дапамагла Тамара:

— Сяргей, уяві, як час хутка ляціць — дачка Веранікі ўжо ва універсітэт паступае. На філалагічны.

— Ну? — Сяргей зрабіў выгляд, што здзівіўся.— А мой большы толькі ў сёмы клас перайшоў. Дык на філалагічны?

І ўсё аказалася вельмі проста. Сяргей і не абяцаў шмат, але Вераніка Рыгораўна адразу паверыла, што ён дапаможа. Яна адчула сябе шчаслівай, выпіла амаль поўны бакал віна і пачала запрашаць Сяргея танцаваць. Аднак той з жартам адмовіўся, запісаў яе нумар тэлефона і развітаўся.

Жанчыны яшчэ пасядзелі трошкі, памаўчалі, потым разам мылі посуд на кухні. Гаварыць неяк не было пра што. Вераніка Рыгораўна трохі паскардзілася на дачку, што тая слухацца не хоча, упартая, як забярэ што-небудзь у галаў — дык хоць што хочаш, а не адступіцца. Вось экзамены хутка, а яна замест літаратуры ці мовы геаграфію можа чытаць. «Мне цікава,— гаворыць,— проста зла не хапае». Тамара ківала галавой, але слухала няўважліва. «Мае на дачы зараз,— сказала,— хоць бы дзеці галоднымі не былі. І холадна цяпер, лета нейкае з дажджамі ды ветрам».

Сяргей сапраўды пазваніў праз тыдзень, сказаў, што пагаварыў з кім трэба, дамовіўся. «І не хвалюйся, Вераніка, зашмат,— сказаў ён,— не варта. Едзь лепш у Гагры, адпачні».

Але самым першым экзаменам усё пайшло дагары нагамі. Леначка, якая апошнія дні ўвесь час маўчала, утварыла такое, ад чаго Вераніка Рыгораўна схапілася за валяр'янку. Дачка паступала на геаграфіч-

ны факультэт! І хоць за першы экзамен па геаграфіі яна прынесла «выдатна», Вераніка Рыгораўна абвязала галаву ручніком і легла на канапу ў зале. Разпораз яна нават ціхенька стагнала. Вераніка Рыгораўна ляжала з заплюшчанымі вачыма, і думкі яе мітусіліся, як мурашкі ў мурашніку перад даждждом. Ці не ўпершыню ў жыцці Вераніка Рыгораўна разгубілася. Яна зусім не ведала, што ёй рабіць. Ёй хацелася плакаць.

А ў суседнім пакоі шчаслівым шэптам Леначка расказвала пра экзамен бацьку, і Вераніка Рыгораўна амаль усё чула. І тады яна ўсё ж заплакала ў падушку, як быццам згубіла нешта вельмі патрэбнае. Ніколі ёй не было гэтак блага, але ўсё адно яна старалася не хліпнуць, каўтала, давячыся, горкія слёзы.

Праз тры тыдні Леначка стала студэнткаю універсітэта.

## У канцы лета

Няўдалым выходзіла гэтае маё лета. Не было побач сяброў, з якімі правёў я шмат прыемных гадзін у зацятых спрэчках аб розных праблемах свету, з якімі цудоўна адпачывалася на беразе прываблівага беларускага возера ці рэчкі. Адны ажаніліся, другія ў армію пайшлі, трэція проста некуды зніклі, згубіліся ў жыцці, ці мо месца ў ім знайшлі, ці яшчэ шукаюць.

І застаўся я сам-насам. Праўдзівей кажучы, мог дзе-нідзе прыткнуцца. Нават у Алушту запрашалі з вясёлай халасцяцкай кампаніяй. Аднак гэтая Алушта патрабавала грошай, ды і не вабіла яна мяне. Зноў жа, палавіна лета адляцела неўпрыкметку, набліжаўся той дзень, калі трэба было ехаць настаўнічаць на вёску, і ўсё гэта прымушала спяшацца.

Лета вось-вось павінна было ўвайсці ў самую моц. Як гэта часта здараецца на Беларусі, сонца зранку пачынала пячы і разліваць наўкола залатое мроіва паўднёвай спякоты. Здавалася, надоўга ўсталёўваецца добрае надвор'е, але з'яўляліся звычайна апоўдні дробныя і невыразныя хмаркі, зацягвалі чысты блакіт неба бялёсай плёнкай — быццам моршчылася неба пад ветрыкам,— і клалася цяжкая духата. Пад вечар хмаркі збіваліся ў адну вялікую хмару, якая пагрозліва грувасцілася і нават пагрымлівала, пачынаўся дождж. Звычайна ён прыносіў свежасць, чысціню паветра, палёгку.

Спачатку я быў вырашыў падацца ў адзін палескі гарадок, дзе меў шмат сваякоў, якія ■ радасцю б прынялі, бо даўно не бачылі мяне, часта ў лістах пыталіся

ў бацькоў аб маім жыцці, запрашалі прыехаць. Але нешта стрымлівала. Потым мне вельмі захацелася паехаць на поўдзень, у маленькі гарадок на Паўночным Каўказе, які ўтульна хаваўся сярод калматых гор, у гарадок з зялёнай рэчкай Пшыш. Мне хацелася паехаць у той гарадок Хадыжанск, сустрэцца з сябрамі і знаёмымі, якіх там хапала, бо мае бацькі пражылі ў ім гадоў пяць, калі я быў студэнтам і праводзіў там лета,— і таксама нічога не выходзіла: жаданне гэтае нагадвала юнацкую авантуру.

Неяк зусім выпадкова сустрэў я аднаго свайго былога аднакурсніка, ледзь пазнаў яго, чорта барадатага, і ён расказаў мне аб закінутых старых будынках на Брэстчыне, якія яны знайшлі мінулым летам, адпачываючы на нейкім возеры. А калі будынкі тыя старыя не спадабаюцца, сказаў Валера, то возера там, кіламетраў дваццаць, з прафілакторыем аднаго мінскага завода, паляўнічымі домікамі і рыбай.

— Я паехаў бы,— сказаў ён з тугой у голасе,— ды вось справы гэтыя праклятыя. І жаніцца збіраюся.

Мы развіталіся, а на другі дзень я ўжо думаў ехаць шукаць стары двор на Брэстчыне, званіў Валеру і распытваў пра ўсё дакладна.

Яшчэ праз колькі дзён я апынуўся паміж Баранавічамі і Слонімам, збіраўся пажыць у гэтых незнаёмых мясцінах які-небудзь тыдзень, не болей...

У гэтым старым, закінутым двары запусценне панавала не год і не два.

Усе будынкі яго патаналі ў глухіх зарасніках глогу, вербалозу, арэшніку. Большасць тапалёвых і бярозавых алеяў былі некалі высечаны, але рэшткі іх нагадвалі пра колішні росквіт двара і пра любоў яго гаспадароў да незвычайнага.

Галоўная алея з двума радамі таполяў вяла да вялікага, ужо зусім разбуранага будынка. Усе дзверы ў ім наскрозь прагнілі і былі забіты ржавымі цвікамі з

тоўстымі плешкамі. У аселым даху змрочна зеўралі вялізныя дзіркі.

Да гэтай алеі трыма промнямі збягаліся рэдкія рады старых карабатых бяроз, якія пусцілі густыя парасткі. Навошта патрэбна была колішнім гаспадарам двара такая прамянёвая сіметрыя — невядома, аднак жа заставалася ад яе ўражанне назнаёмай прыгажосці.

Другі будынак, які выглядаў крыху лепей за астатнія і які быў значна меншым, стаяў на адзіноце. Перад ім рассцілаўся вялікі луг, а ззаду, у кустах, хавалася цьмяна-зялёная сажалка, зарослая да сярэдзіны чаротам і аерам. Сажалка, відаць, некалі была купальняй, таму што пад абрывам можна было разгледзець напаўзатопленыя і чорныя ад часу слізкія дошкі. Калі я падыходзіў да абрывістых берагоў сажалкі, у спакойную ваду гучна пляскаліся жабы.

Горкі пах палыну панаваў над сажалкай.

Адразу за купальняй пачынаўся цёмны двух'ярусны лес. З другога, процілеглага, боку ляжала поле грэчкі.

Старыя будынкі змрочна глядзелі ў зямлю, і прыгадвалася ў гэтай іхняй закінутасці старажытнае жыццё, невядомае і цікавае. Мёртва глядзела ў сонечную пяшчоту дня былая магутнасць.

Я пахадзіў вакол будынкаў, паспрабаваў улезці ў большы. Нягледзячы на тое, што дошкі, якімі былі забіты дзверы, амаль згнілі, адарваць іх было цяжка. Я ўлез у акно. Пакоі былі завалены кучамі пабітай цэглы, нейкімі бэлькамі, дошкамі, шклом. Пах раскрышанай цэглы змешваўся з пахам цвілі. Моцныя скразнякі матлялі па кутах шмаццё пыльнага павуціння. Ад крокаў уцалелыя бэлькі над галавой пачыналі ледзь прыкметна сыпаць парахнёй.

У гэтых вялізных памяшканнях не тое што нельга

было знайсці ўтульнага кутка — тут увогуле нельга было заставацца.

Ад дзеда, які ішоў праз луг з касой, я даведаўся, што тут яшчэ два гады назад былі нейкія склады. А зараз зусім нічога няма з-за таго, што пабудовы струхнелі і маглі абваліцца.

«Панскі маёнтак быў,— сказаў дзед.— Багаты быў пан. Я яшчэ памятаю, як таполі садзілі тут. Багата людзей зганялі».

Ён пагаварыў са мной крыху пра старыя часы і пайшоў.

Я вырашыў пасля нядоўгіх разваг, што ўсё ж давядзецца ставіць палатку, і палез у густы бярэзнік шукаць зручнае месца. Хутка яно знайшлося — недалёка ад сажалкі, крыху ў бок ад будынкаў. Палаткі ў гэтых зарасніках зусім не было відаць.

І калі да заходу сонца ўсё было зроблена — пруглка і ўпэўнена стаяла палатка, усе рэчы знаходзіліся на сваіх месцах, нават у бляшанцы стаяла свечка ля спальніка,— я зрабіў вельмі важнае і прыемнае адкрыццё: у сажалцы была рыба, дакладней — карасі.

Аб гэтым мне паведамілі маўклівы хлопчык год дзесяці і зусім маленькая сястрычка рыбалова. Хлопчык, як усякі сталы рыбак, моўчкі глядзеў на паплавок, а дзяўчынка гаварыла. Сказала, што рыбу тут можна «шпаймаць» і што яна з братам жыве за грэчневым полем, дзе лес. Гэтая маленькая істота была вельмі рухавай, і брату раз-пораз даводзілася тузаць яе за сукеначку і садзіць побач. Аднак і тады яна ўсё шукала нешта ў траве, заглядвала ў бляшанку з чарвякамі, торгала за вудзільна. Хлопчык толькі цяжка ўздыхаў. Відаць было, што ён ужо змірыўся са сваім лёсам.

Не адчувалася, што паплавок хоць калі-небудзь тарганецца, ды і рыбацкая этыка не дазваляла перашкаджаць. Я пайшоў.

І калі я ўбачыў сваю адзінокую палатку сярод бярозак, гэты надзейны прытулак чалавека ў вандраваннях, прытулак, які стаў увасабленнем невядомых дарог, вогнішчаў і песень ля іх, сяброўства,— нешта варухнулася ў душы, з'явіўся лёгкі сум, і я зразумеў — адпачынак гэты на адзіноце, пошук вось такіх мясцін спатрэбіліся мне толькі дзеля аднаго — каб асэнсаваць пэўны адрэзак майго жыцця. Мне трэба было падумаць, ацаніць тое-сёе, як кажуць, азірнуцца. Проста трэба было застацца аднаму і адкараскацца ад клопатаў хоць на некалькі дзён, каб не адчуваць, як бяжыць час. Гэта прыемна, калі ты не вельмі заняты, не трэба табе спяшацца, а ўсе клопаты твае — згатаваць ежу, зрабіць парадак у палатцы, палавіць рыбу, і нетаропкія думы — аб тым, што было ўжо, што яшчэ будзе,— аб жыцці, адным словам.

І ўсе астатнія дні я пражыў бесклапотна і без ніякага спеху — збоку каму магло здацца: зусім марна. Павольна цягнуўся час, спраў было няшмат, але іх хапала на ўвесь доўгі дзень. Чароўнасць чыстых ранкаў і спакой ціхіх вечароў надавалі дням асаблівую няспешнасць. Думкі не перашкаджалі адна адной, і жыццё набывала новы сэнс.

Часцей за ўсё ўспаміналася мне — як і любому чалавеку увогуле — тое, што было звязана з першым каханнем, з тымі хвілінамі, калі ты жыў толькі адным незразумелым і моцным пачуццём і калі ўвесь сэнс жыцця зводзіўся да яе — каханай. І ўсе таямніцы былі сабраны ў ёй, і была яна, вядома, лепшай за ўсіх.

Яркім імгненнем перад вачыма ўзнікала бясконцае сонца, чулася стоенае дыханне начнога мора, яго пяшчота запаўняла ўсё наўкол. Да мяне вяртаўся вясёлы і лёгкі поўдзень. Ён быў напоўнены смехам і морам, пахам рэзеды, такім моцным у час перадвячэрняй светласці, прадчуваннем блізкага шчасця.

Заўсёды будуць успамінацца тыя дні. Зранку за-

лівала сонца расплаўленым золатам амаль усё неба. Спякота нішчыла бадай усе гукі на вуліцах гарадка, што разбегся ў лагчынах між калматых гор. Нерухома ўзносіліся ў вышыню парамідальныя таполі, і далёка былі відаць пыльныя шляхі, якія губляліся недзе ў гарах.

Жыццё — сапраўды паўднёвае, іскрыстае, прасякнутае лёгкасцю і гоманам — адчувалася толькі ля зялёнай і імклівай рэчкі Пшыш. Невялікая горная рачулка паблісквала між зараснікаў лазняку і знікала недзе сярод кукурузных палёў, звінела на нябачных перакатах. Невядома ад чаго — ці то вельмі ўжо многа было ў гэтай зямлі ёду, ці то ўвогуле колер паўночнакаўказскіх рэчак заўсёды такі,— але вада ў ёй была вельмі зялёная. І яна сапраўды мела пах ёду.

Я цягаўся па горадзе, сустракаў незнаёмых і прыгожых дзяўчат — здавалася, усе дзяўчаты ў гэтым горадзе былі прыгожыя,— і мне было шкада, што я не ведаў ні адной з іх і што ўвогуле мала каго там ведаў. Аднак з цягам часу я пазнаёміўся з сябрамі сваёй сястры, якая жыла разам з бацькамі, і ўсё стала на сваё месца.

Тады ж я спаткаў дзяўчыну, якая сустракаецца ў жыцці амаль кожнага чалавека і пасля развітання з якой вельмі доўга застаецца пачуццё шкадавання і смутку. Яна ўспамінаецца ў самыя розныя хвіліны жыцця. І спакваля пачынае ўзнікаць пытанне — ці не было зусім блізка ад цябе тваё ўласнае шчасце? З цягам часу пытанне перарастае ва ўпэўненасць. Узнікае пачуццё, што нехта цябе моцна і балюча пакрыўдзіў...

Дні стаялі празрыстыя, быццам перад вачыма заўсёды нехта трымаў зіхоткае шкло. Недзе ўверсе лютавала сонца. Над далёкімі гарамі вісела густа-блакітнае паветра. Гарачыня прыбярэжных камянёў-галышоў адбірала апошнія сілы. І толькі вада — халодная, нягле-

дзячы на спякоту, вяртала да жыцця. Час цягнуўся доўга і непрыкметна з адчуваннем лагоднасці і ціхага захаплення ёй.

Памалу я ўвайшоў у невялікую кампанію, якія звычайна з'яўляюцца там, дзе сустракаюцца зусім незнаёмыя людзі — на турбазах, у дамах адпачынку, на курортах. Нехта каму-небудзь падабаецца, другому пагаварыць цікава з новым чалавекам, трэці ўвогуле не можа і гадзіны пабыць адзін,— між людзьмі ўзнікае пэўная сувязь. І праз некаторы час — гэта ўжо трывалая група. Так было і тут. Сустрэліся раз, пагаварылі, яшчэ сустрэліся — і быццам даўно мы знаёмыя людзі, сёе-тое адзін аб адным ведаем, нават пасмяяцца з чаго-небудзь можна.

Валера Мінасян заўсёды смяяўся, лёгка расказваў самыя незвычайныя гісторыі і ні на крок не адыходзіў ад Мілы — маўклівай і гожай дзяўчыны. Яны неяк вельмі пасавалі адно другому, і Міла з яе маўклівасцю зусім не гублялася побач з гаваркім, дасціпным Валерам. Вакол Валеры заўсёды віравала моладзь, яго слухалі, смяяліся з ягоных жартаў, дзяўчаты зусім адкрыта выказвалі сваю цікаўнасць да яго — і самае дзіўнае, ён ніколі не забываўся на Мілу. Больш таго — уся яго весялосць, гэтыя неверагодныя гісторыі, бляск фантазіі і дасціпнасці былі адрасаваны толькі ёй. Гэта разумелі ўсе. І толькі дзяўчаты не даравалі яму гэтага.

Увогуле, не адны толькі Валера з Мілай былі маімі добрымі знаёмымі. Часта размаўляла са мной аб тэатры на Таганцы масквічка Таня. Мае вольныя думкі наконт пастаноўкі некаторых спектакляў і крышачку жартаўлівая крытыка прызнанага вельмі засмучалі яе. Да таго ж, яна ніяк не магла адвучыцца браць усё на веру. У добрым гуморы я гаварыў ёй кампліменты, і яна на вачах лагоднела. Але тое, што ад поглядаў сваіх не адмаўляўся, яе крыху крыўдзіла.

Аднак найчасцей я быў разам з Віктарам. Праўда, ён болей маўчаў, чым гаварыў, сядзеў дзе-небудзь побач і толькі зрэдку ўсміхаўся, аднак не было лепшага за яго субяседніка. Ён цудоўна ўмеў слухаць. Чамусьці Віктар вылучаў сярод астатніх якраз мяне, і мы амаль з першага дня знаёмства пачалі ўсюды бадзяцца разам. Пахадзілі па дубовых лясах, што шчыльна ўкрывалі бліжэйшыя горы, пасядзелі з вудамі на Пшышы, але нічога не злавілі.

Наталля ж — так звалі дзяўчыну, якая мне вельмі падабалася,— вядома, заўсёды была ў маіх думках. Я нікому не гаварыў, што яна мне падабаецца. Мне хапала таго, што я мог глядзець на яе, размаўляць з ёю, запамінаць плаўныя рухі, калі яна закідвала абедзвюма рукамі за плечы густыя, чорныя з іскрынкай, валасы, думаць аб ёй. І, безумоўна, яна аб гэтым здагадвалася. Жанчыны адчуваюць вельмі добра, што яны падабаюцца каму-небудзь. І яна расказвала аб тым, што месяцы праз тры-чатыры — яе вяселле. Знаходзіла прычыны, каб не пагаварыць са мною, наўмысна ніколі не заставалася са мною адзін на адзін. Але было бачна і тое, што ёй са мною цікава. Гэта ўжо я адчуваў.

Усе разам збіраліся мы звычайна ў гадзіны залатой перадвячэрняй цішыні. Сонца траціла дзённы бляск, і мазаічныя цені акацый выразна выступалі на гарачай зямлі. Гронкі чорнага вінаграду рэзка вызначаліся ў струменях мяккага святла. У паветры знікала лішняе золата, яно астывала. Яно нават рабілася празрыстым, як крыштальнае шкло неверагоднай тонкасці, і чуць-чуць звінела.

Сустракаліся мы пад старымі каштанамі ў парку і, доўга не думаючы, ішлі ў знаёмае, звычнае месца — у «Дубкі». Так звалася непрыкметная шашлычная з вінаградавым дахам на тэрасе. Шашлычная хавалася на ўскраіне гарадка ля самага падножжа гары. Людзей

там звычайна было няшмат. Мы ссоўвалі два сталы і стаўлялі на іх бутэльку віна, чабурэкі, шашлыкі.

Вельмі добра тут гатавалі чабурэкі. Каб атрымаць іх, трэба было чакаць. Мы рабілі заказ і няспешна цягнулі піва — чакалі. Але звычайна Валера не вытрымліваў і бег да акенца на кухню. Невядома, што ён гаварыў там, але сапраўды хутка з'яўляліся духмяныя чабурэкі. Пасля пачыналіся размовы, якія пераходзілі ў спрэчкі. Спрачаліся аб усім, што каму прыходзіла ў галаву.

Заседжваліся мы да самага прыцемку — да той пары, калі горы засціляліся сінім туманам, а над імі з дрыжаннем загараліся вялікія паўднёвыя зоры. Мы выходзілі з шашлычнай — і тут жа на зямлю падала ноч, мяккая і пяшчотная, як ледзь улоўны дотык пуховай хусткі. Ноч дыхала вострымі пахамі начных кветак, хавала ў сваёй апраметнай цемры мноства загадак, і жыццё здавалася на дзіва прывабным.

Ішоў час, і неяк зусім нечакана я і Наталля амаль штодня пачалі бываць разам. Не трэба казаць, якія гэта былі дні. І аднак усё ж нейкая няскончанасць, дакладней, няўпэўненасць — што ж далей? — перашкаджала мне бесклапотна радавацца сонцу, усмешкам людзей, дзіўнаму позірку яе вачэй. Яна ж з кожным днём рабілася ўсе больш па-жаночы прывабнай і ўсё больш блізкай. Мы маглі ўвесь дзень лазіць дзе-небудзь у гарах, нават разы са два ездзілі глядзець суседнія гарадкі, вельмі цікавыя, поўныя своеасаблівасці і ціхай прыгажосці. Адзін асабліва запомніўся нам. Ён утульна ляжаў між невысокіх гор. На рэчцы, якая бегла пад высокай гарой, падобнай на пеўнеў грэбень, адчайныя хлапчукі ляцелі ў цьмяную ваду з дзесяціметровай вышыні. Зялёная вада рэчкі моцна пахла вапнай. На вуліцах сустракаліся таблічкі з назвамі суседніх гарадоў і курортаў — Джубга, Апшаронск, Геленджык.

Туапсе,— і цяга да вандраванняў успыхвала з новай сілай.

Але набліжаўся час майго ад'езду.

Я разумеў, што яна чакала ад мяне такога рашэння, якое б усё паставіла на свае месцы. Гэтае чаканне я выразна бачыў у яе вачах. Але якое рашэнне я мог прыняць, калі і сам добра не ведаў, што са мною будзе праз дзень? Я толькі мог рабіць выгляд, што не здагадваюся аб прыходзе такога дня. І мы хадзілі разам па горадзе, спрачаліся аб літаратуры ці аб вартасцях сучаснага кіно, заглядалі да Наталінага дзеда, у якога было добрае старое віно. Так і ішоў той цудоўны час, такі каштоўны асабліва потым, калі ўжо бачацца тыя дні праз заслону гадоў.

І скончылася ўсё так, як часта заканчваецца ў чалавечым жыцці: спачатку яна паехала ў Растоў, дзе вучылася ў інстытуце, неўзабаве і я мусіў вярнуцца ў Мінск. Вядома, развіталіся мы з уласцівымі юнацтву надзеямі на самае лепшае — на скорую сустрэчу і іншае,— але засталіся ад тых надзей толькі некалькі лістоў.

Дні цягнуліся быццам і доўга, аднак зусім непрыкметна. Са здзіўленнем адным свежым ранкам я заўважыў, што ў густой зеляніне маладых бяроз заблішчалі залатыя пятакі. Надыходзіла восень. З кожным днём золата на бярозах з'яўлялася ўсё болей, пакуль не зажаўцеліся цэлыя пасмы. Але акрамя гэтых нясмелых прыкмет нішто болей не гаварыла пра блізкую восень. Усё гэтак жа сінела неба і белымі ветразямі віселі ў густой вышыні нерухомыя воблачкі.

Прайшоў ужо тыдзень, падыходзіў да канца і другі, як я быў тут, але гэта зусім мала непакоіла мяне. Я неяк забыўся на тое, што хутка збіраўся ехаць адсюль. Я лавіў карасёў. Ціхія ранкі — цені ад кустоў на роўнядзі сажалкі здаваліся жывымі, а цішыня хавала-

ся ў камарыным звоне,— захапілі мяне цалкам. Нельга сказаць, каб карасёў тут было шмат. Галоўнае — яны былі. І недзе ў вялізных лістах жабніку пабліскваў медным бокам і цяжка варушыўся самы буйны з іх — з лускавінкамі ў капейку велічынёй і чырвонымі плаўнікамі.

Кожны дзень прыходзілі мае знаёмцы — брат з сястрычкай. З хлопчыкам мы разам сядзелі за вудамі і маўчалі, а з дзяўчынкай аб чым-небудзь гаварылі. Калі шанцавала з уловам, усе разам гатавалі юшку. Аднойчы яны прынеслі мне невялікае кацяня.

— Хай пажыве ў вас, пакуль вы тут. Яго завуць Барсік,— сказаў хлопчык.

Відаць, дзецям здавалася, што па начах мне аднаму нудна і страшна. Адмовіцца я не мог. Палатка кацяняці прыйшлася даспадобы. Барсік меў вельмі ваяўнічы характар. Цэлымі днямі ён паляваў за маімі нагамі, шлёпанцамі, запалкамі, нават кнігай. Хадзіў ён са мной яшчэ лавіць рыбу, і гэта яму таксама падабалася. Найбольш захапляўся ён, вядома, карасямі. Барсік грыз іх недзе пад лістамі лопухаў і тады лічыў мяне самым злым сваім ворагам. Хоць я блізка і не падыходзіў да яго, на ўсякі выпадак ён ціхенька вурчэў, шыпеў і злосна фыркаў.

Увогуле, нічым асабліва патрэбным ці карысным я не займаўся. Не чытаў кніг, не пісаў нічога, нават, мне здавалася, не дужа многа думаў. Усе мае клопаты зводзіліся да таго, каб не надта галадаць. Гэта ў мяне быццам выходзіла, і я быў шчаслівы.

Мімаволі і спакваля я назіраў патаемнае жыццё траў, кветак, сажалкі, але ўсё гэта рабілася само па сабе. Гадзінамі я мог разглядаць якую-небудзь кветку або былінку, пакуль паплавок нерухома стаяў у чорным шкле вады. Напышлівыя, як выразаныя ўмелым майстрам завітушкі, кветкі зарніц гарэлі нясмелым полымем трапяткіх свечак. Іх няяркая прыгажосць ураж-

вала болей, чым вычварнасць любых дзівосных раслін. Сарамліва хаваліся ў траве кветачкі, падобныя на бурштынавыя каташкі. Я шкадаваў, што не ведаў іх назвы. Я ўвогуле пачынаў разумець, што зусім мала ведаю пра ўсё, што існуе незалежна ад чалавека на зямлі. І мне было крыху сумна.

Аднак сум гэты быў на дзіва лёгкі.

Памалу я пачынаў пазнаваць дзіўную, быццам старанна прыхаваную і глыбокую прыгажосць беларускай зямлі. І раней яна мяне хвалявала. Неаднойчы было: я бачыў якую-небудзь адзінокую хатку з бярвенняў на кручы Беразіны ці Нёмана, і мяне ахоплівала пранізлівая туга, ад якой сціскалася сэрца. Тады я доўга і з прыемнасцю пачынаў думаць аб тым, як я ўладкуюся лесніком у драгічынскай або калінкавіцкай глушыні і пачну жыць такім нетаропкім і простым жыццём, што не будзе ў мяне час дзяліцца на хвіліны, а будуць ночы і дні. І тады адзінота гэтая абавязкова будзе мудрай адзінотай.

Часта я ўяўляў сабе дымныя лясы, пранізаныя вільгаццю грыбнога паху і цяжкім змрокам глушыні, лясы, што гараць доўгімі пажарамі ўвосень, пасля якіх нават у самым гушчары рабілася гулка, ціха і прасторна. Успаміналіся павольныя рэкі з адбітымі ў іх зоркамі, апусцелыя плёсы, хутары на крутых берагах, адзінокае рыбацкае шчасце, калі ніхто не бачыць і не можа ацаніць твайго ўмельства, і халасцяцкая юшка здаецца тым адзіным, без чаго чалавеку не жыць.

Аднак поўную яснасць гэтае шчымлівае пачуццё набыло менавіта тут, у гэтым закінутым кутку.

Непрыкметна і зноў жа мімаволі ўсплывалі ў памяці мясціны, людзі, нават іх галасы я чуў, людзі, з якімі вучыўся, працаваў, сябраваў. Вядома, звязаны гэтыя ўспаміны былі з найбольш адметнымі падзеямі, і не абавязкова блізкімі, інакш кажучы, якія не паспелі забыцца і таму як быццам яшчэ не скончаны, абдумва-

юцца, жывуць ува мне. Памяць ставіла мяне сам-насам і з вельмі даўнімі падзеямі, і надта ўжо нечаканыя былі сярод іх. Суддзёй і субяседнікам у гэтых успамінах было сумленне.

Была, праўда, у гэтым маім адпачынку адна акалічнасць, зразумець якую я ніяк не мог. Дзіўным было вось што: чаму гэта мяне, зусім яшчэ маладога хлопца, апанавалі такія старэчыя думкі? Сапраўды дзіўна, што замест заўсёднай маёй бестурботнасці і не надта ўжо разважлівых учынкаў, замест звыклай лёгкасці ў рашэннях я нечага так глыбока ўлез у самога сябе, так закапаўся, што ўсё астатняе мяне зусім не хвалявала. Гэта нават было недарэчна, не тое што дзіўна.

І ўсё ж незразумеласць такая ні ў чым не шкодзіла нетаропкаму бегу часу. Па-ранейшаму былыя дні паўставалі аднекуль вельмі выразна і ярка. І паўставалі яны ў новым асвятленні, якое даюць чалавеку гады звычайнага жыцця, вопыт, сталасць.

...Дняпроўскія кручы паціху спаўзаюць у ваду. Здаецца, калі б Дняпро не памяняў рэчышча, горад, што разлёгся на гэтых кручах, і перш за ўсё парк з акацыямі і старымі клёнамі, даўно знік бы пад магутнай у сваёй абыякавасці плынню. Аднак Дняпро быццам уцякае ад горада — і збіваецца ўлева ад круч, выгінаецца дугой. Ён баіцца горада, асабліва яго заводаў і фабрык. Мне здаецца, што за апошнія дзесяць год рака памялела і рыбы ў ёй стала многа меней. І часта ўспамінаюцца рыбацкія гісторыі пра самоў і шчупакоў, якія, што тыя «Віхры», цягалі па гадзінах за сабой чоўнікі. Цяпер жа перш за ўсё на рэчцы кідаюцца ў вочы хлапчукі, якія сядзяць з вудамі на старых дэбаркадэрах і плююць у ваду. Здараецца, каторы з іх выцягне сібіля.

Тым летам, дакладней, на скрыжаванні лета і восені, я жыў у бабкі Тэклі. Дні цяклі вельмі спакойныя,

сонца ледзь дакраналася да твару, і пыльныя вулачкі на ўскраіне горада нагадвалі звычайную вёску.

Так атрымалася, што нейкі час мне не было другога занятку, як бадзяцца днямі па горадзе, заходзіць на новы пляж, абсаджаны таполямі і вербамі, сядзець у бабчыным утульным садзе і няспешна чытаць кнігі. У двары і пад вокнамі сцяной уздымалася мноства кветак, і прыемна было глядзець на іх, не азіраючыся на час.

Вяргіні ўсыпалі вакол сябе траву белымі, ружовымі, вогненна-чырвонымі пялёсткамі. Іх вялікія кветкі, аблятаючы, рабіліся калматымі, як морды пудзеляў. Тут жа, унізе, буйна цвілі астры. З амаль абляцелых флёксаў слаўся неверагодна смачны пах. Флёксы раслі ў самай сярэдзіне вяргінь, і зараз іх суквецці былі падобны на казачныя, нікім не бачаныя кветкі — вяргіні асыпаліся, іх пялёсткі чапляліся за вусатыя каробачкі з насеннем флёксаў, і кветкі выглядалі фантастычна.

У тыя дні мяне не вельмі цягнула да людзей. Апошні месяц даводзілася многа працаваць, і гэта прымусіла мяне хоць на некалькі дзён пашукаць спакою.

Неяк выпадкова я пазнаёміўся з сябрамі свайго стрыечнага брата Сяргея, вельмі добрымі хлопцамі, і напачатак сплаваў з двума з іх — Толікам і Міколам — на рыбу.

Усё ў той дзень было нібыта ўпершыню — і нечакана цёплая вада пасля халоднага жвіру, і чырвань медзі на ствалах магутных сосен пад праменнямі ранішняга сонца, і расяныя россыпы па чырвоным ад конскага шчаўя лузе. Няспешна і без асаблівых хітрыкаў браліся даволі ладныя плоткі і чырванапёркі. Горкасухі пах прыбярэжных лазнякоў мяшаўся з пахамі траваў, што даўно чакалі касы. Пах той быў такі моцны і цяжкі, што хвалямі лажылася даспелая трава.

А ўвечар вогнішча ў густой цішыні здавалася самым надзейным і спрадвечным прытулкам чалавека,

тым самым прытулкам, які ўсё яшчэ цягнуў да сябе кожнага. Прыемна было глядзець на трапяткое полымя, сачыць за мігценнем вуголля, якое свяцілася ўнутраным агнём, жыло, адчуваць роўны яго жар.

...Пасля той паездкі на рыбу былі і другія, таксама добрыя выправы. Неўзабаве знікла пачуццё сваёй закінутасці. Прага да новага і нечаканага перамагла яшчэ раз. Незнаёмае зноў урывалася ў звыклы распарадак будзённага.

Такім і застаўся ў памяці той час — напоены сонечнай празрыстасцю, слабым пахам флёксаў, прасякнуты шчымлівым чаканнем незвычайнага.

Адно лета на Чорным моры таксама запала мне ў памяць. І не бясконцым сонцам, не тым, што наўкола былі пальмы і горы. Проста я многа думаў у тыя дні. І мне шмат што стала зразумелым.

...Неяк я заўважыў, што пайшлі ўжо апошнія дні жніўня. Сухое сонца ўсё гэтак жа награвала зямлю і плавіла асфальт, яго промні толькі апякалі скуру і ўжо зусім не давалі загару. Дні стаялі ціхія, бязветраныя. Нязвыкла спакойнае мора здавалася расплаўленай масай яркіх фарбаў. Яно нават не дыхала. Дакрананне цёплай вады асвяжала толькі на хвіліну. Мора страціла сваю свежасць, як траціць яе вінаграднае віно, што доўга стаяла ў шклянцы.

Адзін жаўтазель упарта цвіў сярод высахлых зараснікаў ажыны. Выпаленая зямля зрабілася падобнай на акамянелую гліну і пахла чарапкамі разбітага посуду тысячагадовай даўнасці.

Апоўдні пляжы крыху пусцелі, і галька на іх награвалася так, што басанож хадзіць па ёй было нельга. Счарнелыя водарасці рассыпаліся ад самага лёгкага дотыку, і з іх распадам знікаў спецыфічны пах ёду, які панаваў звычайна над узбярэжжам пасля шторму.

У гэтыя дні час цягнуўся так павольна, быццам ён таксама плавіўся на сонцы і расцягваўся ў бясконцую нітку.

Людзей на вуліцах неяк адразу, раптам паменшала. Вакзалы запоўніліся карычневымі і стомленымі курортнікамі з чамаданамі, сеткамі, пакетамі, з якіх тырчалі рыльцы слоікаў з самаробным віном, звешваліся фіялетавыя, з захаваным усярэдзіне сонцам, гронкі вінаграду, выпадалі яблыкі і персікі. У густым паветры плаваў лекавы пах дынь.

Для мяне ўсё гэта азначала толькі адно — хутка трэба ад'язджаць. І лёгкі сум, здавалася, блукаў па апусцелых вуліцах.

Амаль увесь дзень я хадзіў і добра не ведаў, што рабіць. Адчуванне адзіноты прымушала мяне шукаць сустрэч з людзьмі. Я нават заглядаў на вакзал, каб пахадзіць сярод ад'язджаючых. Вакол гаварылі пра Маскву, Ерэван, Кіеў, Чэлябінск, Горкі. Гэтыя назвы дзейнічалі на мяне гаюча і ў той жа час узмацнялі незразумелы сум, выклікалі жаданне трапіць у гэтыя гарады.

І часцей усяго думкі імкнуліся на радзіму.

Я ўспамінаў прыкметы надыходу восені на Беларусі, і нараджалася пачуццё неабсяжнай і чыстай прасторы. Завялыя кветкі засыпала першым апалым лісцем, і ўжо кружыўся ў цёмнай і халоднай вадзе лясных рачулак адзінокі кляновы ліст. Над вёскамі паветра было напоена тонкім пахам антонавак. Хутка ён змяшаецца з дымам спаленага лісця на вуліцах, і народзіцца новы і да болю знаёмы пах, які немагчыма перадаць словамі — пах сапраўднай восені.

У светлых лясах можна блукаць проста так, бяздумна, не шукаючы грыбоў і не зрываючы сціплых кветак крынічніку. Невялічкі букет можна зрабіць хіба што з пладоў барбарысу — адны яны нечым нагадвалі чырвоныя кветкі.

Вядома, прыйдзе восень і на гэтую паўднёвую зямлю, заштармуе мора, і ў прыціхлых сумных садах зацвіце па начах начная прыгажуня — фіялка. Яе кветкі будуць поўнасцю раскрывацца і пахнуць і ўдзень, у дрэннае надвор'е, як запальваецца маяк у шторм.

Але зараз надыход восені зусім не адчуваўся, менавіта таму з такой выразнасцю яна мне бачылася тут, у залітым сонцам прычарнаморскім горадзе з пальмамі і вялізнымі пляжамі.

Калі хутка і заўсёды знянацку на зямлю насоўвалася чорная ноч, я звычайна слухаў гісторыю жыцця старога Арсена. Вялікія зоркі віселі зусім нізка над морам і ледзь не падалі ў яго. Цыкады расцягвалі цішыню ў адну нітку, якая вось-вось павінна была разарвацца. Свяцілася ў шклянках густа-чырвонае вінаграднае віно. У Арсенавых гісторыях адбываўся новы непрадбачаны паварот, які не даваў аслабець увазе. І як у чароўных казках, нельга было адгадаць, што будзе далей. Цяжка было разабрацца ў тых гісторыях, ад іх нават веяла фантастыкай, аднак слухаў я з задавальненнем. Арсену ж патрэбен быў субяседнік.

— Ты, галоўнае, вучыся жыць,— з моцным армянскім акцэнтам гаварыў Арсен.— Малады яшчэ. Паб'ешся раз, тры, дзесяць, і яшчэ не ўсё будзе. А чаму? Дурны яшчэ. Слухай, як у мяне вось было.

Я слухаў, як было ў Арсена. Па Арсенавых гісторыях выходзіла, што ён усё жыццё круціўся, як вуж, шукаў лепшага, ды не траплялася яму ў рукі птушка шчасця. І вось зараз — невялікая хата, крыху вінаграду, адзінокая старасць, размовы аб былым з выпадковымі знаёмымі...

Аднак Арсен не выклікаў жалю. Нягледзячы ні на якія нечаканасці, ён захаваў вернасць нястомным пошукам лепшага. Тыя размовы прыносілі пачуццё паўнаты жыцця, захаплення перад ім і перад будучым. Я пачынаў разумець — жыццё аказвалася зусім незна-

ёмай, цікавай і складанай рэччу. Людзі, падобныя на Арсена, надавалі яму яркасць і арыгінальнасць. Сустрэчы з імі, на першы погляд выпадковыя і нязначныя, на самой справе былі тым галоўным, што надавала майму светаўспрыманню патрэбную глыбіню. Таму зусім не выпадкова ўсплывалі гэтыя сустрэчы ў свядомасці пазней.

А наогул я цяпер упэўнены, што тыя дні былі сапраўдным шчасцем, і толькі безразважная маладосць не дазволіла ў час разгледзець іх, і цешыцца імі, і дзівіцца.

Я ўсё-ткі ўбіў палатку ў чахол — нешта яна быццам пабольшала за гэты час,— і сеў на рукзак перадыхнуць. Сабрацца — гэта не такая ўжо простая рэч, і мне давялося доўга падганяць адно да другога, перакладваць тое-сёе, адным словам — папрацаваць. Але нарэшце ўсё. Зараз я па сцяжынцы паўз поле грэчкі траплю на палявую дарогу, прайду кіламетры з два лесам, а там неўзабаве выйду і на шашу. Рух на ёй добры, доўга стаяць не прыйдзецца. Гадзіна-другая — і я ў Баранавічах. Прыкладна ў такім напрамку ішлі мае думкі. Але цікавым было тое, што зараз гэтыя думкі быццам адарваліся ад мяне. Быццам існавалі яны не ўва мне, а зусім самастойна жылі побач. Таму гэта было, што я яшчэ не аддзяліўся ад маладзенькага бярэзніку ля сажалкі, ад бледнага блакіту шырокага неба, і цяжкі водар дзягелю яшчэ напаўняў паветра і быў нераздзельны з маёй істотай.

Я, здаецца, і не ўяўляў сябе цяпер без вось гэтых мясцін. Аднак у маёй свядомасці ўжо жыло разуменне таго, што зараз я ўстану і пайду, і гэтыя звыклыя і блізкія малюнкі перад маімі вачамі — апошні раз. І шкада, і ў той жа час вабіць здалёк новае жыццё. Чалавеку ж заўсёды ўласціва думаць, што наперадзе яго чакае толькі лепшае. Зноўку раздарожжа ў жыцці,

зноў нешта адплывае ў мінулае, нешта надыходзіць. А чалавек ідзе далей.

Наўрад ці лёс больш закіне мяне ў гэты куток. Яно і зразумела — хіба мала якіх другіх мясцін на зямлі? Мне нават здаецца, што другі раз, увогуле, і не патрэбен. Галоўнае, што яны заўсёды будуць існаваць менавіта тут, на Беларусі, і тое, што з імі было звязана, заўсёды будзе абуджаць пэўныя думкі ўва мне аб маёй зямлі. І ўжо гэтага досыць. Так мне здаецца.

Я бяру рукзак, ускідваю яго на плечы, дагружаюся чахлом з палаткай. Першыя крокі яшчэ павольныя, цела прывыкае да цяжару, мышцы вынаходзяць яму лепшую паставу. Але памалу крокі робяцца ўсё больш упэўненымі, і я іду па сцяжынцы ля поля грэчкі, што выведзе мяне на палявую дарогу.

Нічога быццам асаблівага не здарылася са мной за гэтыя дні — проста пажыў я колькі дзён адзін, без розных клопатаў. І аднак я адчуваў, што адбылося са мной нешта значнае. Я нават добра разумеў, што гэты час не прапаў для мяне марна. Проста зноў мяне чакала наперадзе цікавае жыццё. Жыццё такое ж самае — і ў той жа час зусім новае.

# ГАРАДОК

Аповесць у навелах

## Ліскавічы

Віцік жыве ў Ліскавічах, у вялікім драўляным доме, падзеленым на дзве кватэры. Адну кватэру займаюць сам Віцік, яго маці, бацька і меншая сястрычка Галька, другую — дырэктар школы-васьмігодкі Пятро Іосіфавіч і яго жонка Ірына Іванаўна, Віцікава настаўніца. Дзяцей у Пятра Іосіфавіча і Ірыны Іванаўны няма, таму яны любяць Віціка і Галю. Частуюць варэннем, цукеркамі. Віцік саромеецца заходзіць у іх утульную, трошкі цемнаватую кватэру, а Галька, як толькі навучылася хадзіць на крываватых ножках, адразу пачала бегаць пад іхнія дзверы, моцна стукацца, каб пусцілі. Цукерак у яе больш, і яна не дае іх Віціку. Ды Віцік не надта паказвае, што яму хочацца тых цукерак.

Ліскавічы не горад і не вёска, а гарадскі пасёлак. Віцік у вёсцы быў, а ў горадзе не. Але яму хапае Ліскавіч. Тут ёсць чыгунка, вялізная эстакада, дзе моцна пахне сухім дрэвам і дзе нага патанае ў мяккім пілавінні, ёсць кінатэатр, дзве школы, стадыён. Ліскавічы — раённы цэнтр.

Чыгункаю гарадок разрэзаны на дзве паловы. Віцік жыве ў той, дзе няма вялікіх будынкаў, дзе адны толькі пыльныя вуліцы бягуць да ўскраін, да тарфяні-

каў перад рэчкаю Птой, да роўных палёў. Але Віціка гэта абыходзіць мала — школа-васьмігодка, у якую ён ходзіць, на гэтай палове, а ў кіно ці па марожанае штодня не пабяжыш, бо не дадуць грошай. Ды і так хапае цікавага і на сваёй вуліцы, і на суседніх, на якіх жывуць Віцікавы сябры. Так здарылася, што сябры тыя або старэйшыя за Віціка, або малодшыя. Няма паблізу аднагодкаў, усе аднакласнікі жывуць альбо за станцыяй, альбо на ўскраінных вуліцах.

Віцік худы, маленькі, зусім белагаловы, улетку крышачку канапаты. Ён не выдае на свае дзесяць гадоў. Усе дарослыя адразу думаюць, што ён вельмі паслухмяны і стаpанны хлопчык. Віцік ведае, што яны думаюць менавіта так. Але ж не будзеш кожнаму тлумачыць, што вулічныя сябры паважаюць яго зусім не за гэта. І Віцік робіць выгляд сціплага вучня-выдатніка, які не любіць лётаць па вуліцах, гуляць у вайну, хадзіць на рэчку і ў лес, лазіць у чужыя яблыкі. Адно толькі кніжкі любіць Віцік чытаць гэтак жа, як круглая выдатніца Матруновіч Света, з якой сядзіць ён на самай першай парце. З-за суседства гэтага прыходзіцца трываць дурныя дражнілкі хлопцаў, а каторы раз і біцца.

Але ж гэты выдатніцкі выгляд іншы раз вельмі дапамагае. Прыходзіць цётка Рагозіха да маці, падазрона паглядае на Віціка, потым пытаецца:

— А ці не цябе гэта я ўгледзела на чарэшні нашае? Учора, га?

Можна не адказваць нічога, апусціць вочы долу, потым шырока расплюшчыць іх і паглядзець на цётку. Проста паглядзець доўга і шчыра. І ніхто нічога не спытае болей. Можа, і бачыла каго-небудзь Рагозіха на сваёй чарэшні, ды памылілася яна зараз.

А чарэшня тая ў бяду ўвесці можа вельмі лёгка. Як цуд стаіць яна ў Рагозіхіным садзе, спачатку апененая кветам, стромкая і пульхная, бы воблака, потым

абсыпаная жоўтымі і чырванаватымі ягадамі. І, мусіць, ва ўсіх Ліскавічах няма больш такое спакусы, як дрэва гэтае з гладкаю, бы адшліфаванаю хлапчуковымі каленкамі і жыватамі, карою. Шчасце яшчэ, што стаіць яна ўскрай саду, ля самага плота, як падысці з боку пусткі, дзе гуляюць хлопцы ў футбол. І браць яе ўначы нельга — ягады не яблыкі, вобмацкам шмат не набярэш. Дзе-небудзь надвячоркам стаўляецца варта, і тры самых адчайных, па адным, з шапкамі замест торбачак, скачуць-паўзуць да чарэшні, караскаюцца наверх. Дрыжаць рукі, таропка, разам з лісцем, ірвуцца чарэшыны, няма як глянуць па баках. І раптам крык самага пільнага:

— Пацаны, атас!..

І тут трэба ляцець, амаль не чапляючы галін, скакаць, заціснуўшы ў руцэ шапку са здабычаю, імчацца, чуючы побач дробны тупат босых ног.

— Відаць, Ванька Ляшковічаў лазіў,— як сама сабе, гаворыць Рагозіха.— Спаймаю, мала яму не будзе. Гэта ж усю чыста чарэшню абарвалі.

«Ага, там яшчэ ягад столькі, што цэлы дзень можна рваць»,— думае Віцік.

Яму трэба бегчы да Ванькі і сказаць, каб не надта гойсаў той перад рагозінскаю хатаю, каб наогул трымаўся больш свае вуліцы.

А з Рагозіхаю ў Віціка свае справы. Хоць і даўно было тое, зусім малы ён быў, як біўся з рагозінскімі гусакамі, ды добра помніцца страх, які тады давялося перажыць яму. Рагозіха развяла шмат гусей, балазе цераз вуліцу канава была добрая, гразкая, і не перасыхала яна з самае вясны. Віцік у кароткіх штоніках бег са станцыі. Што там за справы былі ў яго, ён не памятае, але бег радасна, падскокваючы, махаў дубцом, як шабляю. Чарада маладых гусакоў, што клыгала цераз вуліцу да канавы, раптам засыкала, выгнуўшы да самае зямлі доўгія шыі, залопала крыламі і памчала аку-

рат на Віціка. У таго сэрца закалацілася, паляцела ўніз. І хоць Віцік пабег ад іх з усяе моцы, надта блізка яны былі. Адзін-два гусакі шчыпнулі малога за лыткі. Віцік загаласіў немым голасам, ад страху сцебануў некуды назад — і адчуў, што гусакі трошкі адсталі. Ён убачыў на дарозе доўгую, многа таўсцейшую за дубец палку. Усё яшчэ галосячы, схапіў яе і нечакана нават для сябе павярнуў на гусакоў. Тыя ўсё гэтак жа гнулі галовы, але таўкліся на месцы, і Віцік ляснуў аднаго, другога, хоць і жахлівыя былі тыя сыкаючыя галовы, што, як змяіныя, ківаліся над зямлёй. Аднаму палка трапіла якраз па галаве. Гусак, віхляючы, пабег убок.

— Ну што!..— хліпаў Віцік.— Шчэ не так дам...

Пазней, ужо дарослым, Віктар часта ўспамінаў гэтую бойку. Успамінаў той жах, які ахапіў тады ўсю яго маленькую істоту, часта бачыў сябе перад гусакамі — роў, калаціўся ад страху, але стаяў з узнятаю палкаю, не ўцякаў, а стаяў перад імі, хоць сэрца вось-вось гатова было абарвацца. Мусіць, якраз у тыя хвіліны малы Віцік зразумеў, што можна перамагчы страх. Так думаў пасля дарослы Віктар, знаходзячы словы пра тое, што як пабяжыш — задзяўбуць, а біцца будзеш — пераможаш. І надалей Віцік рэдка адступаў перад сабакам, што гатовы быў кінуцца на чалавека, перад мацнейшым за сябе хлопцам. Тут абыходзілася, канечне, без думак пра тое, што вось зараз выкіну з сэрца страх і пайду на здаравілу горда і мужна. Проста сціскаліся зубы, і страх не знікаў, але ўцякаць было нельга.

А сны з гусачынымі галовамі, што сыкалі і ківаліся над зямлёй, частымі былі і ў дзяцінстве, і ў юнацтве.

Віцік ведае бадай усе Ліскавічы, але кожную штыкеціну ў агароджы — толькі на сваёй палове, дзе да доўгае і нават зашырокае Загораўскае вуліцы ручаінамі

збягаюцца цесныя і кароценькія завулкі і вулачкі. Гэта знаёмая зямля. На Варшаўскай вуліцы, што, раскруціўшыся, знянацку і бадай разгублена выбягае да вялізнага поплаву перад рэчкаю, у садзе Сымонiхі — высокай, мужчынскага складу жанчыны,— растуць самыя вялікія сланечнікі. Кожны — з добрае кола. У Сымоніхі мужыка няма, але ёсць канапатыя, вялікагаловыя і нізкарослыя блізняты, якія не ходзяць яшчэ ў школу. Блізняты нагадваюць Віціку маленькіх і злых сабачак, што аж вішчаць, убачыўшы чужога чалавека. Браты цэлымі днямі сядзяць у пахіленай, абадранай хаце, вартуюць агарод, зрэдку выбягаюць на вуліцу, каб падражніцца з хлопцамі. Сымоніха часта сядзіць каля хаты з мехам семак, прадае іх дзвюма шклянкамі — вялікай і маленькай. Віцік чуў, што семкі Сымонісе прывозяць аднекуль з Украіны.

Калі ад Варшаўскае вуліцы агародамі прайсці ўправа, пад эстакаду, не прамінеш Шаламаўскі сад. Шаламаў — доктар, хірург, у яго вялікі дом і вялікі сад з самымі буйнымі і чырвонымі яблыкамі. Але плот вакол саду высокі, апавіты дротам, і недзе ў дрэвах бразгаціць ланцугом маўклівы сабака Барс.

Шаламаў раней часта прыходзіў да Віцікавага бацькі. Яны або проста гаварылі і пілі гарэлку, або гулялі ў карты — на карты прыходзілі яшчэ другія дзядзькі. Віцік, бывала, заходзіў у задымленую залу, глядзеў на дзядзькаў, слухаў незразумелыя словы: «Раз, два, пас, віст». Але доўга сядзець там было нудна. Размовы за сталом, напрыклад, былі нецікавыя.

— Не паступіш, Міхась, у інстытут — не будзем гуляць з табою ў карты,— гаварыў да бацькі Шаламаў.

Дзядзькі дружна рагаталі. Бацька таксама смяяўся, але не гэтак моцна і доўга. Ён, відаць, прывык, бо Шаламаў кожны раз гаварыў адно і тое ж — пра інстытут.

А пасля бацька сапраўды паступіў завочна ў інсты-

тут, і ў карты ў іхняй вялікай зале сталі гуляць значна )адзей.

Але самым прыкметным месцам на гэтай палове Ліскавіч была эстакада. Пачыналася яна як не з самае станцыі, і цягнулася ўздоўж бліскучых рэек некуды вельмі далёка. Віцік не ведаў, дзе канчаліся штабелі драўніны, ад якое моцна пахла смалою. Штабелі былі і з неачасаных бёрнаў, якія жаўцеліся свежараспілаванымі круглякамі, а на тоўстай кары шмат траплялася засохлае гразі; былі і роўна папілаваныя брусы, доўгія, сухія, ад удару яны доўга гудзелі; шмат ляжала шырачэзных дошак, на якіх можна было добра пагойдацца. Зямлі тут амаль не відно — усё скрозь засыпана трэскамі.

Гады са два таму на эстакадзе здарыўся пажар. Віцік з хлопцамі тым днём хадзіў на рэчку, забрыў ажно пад чыгуначны мост. Рэчка там глыбакаватая, моцна зарослая стрэлкалістам, жабнікам, гарлачыкамі, яшчэ нейкай травою. У чорных вокнах вада спакойная, з адбіткам неба, сінія і зялёныя рачныя стракозы сядаюць на плечы. Невысокія берагі ў перастоенай траве, шмат калышацца чырвонага конскага шчаўя, і за Птокю, як кінуць вокам, сцяна Тамашэўскага лесу.

Нехта ўбачыў клубы дыму, завешаную шэрай смугой палову неба над Ліскавічамі. Хлопцы кінуліся бегчы проста па шпалах. Па дарозе іх абагналі два паравозы з чырвонымі коламі. Паравозы трывожна і таропка чачахалі, таксама спяшаліся. Перад эстакадаю стаяла шмат людзей, мітусіліся пажарнікі ў брэзентавых куртках, перасвістваліся паравозы, з якіх пажарнікі бралі ваду. А на самой эстакадзе шугала высокае, сляпучае полымя, чорнымі галкамі лёталі над яго чырванню трэскі. Жар адчуваўся ажно за сто метраў. З тых месцаў, куды траплялі белыя вадзяныя струмені, валілі ў неба чорныя клубы дыму. Пад нагамі дарослых

таўкліся як не ўсе хлопчыкі Ліскавіч, але на іх ніхто не звяртаў увагі. Ад гэтага было яшчэ страшней.

Але памалу людзі перамаглі. Надвячоркам агонь збілі, і толькі дым вісеў над эстакадаю, лез у вочы і ў нос.

Да гэтага часу Віцік і ўсе астатнія хлопчыкі пра пажар успаміналі з захапленнем.

Акрамя эстакады, несумненна цікавым месцам была станцыя. Тут можна было проста пахадзіць па пероне, паглядзець на пасажыраў, зайсці ў буфет, дзе, апрача піва, прадаваліся і цукеркі, падражніць дуркаватага Жору, які заўсёды стаяў ля буфета і чакаў, пакуль хто-небудзь дасць яму бакал піва. Давалі рэдка, і Жора цэлымі гадзінамі стаяў у адной позе, пазіраў з-пад глыбока насунутага на галаў картуза на таварныя і пасажырскія цягнікі. Праўду сказаць, дражніць яго не вельмі было цікава, бо ён нават не ўмеў пабегчы за крыўдзіцелем і лупануць яго крывым кіем. Кій гэты Жора заўсёды насіў пад пахаю, ніколі не абапіраўся на яго, і гэта вельмі цікавіла Віціка. Калі які шалапут носіцца з дубцом, дык ён лупіць ім па лопухах, па агароджы, круціць над галавою, каб проста ўчуць баявы посвіст у паветры. Жору кій ні на што не быў патрэбны. Дык навошта цягаць яго?

Яшчэ можна ўспомніць пра лазню, у якую разам з бацькам Віцік ходзіць кожны тыдзень. Але прыемны ўспамін пра лазневыя дні ўсё ж тычыцца мінулых часоў. Цяпер Віцік за цукеркамі не надта ганяецца. А раней, ідучы з лазні, Віцік і бацька заходзілі ў «Чайную». Там было тлумна, пахла кухняю, між фікусаў снавалі афіцыянткі. І тут бацьку сустракала шмат сяброў. Яны клікалі да сябе, стукаліся вялікімі шклянкамі. пасля па чарзе асцярожна гладзілі Віціка па стрыжанай галаве і сур'ёзна пыталіся, як яго завуць. І кожны абавязкова даваў адну ці некалькі цукерак. Віцік хрумсцеў і цярпліва чакаў бацьку. Віцік ведаў, што захо-

дзіць у «Чайную» бацьку нельга. Але тым не менш ён ніколі не «прадаваў» яго маці. Бацька за гэта вельмі цаніў Віціка і выстаўляў сведкам на «допыце».

Ну і, вядома, цукеркі былі законным заробкам.

Калі пачаць перабіраць усё, дзе быў Віцік і што рабіў за сваё вялікае жыццё ў Ліскавічах, дык многае не ўспомніцца проста, а тое-сёе будзе нецікавым ці звычайным, не вартым увагі, а ёсць жа яшчэ такое, пра што самому Віціку ўспамінаць непрыемна. Віцік ужо заўважыў, што якраз вось гэтыя непрыемныя ўспаміны не адплываюць убок, не знікаюць, а сядзяць у галаве, выразныя, гатовыя ў любы момант крануць халадком сэрца, узварушыць трывожнае адчуванне свае віноватасці, якое доўга не праходзіць.

Такою стрэмкаю сядзіць недзе ўсярэдзіне выпадак з дубцом. Віцік яшчэ ў школу не хадзіў. Маці з бацькам узялі яго выбіраць бульбу. Поле было далёка, ажно за кар'ерамі, што пад цагельняю, і калёсы доўга плылі пясчанаю дарогаю, мякка выціскаючы на ёй вузкія каляінкі. Віцік нават замарыўся круціць па баках галавою, часта проста заплюшчваў вочы і слухаў рытмічнае парыпванне колаў, што каціліся роўна і плаўна. Надакучвала слухаць — лажыўся тварам уніз і глядзеў, як бяжыць блізкая зямля, перавітая дзе-нідзе карэннямі, на якіх калёсы падскоквалі з перастукам і бразгаценнем.

Поле было доўгае, вузкае, з аднаго боку націскала на яго сцяна высачэзных ялін, з другога разлягалася прастора, густа ўтырканая калмаценькімі елачкамі, больш падобнымі да кусцікаў, і яшчэ нейкімі дубцамі. Віцік спачатку круціўся ля дарослых, але тыя працавалі, не звярталі ніякае ўвагі ні на яго, ні на вялізнага дажджавога чарвяка, якога выкалупаў ён з цеплаватае зямлі. Віцік пайшоў быў да лесу, але нешта забаяўся змрочнае гушчыні яго, маўклівасці, вялізнага карча, вывернутага ўскрай поля разам з зямлёй. Яшчэ

і крумкач сядзеў на тым карчы, круціў галавою, быццам пільнаваў Віціка.

Тады Віцік пасунуўся да елачак. Але тыя толькі здалёк выглядалі мяккімі і кашлаценькімі. На самой справе толькі калючыя голкі густа сядзелі на крывенькіх і кароткіх галінах. А вось сярод дубчыкаў Віцік убачыў выдатную шпагу — доўгую, прамую, без суччоў. Чырванаваты, з гладкаю карою дубчык зламаўся на дзіва лёгка. Віцік адчуваў, што робіць зараз благое, але ж надта добрая была шпага, ды і ніводнага дарослага тут не было. Ён пабег да калёс. Там, у бацькавым пінжаку, ляжаў ножык, і Віцік хацеў прыгожанька абчасаць дубчык, а калі ўдасца — дык і выразаць на ім якія-небудзь узоры.

Ён ужо канчаў абстругваць дубец, як убачыў, што да паляны з пасадкамі пад'ехаў на кані чалавек, пачаў хадзіць там, углядаючыся ў маленькія дрэўцы. «Шукае майго дубца»,— халадзеючы, падумаў Віцік. А чалавек ужо ішоў сюды, і павольна, але вельмі хутка.

— Што гэта ляснік да нас? — бацька завязваў мех з бульбаю, аднак і ён убачыў, што ляснік ідзе да іх.

Віцік, быццам проста так, адышоўся трохі ўбок, укінуў дубец у разору і таропка закідаў яго зямлёй. А сам сеў побач, пачаў грабціся ў зямлі. Гуляю сабе, паказваў яго выгляд, і нічога благога я не зрабіў.

— Дрэўца зламалі,— сказаў ляснік, павітаўшыся.— Не ведаеце, хто б гэта мог?

— Ды не, у нас во бульба,— сказаў бацька.— Няма калі гэтым займацца.

— Гэта праўда, зладзеі толькі з тых выходзяць, хто не працуе,— ляснік пайшоў проста да Віціка, калупнуў нагой у разорыне і дастаў дубчык.

— Дык вось хто злодзей!..— вясёлым голасам сказаў бацька.— Гэта ж трэба.

Дарослыя смяяліся, а Віцік плакаў. Яму было сорамна і з-за гэтага дубчыка, і з-за слёз, што засцілі

святло, і хацелася знікнуць, каб не было яго на гэтым полі, дзе стаяць ляснік з бацькамі і цёткаю Тэкляю.

А дарослыя смяяліся. Ад гэтага яшчэ было гідка на душы і вельмі крыўдна. Віцік зусім не разумеў, чаго дарослыя смяяліся.

З таго выпадку Віцік страшна не любіць трапляць у смешнае становішча. Хай будзе самае горшае — б'юць яго ці яшчэ што,— толькі каб не смяяліся з кепікамі, не паказвалі, які ён дурны.

Віцік увогуле цяпер ведае, што кожны дарослы можа быць жорсткім. Не заўсёды, канечне, вельмі рэдка, але можа быць. А якая розніца, стукне ён нагой шчанюка ці будзе смяяцца з малога? Таму Віцік унікае вялікіх хлопцаў і п'яных.

Вядома, цяперашні Віцік не той, што стаяў на бульбяным полі перад лесніком і хліпаў. Сёе-тое давялося пабачыць, паспрабаваць. Аднак пазнейшыя крыўды прабеглі і бягуць, як дні на канікулах. А вось тая засталася.

Віцік нават не ведаў, што назаўсёды.

І жыве Віцік у Ліскавічах, у маленькім гарадку на поўначы Палесся, дзе стаяць у садах звычайныя вясковыя хаты, дзе вечарамі брыдуць па вуліцах, уздымаючы пыл, каровы, дзе пасвістваюць на чыгунцы паравозы. Віціку падабаецца жыць тут і летнімі, спякотнымі і доўгімі днямі, і зімой, калі пад хлевам накручвае такія сумёты, што на лыжах можна ехаць з самае страхі.

Віцік любіць жыццё і чакае ад яго толькі добрага.

## Цвік

Хлопцы гулялі ў футбол недалёка ад Віцікавага дома, на пустцы, што ляжала на рагу Загораўскае і Сувораўскае вуліц.

Гэтая пустка ўвогуле была вельмі зручным месцам. З аднаго боку яна ўпіралася ў хлеў і плот Віцікавага агарода, з другога — у чэзлы вішняк, які хоць трошкі, але адгароджваў яе ад вуліц. Атрымліваўся даволі ладны квадрат, парослы па кутах палыном, і на ім вельмі проста можна было згуляць у футбол на маленькія вароты, ці, як казалі ўсе хлопцы,— у пулю. Пулю гулялі проста так, калі было мала ігракоў ці не хапала часу, калі не хацелася цягнуцца да поплаву, дзе было вялікае поле з самаробнымі варотамі. На полі, вядома, гульня ў любым выпадку рабілася сапраўднай, а гэта стамляла.

Ды і да хат недалёка ад пусткі гэтае, у любы момант можна прыляцець дадому і зрабіць выгляд, што ты ўвесь час круціўся на двары, нікуды не ўцякаў. Віціку ў гэтым сэнсе лепш як усім — яго дом апошні на Сувораўскай вуліцы, самы бліжэйшы. Цікава, што назвы іншых вуліц і вулачак на гэтым баку Ліскавіч не горшыя за назву Віцікавай — Палтаўская, Барадзінская, Кутузава, Нахімава. Адна Загораўская завецца так таму, што вядзе да вялікае вёскі Загорава. Відаць, тое вулічнае начальства, што выбірала назвы, вельмі любіла гісторыю. Або яно хацела, каб жыхары гэтага кавалка Ліскавіч ніколі не забываліся на гістарычнае мінулае нашай радзімы.

Лета было яшчэ не надта спякотнае, канікулы пачаліся нядаўна, і хлопцы насіліся па траве, як цяляты на выпасе — падскокваючы і падбрыкваючы. Каб у каторага быў хвост, дык абавязкова б тырчаў, завіўшыся, угору. Клубок ігракоў яшчэ і верашчаў, соп, моцна тупатаў па зямлі.

Таўкліся на пустцы акрамя Віціка Мацкевіча Мішка Гальманаў, Ванька Ляшковіч, лупаты Шурык Савеня, тоўсценькі Юрык і крываногі Воўка — драбната, якую гуляць узялі толькі з вялікае літасці. Двух апошніх, як тут, у гульні, так і ў іншых выпадках, у разлік яшчэ не бралі.

Самым моцным быў Мішка Гальманаў. Мішка вучыўся ў шостым класе, але ростам, плячыма і грубаватым голасам ён выдаваў на сярэдняга васьмікласніка. У яго былі, канечне, сябры-аднакласнікі, ды жылі яны далёка, і Мішка дазваляў сабе сяды-тады пагуляць у футбол або збегаць на рэчку з меншымі. Ён мог бы стаць завадатаем, бо ўсё ж палітыка сілы паважалася на вуліцах больш за іншыя спосабы кіравання, але ўзурпатарскіх схільнасцей у Мішкі не было. Відаць, яму проста падабалася спакойнае жыццё. Ды і, зноў жа, загадаць яму ніхто не мог.

Ляшковіч Ванька вучыўся на клас ніжэй ад Мішкі. Гэта быў невысокі, але крэпенькі чалавек, які нават мала баяўся школьнага завуча Кнаса. Худога, доўгага, у круглых акулярах Кнаса ўсе хлапчукі баяліся па традыцыі. Віцік яшчэ не хадзіў у школу, а ўжо ведаў, што там ёсць Кнас, якога трэба баяцца. Дык вось аднаго разу Кнас злавіў іх на спартыўнай пляцоўцы. Хлопцы пырхнулі да дзірак у плоце і зніклі. А Ванька застаўся стаяць, угнуўшы галаў, круціў пяткаю ямку, быццам нічога не здарылася. Завуч стаяў над ім, як бусел над жабяняткам, здзіўлена ўзіраўся ў яго праз тоўстыя шкельцы акуляраў.

— А што, хіба нельга гуляць? — басам спытаўся Ванька. У Віціка, які сядзеў за агарожаю, пахаладзела ўсярэдзіне.

Кнас схіліў набок галаву, заклаў рукі за спіну і раптам сказаў гугнявым голасам:

— Гуляць, хлопчык, можна, але вы... э-э... можаце пападаць з лесвіц. Лазіць туды, э-э, забараняецца.

А кожны хлопчык па тых лесвіцах мог лазіць на адных руках.

Кнас яшчэ трохі паківаўся над Ванькам і пайшоў да школы. Ванька бычком глядзеў яму ў спіну, потым сказаў так, што пачулі ўсе хлопчыкі:

— Дзеці, ідзіце ў кнас...

Віцік пахаладзеў яшчэ раз — Ванька перадражніў самога Кнаса, і нікуды не ўцякаў, і ўсё гэтак жа ўпарта стаяў на пляцоўцы. Кнас, відаць, нічога не пачуў, але гэта было і не важна. За сваё жыццё такое смеласці Віцік яшчэ не бачыў.

Па садах Ванька лазіў не больш за іншых хлопчыкаў, але калі цёткі перадавалі адна адной, што ізноў грушу абтрэслі, каб ім тыя грушы колам у горле сталі, дык чамусьці Ванькава імя заўсёды паміналі першым. А як роў баптыстаў Пецька, Віцікаў пагодак, яго маці — Марыя — адразу ляцела да Ляшковічавай хаты. Яна лаялася праз плот з Ванькавай маткай, а хлопцы слухалі гэта дзе-небудзь у агародзе. Не абавязкова Ванька лупіў Баптыста, але, праўду сказаць, не любіў ён яго больш за ўсіх.

Пецька-Баптыст,— такая ў яго была мянушка — жыў на Загораўскай, амаль насупраць пусткі. Віцік часта заўважаў, як той цікуе за імі з-за варот, калі яны гуляюць у футбол. Выходзіць на вуліцу ён баяўся, а са свайго двара, падпільнаваўшы, можна было пусціць кавалкам высахлае гразі або нават каменем. Віцік ведаў ад дарослых, што бацькі гэтага Пецькі — баптысты, часта ездзяць маліцца ў нейкую вёску. Бацька яго быў негаваркі, пануры, а маці заядла лаялася з суседкамі з-за курэй, агарода, дзяцей. Канечне, для хлопцаў іхні Пецька таксама быў баптыстам. Яго заўсёды дражнілі, білі нават, але няшмат — ведалі, што Пецька пажаліцца матцы, а тая можа выскачыць з двара і стукнуць палкай або сцебануць дубцом. Неяк Ляшковічава-

га Ванькý яна гнала вуліцаю метраў сто, аж пакуль той не ўскочыў у чужы агарод.

Наступным у хлапечым табелі аб рангах ідзе Віцік. Ён малодшы за Ляшковіча Ваньку на цэлы год. Крыўдна, канечне. Калі Ванька, напрыклад, ішоў у першы клас, ён можа з тыдзень паказваў Віціку чорны бліскучы партфель.

— Сюды трэба кнігі класці,— гаварыў ён,— вось сюды — сшыткі. Гэта во пенал, бачыш які? А ты ў школу не пойдзеш, малы яшчэ. А я пайду.

Віцік хоць і вярнуў ад партфеля галаву, скакаў на адной назе з абыякавым выглядам — аднак ледзь стрымліваў слёзы. Ён і плакаў нават, але ў садзе, у бярозах, дзе яго ніхто не бачыў.

Цяпер, вядома, ён з-за такога глупства не плакаў бы. Падумаеш, школа. Усе туды ходзяць. Сем гадоў грукнула — і пайшоў, сілком нават выправяць, калі заўпарцішся. Вось як з ягонаю Галькаю было.

Мінулаю восенню той купілі партфель, навязалі на галаву банты, далі ў рукі гэткі ж, як яна сама, букет кветак і завялі ў школу. Бацькі чамусьці павялі яе туды ўдвух. Віцік, канечне, разам з імі не пайшоў. Што ён — малы, каб з бацькамі хадзіць? У чацвёрты клас чалавек ідзе.

Галька прыйшла са школы злосная, надзьмутая, ні з кім не захацела гаварыць. Узяла сваю падраную ляльку з адным вокам і знікла некуды. А вечарам настаўніца Ірына Іванаўна расказала пра яе першы вучнёўскі дзень.

Галька, па-першае, прыцягнула ў школу партфель не толькі з букваром, але і з Віцікавымі кніжкамі для другога і трэцяга класаў. Пасядзеўшы на першым уроку мінут дваццаць, яна дастала той партфель, запхнула ў яго пенал — работа гэтая аказалася не вельмі простай,— і пайшла да дзвярэй.

— Галачка, ты куды? — паспрабавала перахапіць яе разгубленая настаўніца.

— Ай, пайду дахаты. У школе пасядзела ўжо, цяпер дахаты пайду.

Настаўніца — Ніна Сямёнаўна — пачала тлумачыць пра дысцыпліну, званок, пра сорак пяць мінут урока.

— А я ўжо есці захацела,— сказала Галька.

Ніна Сямёнаўна з цяжкасцю пасадзіла Гальку на месца, дазволіўшы, праўда, укусіць ёй яблык. Усе гэтыя забароны, канечне, прыйшліся Галачцы не да спадобы. А тут яшчэ на другім уроку хлопчык, што сядзеў ззаду, таргрануў яе за рэдкую касіцу. Адзін бант, які і так ледзь трымаўся на галаве, зляцеў. Галька паклала партфель на парту, узлезла на яе, з натугаю, як штангіст, узняла той партфель над галавою і ляснула крыўдзіцеля. Гвалт быў досыць вялікі. Абодва да канца ўрока стаялі.

Віцік не вельмі здзівіўся, пачуўшы такое пра сваю сястру. Галька, трэба прама сказаць, цяжкі чалавек. Нават, калі ўдакладніць, — шкодны. Віцік на цэлыя тры гады старэйшы, і яна павінна ва ўсім яму падпарадкоўвацца. Кожны нармальны чалавек падпарадкоўваецца старэйшым. Галька гэтага разумець не хацела. Віцік доўга выхоўваў яе, але толку было мала. Калі, напрыклад, ён даваў ёй кухталя — справядліва, вядома,— Галька, узяўшы які-небудзь кій, гадзіну магла стаяць за дзвярыма і пільнаваць Віціка. Той, забыўшыся на ўсё, ішоў у пакой — і атрымліваў па галаве. А лупіла Галька, не раўнуючы, як хлопец. Пасля мала ёй, канечне, не было. Але задаволенасці ад гэтае бойкі Віцік не атрымліваў. Бітая Галька ўсё роўна сядзела пераможцаю, а потым яшчэ выдумляла ўсякае матцы і бацьку.

Так што іншы раз з ёй не хацелася нават звязвацца
З-за яе і Ірына Іванаўна за сэрца хапалася. Галька

тады зусім малая была, гады мо чатыры мела. Яна ўвогуле малая, з-за стала адны банты тырчаць, а тады і ўявіць цяжка, што гэта было. Ірына Іванаўна выйшла ў сад — і чуць не самлела. Галька, як верабей, сядзела на самай вяршаліне вішні, ела ягады і боўтала нагою.

— Галачка, сядзі ціхенька,— Ірына Іванаўна гаварыла спакойна, каб хаця не напалохаць дзіця, голас яе дрыжаў,— я зараз лесвіцу прынясу...

— А гэта не васая вісня, а насая,— закруцілася на галінцы малая.

Пакуль збегала мажная Ірына Іванаўна за лесвіцаю, тая ўжо схавалася недзе ў парэчках, не абазвалася нават.

Яна вось так часта сварыцца: зразумее ўсё па-свойму і нікога не будзе слухаць. Характар такі. З-за яго і ў куце даводзіцца стаяць, многа часцей за Віціка. А ўпартая — дык і параўнаць няма з чым. Возьме штонебудзь у галаву — і хоць канец свету. Даказвай, угаворвай, лупцуй нават — ніякага выніку. Будзе маўчаць надзьмутая, сапці, а то проста спіной павернецца. Дапякае ўсім, трэба сказаць, не аднаму Віціку.

Віцік, праўда, усё ж бароніць сястру, калі тая сашчэпіцца з якім-небудзь хлопцам. Шкада малую.

— Бачыш, што ён у два разы большы за цябе — адыдзі ўбок,— пачынае вучыць ён Гальку.

Аднак тая і слухаць не думае. «А чаго ён мяне...» — пачынае яна лапатаць так хутка, што астатняе разабраць даволі цяжка. Ясна толькі, што яе пакрыўдзілі, а яна дала здачы.

«І не баіцца»,— думае Віцік.

Сам ён рэдка б'ецца з большымі. Гэта нават і не прынята сярод хлопцаў. Калі Шурык Савеня меншы за Віціка на два гады, дык хіба ён не будзе яго слухацца? Смех. У іхняй кампаніі — дзе Мішка, Ванька, Віцік, Шурык, яшчэ некалькі клапоў малых — не трэба даказваць, што ты мацнейшы за таго і таго. Усе ведаюць,

хто за кім. А вось ужо ў сваім класе не тое. Там часта даводзіцца паказваць сваю сілу. То новенькі ў клас прыйдзе, то нехта пасля лета паглядаць пачынае з выклікам, задзірацца. Віцік заўважае, што ён чамусьці расце не гэтак хутка, як многія з хлопчыкаў. Гэта крыўдна. Аднак Віцік ужо ведае, што не ў адным росце справа. Часта шмат мацнейшага хлопца можна кульнуць вельмі проста, трэба толькі момант падчакаць.

Аднак, калі гулялі на поплаве ці качаліся ў сене, не лішне было, апынуўшыся зверху меншых Юрыка, Воўкі або таго ж Шурыка паляжаць трохі на ім, а то і прыціснуць. Хай папішчыць крыху, гэта нічога.

...Віцік ціхенька стукнуў мяч у варотцы. Ён бег збоку, убачыў, як коціцца да яго мяч, і стукнуў не моцна, але дакладна. Мішка ляцеў з усяе моцы, каб выбіць мяч з варот, не даць яму закаціцца ў іх, ды відаць было, што ён не паспее. Мяч павольна ўкаціўся ў вароты — лік стаў восем — сем,— і за ім ускочыў у іх Мішка. Мусіць, са злосці, што столькі бег, так стараўся — і ўсё ж не дагнаў, Мішка моцна стукнуў па мячы. Той, высока ўзляцеўшы, некалькі разоў скокнуў і выкаціўся на Загораўскую. Хлопчыкі як не ўсе разам пабеглі за ім. Мяч скакаў доўга, але ўсё ж не дакаціўся да каляін, спыніўся перад імі.

Па вуліцы грымеў грузавік. Увогуле, не надта многа машын ездзіла Загораўскай вуліцаю. Ім спакойна хапала дзвюх глыбока выбітых каляін, таму што вельмі рэдка прыходзілася з'язджаць убок, размінаючыся з сустрэчнаю машынай. Хлопчыкі спыніліся, каб не лезці ў пыл, што доўгім хвастом цягнуў за сабою «газон».

Якраз перад імі грузавік вільнуў, цяжка ўз'ехаў на пясчаны бруствер перад няезджаным кавалкам вуліцы, які ў дажджы быў дном вялікае і глыбокае лужыны, і скіраваў проста да мяча. Пярэдняе кола праехала зусім побач, але задняе, падвоенае, патрапіла акурат на

яго. Пад колам моцна стрэліла, і грузавік, гэтак жа падскочыўшы на пясчанай гурбе, зноў запыліў па каляінах. У акенцы кабіны мільгануў вясёлы твар шафёра.

Віцік разгублена глянуў на хлопчыкаў. Усе стаялі моўчкі, ніхто не бег да таго, што толькі-толькі было цудоўным валейбольным мячом, які Мішка ледзь выпрасіў у старэйшага брата. Канечне, гэты мяч не ішоў ні ў якое параўнанне з гумовымі, дзіцячымі мячыкамі, якія ганялі яны раней. Гэты мяч адразу ўзнімаў значэнне любое гульні, хай сабе і звычайнае пулі, не кажучы ўжо пра футбол на полі. А калі дамаўляліся гуляць дзве вуліцы, дыктавалі ўмовы — колькасць ігракоў, поле, да колькіх галоў бегаць, хто суддзя і гэтак далей — тыя, у каго быў сапраўдны мяч.

І гэты мяч толькі што стрэліў пад колам грузавіка.

Віцік заўважыў, як перад павароткаю грузавік завярнуў у Палявы завулак.

— Ну, гад...— нарэшце выдыхнуў Ванька. Вочы ў яго былі поўныя слёз.

Мішка і меншыя хлапчукі пабеглі да раздушанага мяча.

— Ён у Палявы завулак паехаў,— сказаў Віцік,— а там няма куды ехаць, бо тупік.

— Ну мы яму зробім, фашысту гэтаму,— Ванькаў голас дрыжаў, ён рэзка адвярнуўся ад Віціка.— Бяжым да мяне.

Услед за Ванькам і Віцікам прыбеглі і астатнія хлопцы. Яны моўчкі глядзелі, як Ванька вынес з хлява вялізны цвік і кавалак дошкі.

— Зараз уб'ём яго і ў каляіне закапаем...— Ванька вельмі спяшаўся, рукі яго дрыжалі.

— От здарава!..— заскакаў на адной назе Віцік.

Дошку паклалі на бочку, і Мішка ўбіў цвік да самае плешкі.

Выбягаючы з двара, Віцік прыхапіў дзве цагліны.

Яму капалі ўсе разам, рукамі, на самай сярэдзіне каляіны. Ванька ўжо сабраўся быў пакласці дошку, але Віцік адпіхнуў яго:

— Спачатку во цагліны падкладзём... Зямля ж мяккая, цвік улезе ў яе, і ўсё. З цаглінамі лепей.

Зараўнавалі ўсё, закідалі пяском гэтае месца. Цвік, што востранька тырчаў з зямлі, можна было ўбачыць толькі прыгледзеўшыся.

— А як другая машына паедзе? — ціха спытаў Шурык.

— Няхай,— зацята сказаў Ванька, ён ні на каго не глядзеў.— Няхай другая едзе... Віцік, лезь на сваю грушу, мо грузавік адтуль убачыш.

Высокая груша стаяла ля самае вуліцы, амаль усутыч з агарожаю. Яна была старая, але каторым годам жоўценькіх груш высыпáла на ёй багата.

Віцік прывычна і лёгка ўзлез як не на самую вяршаліну.

— Не відно нічога,— крыкнуў ён адтуль, потым скаціўся сам, трохі падрапаны.

— Едзе, едзе! — спалохана закрычалі малыя Юрык і Воўка.

— Атас у агарод! — Ванька першым скочыў праз плот. Хлопцы пырснулі за ім. Крываногі Воўка ніяк не мог усунуць у дзірку галаву, хоць звычайна лазіў у яе вельмі лёгка. Ванька так таргануў яго за руку, што ледзь не адарваў малому галаву. Падвываючы і чамусьці кульгаючы, Воўка пабег за ўсімі.

— Кладзіся,— хлопчыкі, цяжка дыхаючы, пападалі ў разоры.

Ціхенька скуголіў Воўка. У драпіне каля ягонага вуха павольна большала кропля крыві. Пахла цёплаю зямлёй, перад самымі Віцікавымі вачыма на бульбяной кветцы поўзала пыльная пчала. Шум матора мацнеў, грузавік параўняўся з хлопчыкамі. Праз частаколіны агарожы яго можна было ўбачыць.

Выстрал, нават сапраўдны выбух, быў моцны і нечаканы. У Віціка хутка затахала сэрца, ён адчуў, як зачырванеліся вушы. Стала вельмі горача.

— От табе мячык, пабегай цяпер,— Ванькаў шэпт быў мацнейшы за крык.

Ляснулі дзверцы кабіны, потым пачулася лаянка. Шафёр, малады, здаровы дзядзька, стаяў каля задняга кола, трымаў дошку з цвіком і мацюкаўся на ўсю вуліцу.

— Рукі-ногі паабарву,— крычаў ён у паветра,— пазабіваю, маць вашу!..

— Па-пластунску да Віцікавай хаты,— скамандаваў Ванька.— Ён нас не ўбачыць.

За хлявом, калі грузавіка ўжо не было відаць, усе пабеглі не хаваючыся, абы хутчэй. Віцікавай маці, на шчасце, дома не было. Адна Галька сядзела на падлозе, калупалася ў кардонцы з лялькамі і іншым глупствам.

Хлопчыкі, хоць і баяліся заставацца на вуліцы, у хату зайшлі насцярожана. З Віцікавых сяброў наогул мала хто смела ішоў да яго. Маці надта глядзела за чысцінёй, а не заўсёды ўспомніш скінуць ля парога боты ці бацінкі. Не вельмі прыемна, калі цябе пярэймуць недзе ля наступнага пакоя. Тым больш тыя боты, калі прыгледзецца, сапраўды не зусім чыстыя, бо не аднымі ж сухімі сцежкамі ходзяць і бегаюць хлопчыкі. Бывае, і ў канаве справы знойдуцца. То апалоніка трэба злавіць, то яшчэ што.

Адзін толькі Ванька чамусьці не забываўся скідаць свае кірзавыя боты, хаця ў яго хаце гэта рабіць зусім не абавязкова. Ён і заходзіў да Віціка часцей за астатніх.

— Папомніць цяпер,— сказаў Ванька.— А то наехаў, гад, спецыяльна на мяч.

— Ну,— згадзіўся Мішка,— мяча няма. Брат даведаецца — адлупцуе...

Воўка ўсё яшчэ хліпаў, трымаўся за вуха.

— А мы збяромся — і купім,— прапанаваў Віцік.— Я ў бацькі папрашу, а вы таксама. У магазіне мячы ёсць, я ведаю... Воўка, чакай, зараз ёду прынясу, каб заражэння не было.

Воўка, пачуўшы гэта, кінуўся да дзвярэй і знік.

Хлопчыкі сядзелі ў Віціка, аж пакуль не прыйшла ад суседзяў маці.

## Рэчка Пта

Рэчка Пта вельмі блізка да Ліскавіч не падыходзіць. Побач з гарадком яна быццам хаваецца ў тарфяных паплавах, не выдае сябе ніводным кусточкам. Берагі яе тут роўныя, у рэдкай траве, і толькі драўляны масток, які можна ўгледзець з Варшаўскае вуліцы, паказвае на якую-небудзь канаву. Але ўжо адбегшыся трохі далей ад агародаў, рэчка памалу ўбіраецца ў кусты, па берагах гушчэе высокая, у крапінках кветак, трава, і яна нават разліваецца вальней, быццам перавёўшы дух пасля хованак.

Вада ў рэчцы вельмі чыстая. Белы пясок на дне ляжыць роўненькімі хвалямі, і можна ўбачыць на ім кожны каменьчык. Тут, каля гарадка, Пта досыць плыткая, і нават такому хлопчыку, як Віцік, трэба доўга шукаць больш-менш глыбокую ямінку. Але ўжо далей, пад тым жа чыгуначным мостам, Віцік купацца не рызыкуе, бо плавае яшчэ не зусім.

Мішка Гальманаў гаварыў, што вада ў Пце такая чыстая з-за тарфянікаў. Вада працэджваецца праз торф, тлумачыў ён, і нічога ў ёй не застаецца. Віцік Мішку верыў, а Ванька Ляшковіч не.

— Тады ж чаму ўся рыба пад берагамі хаваецца? — пытаўся Мішка.— Як толькі вылезе на чыстую ваду — адразу ўсім бачна. Шлёп вудачку — і гатова. Вось яна і сядзіць у траве.

4 Зак. 2651

Ванька нічога не адказваў, але ўпарта гнуў галаву — не згаджаўся.

А тарфянікі тут сапраўды вялікія. Змрочна разлягаюцца яны паабапал ракі і невядома дзе канчаюцца, бо куды б ні заходзіў Віцік [redacted] хлопцамі, усюды была роўная зямля, трохі прыцярушаная травой. Яна ўся ў рудаватых і чорных плямах-выгарынах. Нават у мокрыя дні паветра над тарфянікамі прыпахвае гарам. А ў спякоту, калі гэтае паветра пачынае дрыжаць і тонкімі струменьчыкамі ўзносіцца ў выгаралы блакіт неба, пах гэты вельмі моцны. Гэта зноў недзе пад вёскай Любашава гарыць торф. Гарыць ён пад зямлёй, рэдка выбіваецца на паверхню змейкай, а то і клубам дыму.

Суседка Рагозіха, якая часта прыходзіць да маці перадаць свежую навіну, амаль кожнага разу расказвае, што ізноў карова пад зямлю правалілася.

— І не рыкнула, бедная, дзіва што пекла такое,— Рагозіха гаворыць так, быццам сама ўсё бачыла на свае вочы, а таму падносіць рог хусткі да вачэй, шкадуе няшчасную карову.

Пачуўшы такую гаворку, Віцік хаваецца куды падалей, стараецца не трапіць маці на вочы. Усё таму, што не так даўно ён таксама апёк нагу ў торфе. Ішоў з рэчкі знаёмаю сцежачкаю, што вілася напрасткі праз поплаў, убачыў шэрую падпаліну на ёй, не вельмі і шырокую, і падумаў, што пераскоча. Падпаліна не курэла, попелу было няшмат, і Віцік скочыў смела. Тонкая скарынка пад нагою хрумснула, адна нага па калена ўехала ў прысак. З зямлі выметнула сноп іскрынак, усё цела працяў страшэнны боль. Дахаты Віцік скакаў на адной назе, і не было моцы стрымліваць слёзы. На нагу ён баяўся глядзець. Маці адразу абклала нагу паранаю бульбаю, абвязала ўсё марляй. Яна хацела бегчы за доктарам, але Віцік, забаяўшыся, сказаў, што яму ўжо баліць меней.

Цяпер маці не пускае Віціка на рэчку. Яна і слу-

хаць не хоча, што Віцік здалёк можа паказаць тое месца, дзе пад зямлёю гарыць торф. Кожны з хлопчыкаў умее заўважыць яго па попелу, смуроду, а яно ж часта і дыміцца яшчэ.

Але Віцік усё роўна ходзіць на рэчку. І маці ведае гэта. У такую спёку, што навалілася цяпер на гарадок, пазганяла людзей з вуліц і амаль высушыла сажалку каля станцыі, па якой іншым годам катацца на дзіравай лодцы можна ўсё лета, халодненькая вада спакойнае Пты — адзіны паратунак. Там і паляжыш на траве, пабегаеш за матылькамі, скупнешся потым — і зноў чалавек, які на тое-сёе здатны. Вось і зараз Віцік чакае, пакуль яму свіснуць з вуліцы. Яны з хлопцамі яшчэ ўчора дамовіліся, што пойдуць на рэчку.

Віцік ціхенька выходзіць на двор, сядае на ганку. Ён ужо даўно падрыхтаваўся — у кішэні кавалак хлеба з салам, пусты пачак з-пад запалак для жукоў і матылькоў, метры тры тонкае жылкі з кручком, яшчэ сёе-тое. Там, калі што, можна падскочыць да блізкага лесу і выразаць добрае вудзільна.

Прарэзлівы свіст палохае сонных курэй, што ляжаць, напаўзасыпаныя, у пяску, і тыя ляцяць некуды пад плот хавацца. Певень устрывожана топчацца на месцы, глядзіць па баках адным вокам, квохча квактуха, кліча да сябе пылянят, што ціўкаюць у лопухах. Нават Віцікаў сабака Дружок, які ляжыць каля будкі і водзіць адным вокам за мухамі, натапырвае вуха, але падняць з зямлі морду яму цяжка: ён проста ўздыхае.

Уся каманда ўжо ў зборы. Воўка і Юрык удвух трымаюць вялікі кош. Твары ў іх шчаслівыя.

— Пакупаемся, потым трохі патопчамся,— кажа Мішка.— Я і торбачку для рыбы ўзяў.

— Ага,— ківае галавой Віцік,— я во думаў печкуроў палавіць, жылку захапіў.

Хлопчыкі ідуць цеснаю кучкаю, гавораць як не ўсе разам — мяне маці не пускала, дык я ўцёк... а ў нас

4*

тхор курэй падушыў, галовы папракусваў — і нават сабакі не збаяўся. Цяпер на яго капкан трэба ставіць, больш ніяк не возьмеш... а да Савосяў нехта ў сад лазіў, дык яны думаюць, што гэта мы... а што да іх лезці, адно кіслоцце там, больш нічога няма... от, трэба ў Сымоніхі пару сланечнікаў скруціць, я ўчора глядзеў — вялізныя... а нас з Юркам Баптыст набіць хацеў, а мы ўцяклі... я тога Баптыста яшчэ спаймаю...

На поплаве кучка рассыпаецца, расцягваецца, у хвасце старанна сапуць Юрка з Воўкам. Віцік ідзе трохі ўзбоч, па траве. Тут часта трапляюцца грыбы-порхаўкі, і яму падабаецца страляць, наступаючы на іх. Пылок воблачкам павісае ў паветры, усё адно як ад выбуху снарада ў кіно. Ды і на траве адпачываюць падэшвы ног — пыл на вуліцах і на дарозе гарачы, часам аж но падскочыш, а тутака ісці прыемна. Паліць сонца, у паветры нерухліва вісяць стракозы, быццам выглядаюць нешта на зямлі, пільнуюць некага. Трохі баляць ад святла вочы, лягчэй глядзець пад ногі, чым удалечыню. На лузе шмат высахлых, рассыпаных ужо каровіных ляпёшак, точанай кратамі зямлі ля ямінак, раскалмачанае і як выцвілае дзяцеліны. Але далей пачынаецца торф, і хлопчыкі збягаюцца да цвёрдае, выбітае сцежкі — можна ўступіць у попел, а не заўсёды ён астылы.

На рэчцы ўсе адразу кідаюцца ў ваду. Віск, плёскат, пырскі — далёка чуваць. Віцік плёхаецца з галавой, расплюшчвае вочы. Дно зусім блізка, калышацца доўгая трава, выгінаецца, бы таксама бяжыць з вадою, жоўтыя рукі цягнуцца да яе, хапаюць бурыя ніці, і лёгкі трэск з бурым воблачкам перад вачыма — Віцік вынырвае з травою ў руцэ, прагна хапае паветра. Сонца ўжо не пякучае і не белае, а вісіць яркай радасцю, гладзіць твар, плечы, скача зайчыкамі на вадзе, ляціць ва ўсе бакі пырскамі.

— Юрка, хадзі плаваць навучу...

— А-а-а, не хачу, я няўмею, пусці, ой-ё-ёй, а-ап...—

бурбалкі на тым месцы, дзе былі Ванька з Юрыкам, а цяпер адзін Ванька. Але доўга патрымаць Юрку пад вадой не ўдаецца — той так малоціць рукамі і нагамі, ратуючы жыццё, што Ванька падае сам. У Юрыка адусюль цячэ — а з носа і не адна вада,— ён ікае, трэ рукамі вочы, не можа зразумець нават, куды ўцякаць. Нарэшце ляціць, галосячы, на бераг.

Воўка на ўсякі выпадак бяжыць за ім. Відаць, добра яшчэ помніць учарашніх апалонікаў. Ванька паабяцаў паказаць яму ў сваёй бочцы апалонікаў з лапамі. Апалонікі і сапраўды былі з лапамі, але не паспеў Воўка нагледзецца на іх, як боўтнуўся ўніз галавою ў бочку. Ванька, як укінуў яго, так і ўратаваў, выцягнуў за ногі. Віцік так рагатаў, што аж закалола ў баку.

Ванька пераехаў у Ліскавічы гады тры назад, аднак, здаецца, што жыве ён у сваёй новай хаце на Загораўскай вуліцы вельмі даўно. Хлопцы і не ўспамінаюць нават, што ён прыехаў з вёскі. Віцік помніць, што на самым пачатку знаёмства яны з Ванькам пабіліся. Давялося, канечне, параўці тады. А потым Мішка злавіў Ваньку. Так пазнаёміліся, сталі сябрамі, пачалі разам гуляць у вайну і ў футбол. Ванька ўпадабаў прыходзіць да Віціка. У цемнаватых пакоях, застаўленых вялізнымі, пад столь, фікусамі, можна было без перашкод пакруціць на радыёле пласцінкі, паглядзець тоўстыя кніжкі з брантазаўрамі і мамантамі, пакалупацца ў Віцікавых машынках. Адно трэба было сцерагчыся вазонаў на падаконніках. Ванька ўсё нешта чапляў іх і не заўсёды лавіў. А цётка Марыя — Віцікава маці — больш за ўсё лаялася якраз за гэтыя вазоны. Яны стаялі ўсюды, нават на табурэтках, і засцілі святло. Праўда, зрэдку каторы з іх распускаўся буйнымі кветкамі, і ў пакоях адразу рабілася прыгажэй. Віціку асабліва падабалася, калі вазоны распускаліся ўзімку.

Яшчэ хлопчыкі гулялі ў шахматы. Спачатку ўмеў гуляць у іх адзін Ванька. Ён спрабаваў вучыць і Віці-

ка, але як ні стараўся — нічога не выходзіла. Віцік толькі вывучыў фігуры — пешкі там, афіцэр, тура, каралева. А ўжо соваць іх па дошцы навучыў Віціка бацька, і ўсяго за адзін вечар. Ён нават паказаў, як ставіць дзіцячага мата, і назаўтра Віцік пасляхова паставіў яго Ваньку два разы ўзапар. Той вельмі пакрыўдзіўся, спрабаваў крычаць, што няправільна, але пабіцца не было як — гулялі ў Віціка.

...Хлопцы ўсе разам загараюць на пяску. Невялікая каса з беленькага і дробнага, як манка, пяску — гэта іхняе месца. Хоць і цеснавата тут, але затое пясок, больш яго няма нідзе.

Ванька загадвае, каб яго закапалі ў пясок. Воўка і Юрык стараюцца, закідваюць яго да самае галавы.

Віцік дастае з кішэні штаноў медную трубку. Яму ўчора даў яе Генка Бучкоўскі, вялікі ўжо хлопец, Віцікаў сусед. З трубкі Віцік зробіць выдатную падпеканку.

У Віціка ўжо была падпеканка, ды маці знайшла яе і выкінула. Сказала, што Віцік з хлопцамі людзей вечарамі палохаюць. Глупства. Проста падобна трошкі на вайну. Віцік абавязкова абновіць сёння сваю падпеканку. Добра было б, каб у цемры з яе вылятала полымя, думае ён, і пакуль што хавае зброю назад у кішэню.

Ванька вылазіць з пяску на чорта падобны, плюецца, потым, растапырыўшы рукі, бяжыць у ваду. Вяртаецца хутка — мала радасці плёхацца аднаму, няма нават каго прытапіць. Але ж і ляжаць проста так — таксама не работа.

— Згуляем у ножычка? — ды ніхто не абзываецца. Ляжаць, жмурацца, як каты на печы, на тварах задавальненне жыццём, сонцам, доўгім днём, калі не трэба ісці ў школу, вучыць урокі.

Здалёк даносяцца галасы, спачатку невыразныя, незразумелыя, потым яны званчэюць, і вось ужо можна разабраць асобныя словы. Гэта прыходзіць каманда

хлопчыкаў са станцыі. Яны распранаюцца метрах у дваццаці і таксама адразу бягуць да вады. Зноў няма цішыні, асколкі яе тонуць у вадзе, прыціскаюцца да зямлі, таюць у небе.

І станцыйныя, і загораўскія хлопчыкі робяць выгляд, што не заўважаюць суседзей. Яны як варожыя арміі, якія захоўваюць нейтралітэт і чакаюць загаду камандуючага. Але ж загад той проста так не аддаецца. Патрэбна сітуацыя.

Віцік нават і не паглядае ў той бок, дзе ляжаць станцыйныя. Усе ведаюць — чаго: сярод тых хлопцаў Смылкоўскі Ігар. Яны з Віцікам як-небудзь павінны пабіцца. Ігар вышэйшы, мацнейшы на выгляд за Мацкевіча, але ў таго асаблівая вулічная рэпутацыя, так сказаць, становішча ў свеце.

Падыходзіць Толік, ён жыў побач з Мішкам Гальманавым, потым пераехаў за станцыю.

— Згуляем у футбол? — Толік трымаецца па-свойску, таму што ўсіх добра ведае.

Запрашэнне абмяркоўваецца, ніхто не супраць.

Віцік, быццам выпадкова, пазірае на Ігара. Той, страпянуўшыся, як цюцька на свіст, доўга і з выклікам глядзіць у адказ.

Трэба біцца, думае Віцік. Але першаму чапляцца не хочацца. Няма баявога настрою.

— Хадземце рыбу лавіць,— скіроўвае ён увагу хлопчыкаў зусім у другі бок.

— О, і праўда, зусім пра кош забыліся...

— А куды пойдзем?

— Давайце ўверх па рацэ, там карчы ёсць і травы пад берагамі шмат.

— Я аднаго разу бачыў, як шчупак тама баўтануў. От даў! Ажно хваля на бераг пабегла!

— Помніш, дзед Піліп якога злавіў? Зубы вострыя, і ўжо дохлы, а ўсё роўна кусаецца...

— Эй, малыя, бярыце адзежу.

— А я з торбаю хадзіць буду, а, Ванька? — Шурык ад нецярплівасці ажно скача.

— Ур-ра-а!.. На рыбу!.. Ванька, а нам дзе ісці — спераду ці ззаду?

— Ты што, дурны? Спераду як будзеш ісці — нічога не спаймаем. Гэта ж такі закон.

Хлопчыкаў як якая навала змяла. Воўка і Юрык круцяцца пад нагамі, замінаюць большым. Мішка нават кухталя дае Юрыку, але той, адкаціўшыся трохі ўбок, і не паказвае, што яму баліць.

Станцыйныя з зайздрасцю пазіраюць услед — яны яшчэ не абжылі рэчку так, як загораўскія. Але добра ўжо і тое, што можна перабрацца на пясок.

Віцік адчувае, як пачынае халадзець усярэдзіне, робіцца пуста ў жываце. У яго гэта бывае на ўроках, калі ён аднекуль ведае, што зараз пойдзе адказваць да дошкі. Але там страшна, а тут проста хочацца, каб хутчэй яны дабеглі да карчоў, да таго месца, дзе Пта сцішвае бег у гушчыні вадзяное травы, дзе вада чорная, як у глыбокім Выганаўскім возеры. Ён будзе хадзіць з кашом ці таптаць, заганяючы рыбу ў яго? Лепш, канечне, каб з кашом — тады ўбачыш ці адчуеш, што нешта трапечацца на дне, і кош у тваіх руках дробненька трасецца, а ты хапаеш адной рукой слізкую, пругкую рыбіну і бяжыш з ёю на бераг. Праўда, той, хто топча, таксама заўсёды паспявае дабегчы да каша і ўсунуць туды руку, замінаючы сябрам, ды яму рэдка ўдаецца схапіць што-небудзь. У вадзе яны будуць хадзіць утрох — двое кош носяць, адзін топча. Мішка з кашом, вядома, а Ванька?

Над самаю галавой у дрыготкім, гарачым паветры вісяць два жаўручкі, трымаюць у дзюбах танюткую, нябачную нітку гуку, не даюць абарвацца ёй, знікнуць у бледным блакіце шырокага неба — срэбны звон працінае ўсё паветра, адгукаецца ў Віцікавым сэрцы. Роўная вада пачынае бегчы гэтак жа хутка, як і хлопчыкі.

Далёка, да самага небакраю, размытага шэраю смугой, разлягаюцца паплавы; лёгкі ветрык, што плавае над ракой, адносіць пах гару, аднак той вяртаецца зноў — яшчэ мацнейшы. Дробна трасецца быццам пустая ўсярэдзіне зямля, і можна ўбачыць, як хістаецца высакаватая трава, навіслая над вадой.

— Давай адсюль пойдземце,— не вытрымлівае Віцік,— тут ужо трава пад берагамі расце... Вунь, бачыце колькі...

Збягаюць у ваду, адагнаўшы як падалей малых, адразу пачынаюць скрэбці кашом плыткае дно. Віцік трымаецца за кош разам з Мішкам. Ванька старанна топча, ажно закіпае бурбалкамі вада, ляцяць ва ўсе бакі пырскі, а з дна разам з каламуццю ўздымаецца шэры, слізкі і халаднаваты іл. Вось трапілася адна маленькая рыбка, яшчэ — трохі большая. Малыя вішчаць на беразе, б'юцца, каб схапіць першаму жывы кавалак рачное вады — халодны, срабрысты, імклівы. Шурык ужо набраў у торбачку вады, тоненькі струменьчык цурчыць з дзіркі ў дне торбачкі. Другім разам Віцік абавязкова б пачаў смяяцца — глядзіце, што робіць торба. Маленькі шчупачок — адна галава і хвост — голкаю ўскочыў у кош, пачаў так стукацца востраю галавой, што хлопчыкі выбеглі з кашом на бераг. І зноў хуценька ў ваду — нічога не заўважаецца наўкола. Хлюпае вада, рыўком ўзнімаецца кош, выкідваецца трава і гразь — і ўсё спачатку. Брыдуць, згінаючыся, цяжка дыхаюць, даўно баліць спіна, але няма як спыніцца. Месцамі дно раптоўна абрываецца, і вада халоднымі абручамі сціскае пад пахамі. Віцік ціснецца бліжэй да берага. Ён трошкі плавае, аднак ну яе, тую чорную глыбіню. Чорт яго ведае, што — ці хто? — можа там быць. Нядаўна ён сам расказваў хлопчыкам пра конскага воласа, які жыве ў рацэ і ўядаецца ў жывога чалавека. Віцік не памятае, ад каго пачуў пра гэтае страхоцце, але расказваў сябрам ён з захаплен-

нем і страхам, на хаду выдумляючы жахлівыя выпадкі, якія здараліся на рэчцы. І ён сам верыў у тыя выпадкі. Хлопцы слухалі моўчкі, па вачах відаць было — верылі таксама.

Яны прамінулі драўляны мост, праз які ішла дарога на Брэст. Каля моста рэчка многа шырэла — вада стаяла нерухлівая, на вялікіх лісцях гарлачыкаў сядзелі зялёненькія жабкі, лупілі вочы на ўсе чатыры бакі, нічога не баяліся — гэтак жа як і стракозы. Якраз у гэтым месцы мінулым летам Віцік злавіў чырвона-сіняга акуня, і яму зайздросціў нават Мішкаў брат Пецця. На вуду тут вельмі добра браліся дробненькія сібілі і печкуры. За якія гадзіны тры іх можна было нацягаць на муху паўсотні, а то і болей. І амаль з берага глыбіня пад мостам была з галоўкаю.

Выйшлі на бераг, паглядзелі, стукаючыся галавамі, колькі ўжо рыбы ў торбачцы. Азарт яшчэ не сышоў, і хлопчыкі, прабегшы берагам метраў трыццаць, ізноў палезлі ў рэчку. Віцік наліў на галаву вады — патыліца ўжо была досыць гарачая, у галаве шумела і стукала ў скронях.

Віцік і Мішка вялі кош да чорна-зялёнага карча, што чортавай мордаю тырчаў з вады; трава вакол яго была шмат гусцейшая. Ванька, зайшоўшы амаль па шыйку, кінуўся да іх, гонячы перад сабою высокую, у сонечных зайчыках, хвалю. Віцік ужо хацеў быў выхапіць кош з вады, як той раптам ірвануўся з рук, падскочыўшы ўгору. Віцік вытарашчыў вочы, адкрыў рот і сеў у ваду, не паспеў нават крыкнуць. У рот адразу налілося вады, перахапіла дыханне. Але ён бачыў, што Мішка кош не выпусціў, а схапіў яго аберуч і пабег да берага. У кашы нешта моцна калацілася. Ад хвалявання ў Віціка спынілася сэрца — ён убачыў, як у прыбярэжную травуываліўся вялізны, тоўсты, як палена, шчупак. Малыя з віскам пабеглі ўцякаць. Мішка ўпаў на шчупака жыватом. Віцік невядома як апынуўся по-

бач — і таксама паваліўся на Мішку. Зверху шлёпнуўся Ванька. Перад самымі Віцікавымі вачыма матляўся тоўсты шчупачыны хвост, небяспечна торгалася чорная Ванькава пятка — цэліла акурат пад вока.

— Спаймаў! Пусціце! — крычаў Мішка.

Віцік выкарабкаўся, абедзвюма рукамі ўхапіўся за тоўстую, халодную рыбіну. Ён адчуваў моц яе доўгага, пругкага тулава і разам з усімі крычаў ад радасці.

— Трэба карак зламаць,— гаварыў Мішка.— Пакуль не зломіш, шчупак жывы будзе.

Ён гнуў галаву шчупака, але той высклізваў з рук, малаціў па зямлі хвастом. Ванька прыціснуў тулава, і Мішка нарэшце злаўчыўся, ламануў з усяе моцы. Усярэдзіне шчупака нешта хрупнула, ён сціх.

— Уй-ю-юй! Вялізны! — Юрык і Воўка тыцкалі ў шчупака пальцамі, у захапленні забываліся шморгаць насамі або выціраць іх рукавом.

— Усё, хадзем дамоў,— Ванька хацеў быў узяць шчупака, але Мішка не даў.

Ён сам нёс рыбіну праз поплаў, вуліцы, да самае свае хаты. Хлопчыкі беглі табунком, забягаючы наперад Мішкі, крычалі так, што ўсе дарослыя аглядаліся на іх, а некалькі бабуль нават выйшлі з двароў. Бабулям цяжка было дагнаць шустрых хлапчукоў, каб добра разгледзець шчупака, і яны проста пазіралі ім услед слабымі вачыма, закрыўшыся рукою ад сонца. Адзін дзядзька ўзяў шчупака, паважыў у руках, зайздросна пакруціў галавою.

— Кілаграмаў пяць пацягне,— сказаў ён.— І гэта вы, смаркачы, спаймалі такога?

— Мы!..— хорам запелі хлопчыкі.

Каля свайго дома Мішка сказаў, што возьме шчупака сабе.

— Вы астатнюю рыбу бярыце,— сказаў ён,— а я вечарам усім дам шчупака пакаштаваць.

Але вечарам Мішка на вуліцы не паказаўся.

## Брацкае Сэрца і Дружок

Вечар, за цьмянымі вокнамі моцна падзімае вецер, шпурляе ў шкло градзіны кропель. Віцік сядзіць дома. Яму блага.

Сёння, прыйшоўшы са школы, ён абы-як зрабіў урокі, доўга соўгаўся з кута ў кут — нешта нікуды не хацелася ісці,— потым залез у кладоўку. Ён даўно не заглядаў у яе, хоць там можна было знайсці шмат цікавых рэчаў — амаль што спраўны пісталет, пыльную гонтачку, для нейкае патрэбы год назад украдзеную з будоўлі, або шаблю сваю старую, на якую забыўся даўно, а тут, убачыўшы, успомніў... Хлопчыкі паглядзелі кіно пра крыжакоў. Пабеглі дахаты, сабраліся ў Віцікавым хляве, на гары, дзе ляжыць мяккае, з моцным пахам лета, сена. Хлопчыкі з асалодаю ўспаміналі, як нашы біліся з крыжакамі, падскоквалі ажно, паказваючы, як лупіў наш іхняга. Вырашылі сёння ж зрабіць доўгія мячы і шаблі і гуляць у крыжакоў. Віцік знайшоў роўненькую рэечку, доўга калупаўся з ёй, пакуль крыва завастрыў і прыбіў палачкі на ручку. І тут яму на вочы трапілася старое вядро. Дзіравае, яно валялася нікому не патрэбнае, і Віцік, пахадзіўшы вакол, памераў яго. Вядро было проста цудоўным шлемам, акурат такім, як у крыжакоў. Тут Віцік убачыў дзядзьку Мішу, бацьку малога Воўкі, які зайшоў да іх у хату. Віцік схапіў вядро, падцягнуў да ганка, прынёс малаток з зубілам. Дзядзька спяшаўся, але ўсё ж прабіў у вядры вузкую дзірачку.

Віцік яшчэ раз памераў вядро. Хоць ён і ўлазіў у яго з плячыма, а дзірка была прабітая трохі завысока, усё ж гэта быў сапраўдны шлем. Пад вечар ён прыбег да пусткі, дзе ўжо сабраліся ўсе хлопчыкі. Віцік надзеў вядро. Ад зайздрасці хлопцы ажно анямелі. Віцік пагрозліва варочаўся, натапырваўся пад вядром, тыцкаў шабляю направа-налева.

— А давай паспрабуем стукнуць!..— здалёк пачуў ён Ванькаў голас.

Віцік хацеў быў павярнуцца да Ванькі — і не паспеў. Моцна ляснула, у вачах зрабілася цёмна, і Віцік ажно прысеў, стараючыся як мага хутчэй скінуць вядро. Аднак халернае вядро, як на тое, сядзела шчыльна, ніяк не хацела скідацца. Віцік адчуваў, як на беднай галаве большаў гуз, пухнуў, наліваючыся болем, гнаў з вачэй струмені слёз, што ўжо салёна лезлі ў рот. Нарэшце скінуў і моцна, з нейкаю палёгкаю загаласіў.

Хлопчыкі тады доўга аглядалі вядро, мералі яго таўшчыню, гаварылі, што затонкае яно для шлема, супакойвалі Віціка, прыкладаючы да гуза зямлі...

У кладоўцы пахла сухім пылам, кучаю ляжалі мяхі з анучамі, старыя чаравікі і сандалі, якія не паспелі знасіць Віцік з Галькаю, іржавы керагаз, крыж пад навагоднюю ёлку, кардонная каробка з цацкамі — аблупленымі кубікамі, пірамідамі, лялькамі, паламанымі машынкамі. Жоўтая палоска святла, што падала з прыадчыненых дзвярэй, выхоплівала толькі часткі рэчаў, і ад гэтага было яшчэ цікавей калупацца ў іх, знаходзіць добра знаёмае і даўно забытае. На самым дне кардоннай скрынкі трапіўся агрызак свечкі. Гэта была каштоўная знаходка, Віцік паклаў свечку ў кішэню.

Віцік ведае, што ў бацькі даўно ўжо няма добрага настрою, ён зусім мала ўсміхаецца, усё нешта піша і некуды ездзіць. Яго выключылі з партыі і знялі з работы. Віцік не ведае за што, але ён верыць, што праўда на бацькавым баку. А маці не верыць, часта плача, гаворыць, што ўжо няма за што карміць дзяцей, няма дроў і ўвогуле ўсяго астатняга. У бацькі торгаецца правая шчака, ён крычыць, што хутка ўсё стане на свае месцы, што дзеці яшчэ не галадаюць, бо ў яго ёсць сябры, якія заўсёды дапамогуць,— але перамагаюць матчыны слёзы. Бацька ўцякае ў другі пакой і сядзіць там.

У кватэры цяпер пануе прыгнечаная цішыня, усе

гаворыць мала і амаль шэптам. Толькі, бывае, паб'юцца Галька з Віцікам, і тады ўсё як у нармальных людзей — гвалт, віск, слёзы. І горш за ўсё — што часта ціхенька плача маці. Яна нават сёння паплакала, седзячы на канапе. А якраз сёння на іхнім агародзе невядома як апынуўся ладны стажок сена. Бацька радаваўся і гаварыў:

— Вось бачыце, я заўсёды казаў, што галоўнае для чалавека — сябры. Пакуль яны будуць, чалавек яшчэ пажыве. Цяпер Лысуха з сенам. Малако ёсць, бульба ёсць — галодныя не будзем сядзець. Але хто ж гэта падкінуў — Міхась Кубліцкі ці Валодзя Рабцэвіч?

— Не ведаю,— коратка адказвала маці, стараючыся паказаць, што яна не вельмі радуецца.— Відаць, Міша, ён усё пра сена распытваўся. У Валодзі і машыны няма, каб прывезці.

— Ого, Валодзя як захоча — тры машыны дастане. Але ж вось га́ды, не пабудзілі нават. Ноччу, як злодзеі, перакінулі сена цераз плот — і ўцяклі,— смяецца бацька,— і Дружок не гаўкаў. Ты не чула?

— Гэта дзядзька Міша,— падаў голас Віцік,— Дружок на яго не гаўкае.

Аднак і пасля гэтага твар у маці гаротны, з падціснутымі вуснамі і пацямнеўшымі вачыма. Яна стала і хустку пад бараду завязваць, зусім як вясковая жанчына. Увесь выгляд маці цяпер недвухсэнсава паказвае, што яе напаткала вялікае гора. І яна як быццам трошкі ганарыцца гэтым.

Віцік часамі нават думае, што няма чаго моцна перажываць. Вунь на тым тыдні дзядзька Яша Цырульнік прывёз паўмашыны дроў. Дома быў адзін Віцік. Дзядзька Яша забег у хату, пакруціўся, потым блізенька падышоў да Віціка.

— Хлопчык, цябе Віця клічуць? Віцік? Давай, Віцік, мы зараз пойдзем і дровы пад хлеў скінем. Толькі ты, Віцік, гэтага вашага сабаку куды-небудзь падзень,

а то ён гаўкае і мяшае трошкі работаць. Не панімае сабака нічога. Добра? Харошы хлопчык, маладзец.

Віцік закрыў Дружка ў хляве. Той брахаў басам з-за дзвярэй, а дзядзька Яша і шафёр скідалі з машыны дровы.

Ад'язджаючы, дзядзька Яша крыкнуў Віціку:

— Скажаш бацьку свайму, адзін знаёмы сябра прыязджаў. І яшчэ прыедзе, перадай!

Ён і мех вотруб'я з машыны скінуў. «Гадуй,— сказаў,— кабана, хутка на свежыну прыеду». Вясёлы дзядзька, гаворыць неяк цікава. Віцік яго, здаецца, і не ведаў раней. А бацька адразу згадаў:

— Гэта з такім во носам? Малы, у шапцы вялікай? Яша Цырульнік.

Бацька цяпер мала бывае дома. Маці і за гэта лаецца на яго.

— Сядзіш у сваёй «чайной», гарэлку толькі п'еш, каб табе гарэлка тая ўпоперак горла стала,— крычыць яна каторым разам,— а я тут бегаю з хлява ў хату, рукі абрываю. Хоць бы вады калі прынёс, паразіт!

— Я за свае грошы цяпер не п'ю,— гаворыць бацька,— мяне сябры падтрымліваюць. А праўда сваё возьме, быць таго не можа. От хутка дэпутат прыедзе, я адразу да яго...

— Паслухае цябе той дэпутат, як жа!.. Мукі вунь няма за што купіць, дзеці ўжо забыліся, што такое цукеркі... А ён яшчэ галёш згубіў...

Учора, ідучы позным вечарам дамоў, бацька згубіў галёш. Увосень па Суvoраўскай вуліцы і днём цяжка прайсці, а пра ноч і казаць няма чаго. Вуліца вузкая, пакручастая, уся ў вялізных лужынах. Гразь на ёй чорная, ажно бліскучая. Віцік ні на якіх іншых вуліцах не бачыў такое густое і чорнае гразі. З аднаго боку на вуліцы пракладзены драўляныя масткі, але па іх трэба ўмець хадзіць. Дошкі ў шмат якіх месцах паадзіраліся, а дзе, ступіўшы выпадкам на канец дошкі,

можна абляпацца да самае галавы. Яшчэ і цвікі ўсюды тырчаць плешкамі ўверх, і нага раз-пораз чапляецца за іх, падводзіць свайго гаспадара, ды так, што той скача па калена ў лужыну. І побач з масткамі, паўтараючы ўсе выгібы, віецца глыбокая канава, у якой цёплымі веснавымі днямі ажно кішыць ад пузатых апалонікаў, што вельмі падобны да кітоў на малюнках. Летась у гэтую канаву Віцікаў бацька ўваліўся разам з роварам. І не сказаць, каб быў п'яны, а проста рызыкнуў праехаць па мастках. Нават Віцік гэтага не робіць ніколі.

Так што няма нічога дзіўнага, што бацька згубіў адзін галёш. Мог зачапіцца за цвік, а мог проста саступіць з масткоў. І ўсё. Там цэлы бот можа знікнуць бясследна.

Але згублены галёш усё-такі падзейнічаў на бацьку, сёння ён сядзіць дома. Злы, насуплены. Вось і на Віціка накрычаў. «Не буду з ім размаўляць»,— думае Віцік.

Ён чуе, як зараз бацька займаецца з Галькаю. Сястра дасюль блага чытае, не любіць кнігі страшэнна. Каб ведала, што не ўляціць, дык папаліла б іх усе.

Віцік заглядае ў залу. Каб яго не заўважылі, сядае ў куце на падлогу, цікуе адтуль адным вокам.

— Якая гэта літара? — пытаецца бацька.

— П-пы...— Галька заводзіць вочы пад столь.

— Куды ты глядзіш! — злуе бацька.

— Ну р-ры...— Галька, у адрозненне ад яго, вельмі спакойная. Ёй неяк усё роўна, які кручок намалёваны ў буквары.

— Забяры яе ад мяне!..— крычыць бацька ў кухню.— Сама вучы, раз носішся з ёю, як з цацаю. Толькі і ўмееш — Галечка, Галечка. А яна ў кніжкі і глядзець не хоча. От дзіцятка атрымалася...

У сенцах нехта грукае, доўга мацае клямку, потым далікатна стукае.

— Заходзьце,— маці выходзіць з кухні, выцірае рукі фартухом.

У хату памалу ўсоўваецца Брацкае Сэрца.

Галька радасна бяжыць да яго, вылазіць са свайго кута і Віцік.

— Драстуйце вам у хату! — Брацкае Сэрца здымае картуз, вешае яго на цвік каля дзвярэй, дастае адной рукой з кішэняў паўлітру, другой — жменю цукерак падушачак.— Гэта я іду па вуліцы, а дождж так і сячэ, халера. Дай, думаю, зайду да Міхася. Быць таго не можа, думаю, каб мы [redacted] ім бутэльку не апрыходавалі.

Брацкае Сэрца — гэта шавец, які бабылём жыве на Варшаўскае вуліцы, у самым яе канцы, каля паплавоў. Ён добры дзядзька, заўсёды, як сустрэне Віціка, пагладзіць яго па галаве, папытае, як бацькі, ці ўсё ў іх добра. Цвярозы Брацкае Сэрца бывае рэдка, але гэта мала мяняе яго. Наадварот, узяўшы чарку, ён робіцца яшчэ больш дабрэйшым, спагадлівым, чулым да ўсіх людзей на зямлі. Грошай у яго таксама не бывае амаль ніколі.

— Не ў дзеньгах дзела,— частадаказвае Брацкае Сэрца бацьку.— Дзеньгі ад шчасця, я думаю, очань далёка. А як харошы чалавек, дык ты, брацкае сэрца, заўсягды мне бутэльку паставіш. А я табе, брацкае сэрца, проста буду благадарны. Патаму што мы жывём сярод людзей, а не з свіннямі ў хляве. То-та, брацкае сэрца.

Брацкае Сэрца і бацька сядаюць проста на кухні. Шмат ім не трэба — гурок, крыху кіслай капусты ў міску, скрылік-другі сала, ну і чарка паямчэй, каб трохі ў яе ўлазіла. Цыркацца мужчыны не любяць. Ужо як узяў у рот — дык каб адчувалася, што нешта гэткае ты глынуў. Такое, ад чаго хварэць не будзеш.

Брацкае Сэрца, перш чым сесці за стол, стаіць перад люстрам, робіць парадак на галаве. Валасоў у яго няшмат, але тым не менш ляжаць яны павінны не ўверх

і не ўніз, а ад вуха да вуха, якраз пасярэдзіне лысіны. Лысіна, відаць, слізкая, і тыя тры валасіны ніяк не хочуць трымацца на ёй, з'язджаюць на лоб. Брацкае Сэрца наогул прыдзірліва аглядае сябе ўсяго, чысціць на плячы свой заношаны, незразумелага колеру пінжачок.

— Ета ж былі і мы... рысакамі. Га, Марыя?

Адказу не чуецца.

Чаравікі ў Брацкага Сэрца таксама старыя, з дзірак тырчыць засохлая трава. Можна здагадацца, што не аднымі вуліцамі ходзіць іх гаспадар, а любіць шлях і нацянькі, каб найкарачэй дасягнуць мэты свае вандроўкі. Душа Брацкага Сэрца наогул не любіць абмежаванняў. «Куды хачу, туды вярну,— гавораць, напрыклад, ягоныя чаравікі.— Не ў етым дзела».

— А друг мой дарагі, брацкае сэрца, і не паглядзеў на мяне, паскуда,— гаворыць Брацкае Сэрца, сеўшы за стол.— Сволач сталічная, нават вуха не натапырыў. Адвярнуў морду і глядзець не жалае. Быццам ён мяне не ведае, а я яму чужы чалавек.

Усе ў хаце смяюцца, нават Віцік з Галькаю ведаюць, на каго наракае Брацкае Сэрца.

Некалькі дзён назад, вось гэтак жа, як сёння, ідучы ў госці да Мацкевічаў, Брацкае Сэрца сустрэўся з Дружком, сабакам Мацкевічаў, самым вялікім, між іншым, сабакам на гэтым баку Ліскавіч. І сустрэча гэтая аказалася не самай прыемнаю на вялікім і цярністым жыццёвым шляху Брацкага Сэрца.

Было ўжо далёка за паўдня, як Брацкае Сэрца, пералезшы цераз плот з боку Загораўскае вуліцы, ішоў гразкім бульбянішчам да Мацкевічаў. Церусіў дожджык, нарываўся раз-пораз вецер. Брацкае Сэрца сунуўся няспешна, заграбаючы нагамі і прышлэпваючы. Віцік добра ведае, як ён ходзіць, якраз зусім нядаўна бачыў: Брацкае Сэрца пачаў быў абыходзіць гразкую лужыну — і ўлез па калена. Выбрыў да сухога месца, з асуджэннем паглядзеў сабе на ногі:

— Іч ты, халера... Што тыя боты салдацкія. А былі ж чаравікі на нагах, га?

Але доўга пераражываць не стаў, пайшоў далей.

Дык вось, брыў Брацкае Сэрца гародам трохі на падпітку. Відаць, бубнеў сабе нешта пад нос, бо любіў, трэба сказаць, пагаварыць з харошым чалавекам, асабліва з такім, як сам. А можа, і спяваў, бо шырокая душа патрабавала і шырыні адпаведнай, не проста слова-другога да сябе ці знаёмага.

І пераняў яго вялікі, як цяля, шэры ў чорных падпалінах, мешанец нямецкае аўчаркі з непародзістым, але і немалым, мусіць, сабакам — Дружок.

Дружок лічыўся ў Мацкевічаў Віцікавым сабакам. Калі Віціку было гадоў шэсць, маці ўзяла яго ў грыбы. Хадзілі недалёка, у ялоўнік за Ліскавіцкімі могілкамі. Гэта цяпер Віціку здаецца, што недалёка, а тады ён добра прымарыўся, цягнуў свой кошык з маслюкамі, нават не зазіраючы ў яго. Ужо ідучы назад, маці ўбачыла ў двары хаткі, што прыткнулася да самае чыгункі, знаёмую жанчыну і спынілася на хвіліну пагаварыць. Жанчына разам са звычайнымі навінамі — той ажаніўся, а тую мужык кінуў — паведаміла, што раніцаю ўхайдокалі іхнюю злую сучку, аўчарку.

— Вось шчанюкі зусім малыя засталіся,— сказала яна,— двух аддалі, а астатніх патапіць прыйдзецца.

— Ма-а,— заскуб матчыну спадніцу Віцік.— Ма-а...

— А пакажы шчанючкоў,— зразумела яго маці.— Гэта ж і нам сабачку трэба. Ходзяць праз агарод, як па вуліцы. Сучка ж у цябе злая была?

— І злая, і ўрэдная. Як не дагледзіш, абязацельна курыцу прыдушыць. І не ўбачыш ніколі.

— Дык, можа, і не яна зусім?

— А каму ж яшчэ. Ваўчыца нямецкая, дальбог, не гаўкнула ні разу.

Маці і Віцік выбралі самага большага шчанюка. Ён

быў тоўсты, з вялікаю галавою, смешна закідваў лапы за вушы, спрабуючы хадзіць.

Віцік нёс яго на руках да самае хаты. Сабачка быў даволі цяжкі. Віцік ажно засопся, а перад хатаю пачаў спатыкацца адразу на дзве нагі. Шчаня ціхенька скавытала, лезла мордаю пад бараду, тонкі хвосцік дробненька дрыжаў.

На ганку іхняе хаты сабачка тыцнуўся мордаю ў дошкі, быццам галава пераважвала ўсё астатняе. Тут жа яго пачало ванітаваць. Трохі аддыхаўшыся, Віцік хацеў быў накарміць яго, але шчанюк не заўважаў хлеба, поўзаў толькі, нешта шукаючы.

Назвалі сабачку Дружком.

Вырас Дружок хутка, неяк адразу зрабіўся вялікім, моцным сабакам. Адно дурныя, па-дзіцячы мутнаватыя вочы паказвалі, што ён яшчэ вялікае шчанё, якое пакуль што добра ўмее толькі насіцца кругамі па двары і брахаць на які-небудзь стары чыгун, выкінуты ў агарод. Віцік вельмі перажываў, што вушы ў яго стаяць тарчма не заўсёды, а як паклічаш ці свіснеш яму. Тут адсутнічала, на думку Віціка, самая галоўная прыкмета сапраўднае аўчаркі. А Дружок любіў ганяць курэй — тыя заляталі ажно ў суседнія агароды,— любіў дурэць з Віцікам, валяючы яго, як ляльку, любіў грызці, ашчаперыўшы пярэднімі лапамі, маленькі гумовы мячык.

Потым Дружка пасадзілі на ланцуг каля хлява. Ён выправіўся ў здаравеннага сабаку, якога пачалі баяцца і дарослыя. Злейшымі ворагамі Дружка цяпер былі паштальёны і бяздомныя сабакі, якіх Дружок не любіў нават больш за катоў.

І не любіў Дружок п'яных. Ёсць такія сабакі, якія заўсёды радуюцца свайму гаспадару, мятуць хвастамі, ківаюць галавой, тыцкаючыся ў калашыну гаспадарскіх штаноў, павіскваюць ад любові і гатоўнасці служыць гэтаму чалавеку. Але вось выпіў дзядзька — і ўжо гне

голаў той сабака, падціскае хвост між ног, гырчыць нават, не хоча, каб гладзіла гаспадарская рука яго па карку. Ён лепш уцячэ ў будку і будзе нездаволена бліскаць адтуль скошаным вокам, чым пакажацца на вочы гаспадару.

...Невядома, ці паспеў Брацкае Сэрца спалохацца, калі наскочыў на яго Дружок. Невядома таксама, кульнуўся ён у разорыну адразу ці пахістаўся яшчэ разам з сабакам, падужаўся з ім хвілін некалькі і потым ужо грымнуўся знясілены на зямлю, адступіўшы перад больш моцным праціўнікам. Дакладна вядома толькі, што Віцікава маці, выпадкова ўчуўшы на агародзе нейкую валтузню, знайшла Брацкае Сэрца ў гразкай яміне. Дружок сядзеў на ім зверху, а Брацкае Сэрца, лежачы тварам уніз, прасіўся:

— Пусці, гад, я ж хадзяіна твайго ведаю, Міхася. Ну пусці, колькі гэтак ляжаць можна, мордаю ўніз. Пусці, звер!..

Ён нават і грязіўся трохі:

— Ты ў мяне яшчэ паскачаш, сволач нямецкая...

Дружок слухаў яго ўважліва, але са спіны не злазіў.

У хаце пакачаны, увесь у гразі Брацкае Сэрца доўга чмыхаў, круціў галавою, а потым з гора, што не адбіўся ад сабакі, яшчэ выпіў, ды так, што давялося паляжаць на канапе, каб набрацца сіл ісці дадому.

Вось і зараз, узяўшы чаргу, Брацкае Сэрца, замест таго каб закусваць, гаворыць:

— Вам яго трэба наказаць як палагаецца. Гэта ён ужо на людзей кідаецца, а што потым будзе? Перакарміла, Марыя, д-да, перакарміла. Здаровы, як трактар «Беларусь». Сеў на мяне, думаю — калодай прываліла. Нікагда, думаю, ужэ не выберуся. Але Марыечку бог падкінуў. Не фраер ён яшчэ, гэты бог. Інагда глядзіць на зямлю, хаця і рэдка. Так жа сама, лет пяць таму назад, пяцьдзесят рублёў знайшоў на вуліцы. Дзве

паўлітры купіў, кілбас там, чыкаладу з баржомам. Трэба, думаю, падзякаваць госпада. Але як набраўся — прапіў і свае дзесяць рублёў, так што начаваў, каб не збрахаць, пад Хвядоса Белага заборам. То-та, брацкае сэрца. Ты, чыжык, не пі гарэлку,— гэта ўжо да Віціка.

Мужчыны куляюць яшчэ, хрумсцяць капустаю.

— Вот, Міхась, вазьмі людзей,— працягвае Брацкае Сэрца.— Тут ужо не так, як з другам маім дарагім. Сабака ён і ёсць сабака, а людзі ўжо другая карціна. Лес няроўна расце, так жа сама і мы. Вот ты скажы,— як цябе з парціі сключылі, ты пра людзей нехарашо можаш падумаць?

Бацька крыва ўсміхаецца, хоча нешта сказаць, але Брацкае Сэрца не дае:

— Не імееш права. Людзі, брацкае сэрца, заўсягды разбяруцца. У іх жа галава ёсць, яны думаюць!

— Крычаў бы паменей,— папракае бацьку і матка.

— Д-да, правільна,— не можа быць убаку Брацкае Сэрца.— Аб'ясніць трэба было, што выйшла гістарычаская ашыбка.

— А, ясна, што ашыбка,— махае рукой бацька. – Давай во лепш вып'ем.

Брацкае Сэрца збіраецца ісці, калі дзяцей гоняць спаць. Галька скандаліць, не хоча класціся, выдумляе, што ёй то піць хочацца, то яблык з'есці. Маці не можа даць ёй рады, а бацька пасля гарэлкі лагодны, хоць да раны прыкладай, як гаворыць маці. Ён расказвае заморанаму Брацкаму Сэрцу пра сваю цётку Тэклю, якая выгадавала яго. Віцік бабу Тэклю любіць. Яна, як прыязджае, заўсёды прывозіць трускалак, цукерак, ружовае паляндвіцы, якую гэтак смачна, як яна, ніхто не ўмее рабіць. Брацкае Сэрца ківаецца на лаўцы, не можа добра трымаць галавы, але ўсё ж старанна лыпае вачыма — слухае.

Стрэлкі на гадзінніку запаўзлі ўжо ў самы верх Брацкае Сэрца зграбае ў сетку старыя чаравікі, туфлі, боты, што стаяць у куце.

— Заўтра прынясу як новыя,— гаворыць ён.— Ты, Міхась, галоўнае, не перажывай. Прапасці табе ніхто не дасць, каб і захацеў. Уласць у нас нашая. Будзем жывы — не памром. Марыя, друг мой навязаны?

Віцік чуе ўсё гэта са спальні.

— Дружок яго нават не пакусаў...— думае ён, засынаючы.— Дружок толькі на ланцугу злы...

Бацька сапраўды дабіўся свайго. Месяцы праз тры, пасля сустрэчы з дэпутатам, ён зноў працаваў на ранейшай рабоце — інжынерам у Міжкалгасбудзе. А яшчэ праз год ён атрымаў назад і свой партыйны білет. Бацька дабіўся, каб яго заслухалі на бюро ЦК, і там згадзіліся, што ў спрэчцы з сакратаром райкома праўда была на бацькавым баку.

Як зразумеў пазней Віктар, бацьку дапамаглі не толькі вера ў сваю правату, жаданне змагацца да канца і ўпартасць, яму дапамаглі і стажок сена, і кубаметр-другі дроў, і Брацкае Сэрца дапамог, які між іншым збіраў ірваны абутак і рабіў яго як новы. Невядома, што было б без людское падтрымкі. Чалавекам, тым, хто я ёсць, мяне зрабілі сябры, любіў гаварыць бацька.

Віктар часта думаў, што асабіста яму, Мацкевічусыну, трошкі бракуе бацькавай сілы волі і настойлівасці. Ён тады апраўдваўся тым, што яму не ставала тае жыццёвае загартоўкі, якую меў бацька. Сапраўды, у дванаццаць год застацца без бацькоў, зарабляць сабе на хлеб тым, што клеіш бахілы, самому, без ніякае дапамогі паступаць у вучылішча — гэта школа. Пры цяперашнім жыцці такую школу прайсці цяжка.

Віктар любіў бацьку і дараваў яму яго цяжкі характар — вынік, відаць, тае самае школы.

## Лес

Была нядзеля.

Апошнімі днямі на вуліцы круціла такая завіруха, што Віцік, зашпілены і ўвязаны да самых вачэй, хадзіў толькі да школы і назад, астатні час сядзеў дома, чытаў кніжкі і слухаў, як вецер мякка і моцна стукае ў вокны, ляпае на страсе нейкаю рэйкаю, галосіць у коміне дурным, дамавіковым голасам. Вокны тоўста ўбраліся кручанымі ўзорамі, што налазілі адзін на адзін, праз іх не відаць было нічога — ні станчэлага вішняку, ні настылых, заледзянелых з аднаго боку бяроз, ні вялізных сумётаў, над якімі курэў беленькі пылок-дым. Віцік, выбягаючы на двор, убачыў, што пад снегам зусім зніклі тры вуллі Пятра Іосіфавіча, а ад кармушкі, падвешанай для сініц і вераб'ёў, матляўся толькі кароценькі абрывак вяроўкі. Усяго некалькі дзён таму ў школе пачаліся канікулы, і гэта было самае крыўднае. Віцік вельмі стаміўся ляжаць, сядзець, есці і чытаць. Дзень і вечар былі доўгія, як чвэрць у школе. Шукаючы сабе занятак, ён збегаў у адведкі да Дружка. Будку таксама засыпала, адно вецер разгойдваў аб'інелы ланцуг. Віцік пракалупаў ва ўваходзе дзірку, зазірнуў усярэдзіну. З цёмнае глыбіні будкі патыхнула цёплым пахам псіны, акурат у твар Віціку ветліва пазяхнуў Дружок, стукнуў па подсцілцы адзін раз хвастом, але не ўстаў.

— Ну і правільна, што спіш,— сказаў Віцік.— Давай назад закідаю, а то змерзнеш.

Сонна рохкаў у хляве парсюк, а каровы і курэй не чуваць было зусім.

А ў нядзелю сціхнуў вецер, вызірнула белае сонца, і заззяў, замігцеў сляпучы снег, такі сыпкі, што нельга было зляпіць снежкі. Касыя сумёты ляжалі ўпоравень з парканамі, а пад тыльнай сцяной хлява снегавы горб ледзь-ледзь не дасягаў падстрэшша. Па сумётах каціліся блакітныя хвалі ценяў.

Вуліцаю уздоўж платоў прабіваліся глыбокія сцежкі, завузкія для двух чалавек. І амаль над кожнаю хатай віселі тонкія слупкі рэдкага дыму.

Толькі-толькі прайшоў Новы год. У зале стаіць высокая, пад столь, ёлка. Віцік нават яшчэ не прывык да яе, і калі заходзіць у залу — яго ахоплівае святочнае пачуццё, чаканне радаснага і прыемнага. Адно псуе настрой Галька, якая сядзіць пад ёлкаю і гуляе ў лялькі. Віцік не тое што зайздросціць, а заўсёды ўспамінае, як з-за гэтае Гальки ўляцела яму.

Некалькі год таму Галька была зусім малая, вось гэтак жа паставілі ёлку, убралі прыгожанька, шароў ды паўлінаў панавешвалі на пруткае вецце з густымі іголкамі. І яшчэ ў доўгіх нітках срэбнага дожджыку звабліва пагойдваліся розныя цукеркі — «Залаты ключык», «Ракавая шыйка», «Ластаўка», «Піянерскія» і шмат іншых.

Дзецям цукеркі браць з ёлкі забаранілі.

— Пройдзе Новы год,— сказала маці,— тады і знімем іх. Няхай ёлачка прыгожая пастаіць.

Віцік хоць і ўздыхнуў, але лісой вакол ёлкі хадзіць кінуў. Пасля дык пасля. Патрываць ён можа.

А калі ёлку пачалі абіраць, усе ўбачылі, што цукеркі, якія віселі невысока ад падлогі, былі пустыя. Адныя паперкі віселі, акуратненька скручаныя, некаторыя нават напіханыя ўжо чэрствым хлебам. Маці, канечне, пачала крычаць на Віціка. Віціку было крыўдна, ён паказваў на Гальку, але ніхто яго не слухаў. «Як, дзіцяці трох гадоў няма. Яна толькі нядаўна хадзіць навучылася. Манюка, а яшчэ вучышся добра, не будзе табе цукерак».

Пад вечар Галька нечакана прызналася. Маці ўкладвала яе спаць, цалавала, і Галька неяк балбатнула, што гэта яна цягала цукеркі.

Дарослыя вельмі смяяліся са слаўнага дзіцяці, а Віцік — не.

Убачыўшы Гальку побач з ёлкаю, Віцік адразу пачынае думаць пра магчымую шкоду, якую можа яму зрабіць сястра. Але з кухні далятае гоман многіх галасоў, тупатанне, штомінутна бразгаюць дзверы, і Віціку няма як шмат займацца Галькаю. Сёння з самае раніцы, яшчэ не развіднела добра, у хату найшло поўна мужчын. Бацька вырашыў закалоць парсюка, і сябры-прэферансісты з'явіліся на дапамогу ў поўным складзе. З іх адзін толькі дзядзька Міша Герасімчык умее трымаць у руках швайку, а астатнія, як і бацька, упраўляюцца лепш за сталом, калі сквірчыць на ім свежына, ідзе пара з буйное бульбы, запацелыя стаяць зеленаватыя бутэлькі, а іх спрытна трэба адкаркаваць. Няўлоўны рух рукі — і бутэлька, шчоўкнуўшы, стаіць гатовенькая. Аднак сёння з раніцы ўсе дзядзькі таўкуцца ў хаце і каля яе, носяць місы, нажы, вядро з драцянаю сеткаю замест дна, а Эдуард Хрыстафоравіч Шаламаў цягае з кута ў кут ахапак саломы. Яе ўжо досыць многа на падлозе. Гавораць рэзкімі галасамі, хвалююцца, зусім не звяртаюць увагі на Віціка. «Міхась, калок не забудзь, каб кроў уся не выбегла... Вуголле ў вядро зараз насыпаць?.. Пасля, паспеем, вяроўкі во дайце. Там ёсць за што прывязаць?.. Ёсць, ёсць, і шула, і за жэрдку пачапіць можна... Марыя, лямпу дай. Цёмна там, мусібыць... Ой, дайце ж газы налію... Усе разам не ідзіце, пойдзем толькі я і Міхась...»

Маці бяжыць хавацца ў спальню, яна вельмі баіцца свінячага віску, як і грамоў. Яна заўсёды падае на ложак і хаваецца пад падушку.

Віцік ускочыў у валёнкі і рвануў таксама да хлява. Дружок быў коратка прычэплены да сцяны, але не гаўкаў, стаяў толькі нацяты, моцна ўпершыся лапамі ў зямлю.

Бацька і дзядзька Міша ўжо зайшлі ў катух. Парсюк завішчэў, нешта прадчуваючы — у Віціка ажно

тарганулася сэрца, апякло жарам твар,— але потым змоўк. Чутно было, як мужчыны нешта бубнелі лагоднымі галасамі, супакойвалі, як супакойваюць малое дзіця, што занаравілася, здаравеннага, пудоў на дзесяць, брудна-белага парсюка. Цішыня была доўга, і раптам, так, што скаланулася, здаецца, паветра, адчайна раўнуў парсюк, завішчэў на ўсю вуліцу, трымаючы адну, жудасна высокую ноту, і віск гэты востра ўлазіў у вушы і ў сэрца, прыгінаў да зямлі, штурхаў, прымушаючы ўцякаць у хату. Але вось абарваўся — мусіць, нядоўга і быў ён,— і дзядзькі подбегам кінуліся да хляўка.

— Вуглі цяпер давай! Лямпаю не будзем смаліць, вядром з вуглямі. Паглядзіш, якая скурка мякенькая будзе!

— А салому, салому несці?

— І салому давай...

— Куды кроў падзець? Марыя, дзе тая Марыя?..

— Міша, ты камень у рот заклаў? Без каменя ж...

— Каго ты вучыш? Давай за нажамі лепш.

І Віціку карцела ўскочыць у хлеў, але ён пакуль што падскокваў на месцы,— як Дружок, якога вельмі здзіўляла мітусня,— аднак і без Віціка шмат людзей таўклося ля ўвахода. А тут яшчэ і маці падышла, пачала сваё «ідзі адзенься». «Адзенуся, холадна стане, сам адзенуся».

Пранеслі вядро цьмяна-чырвонага, дыхаючага іскрамі, вугалля. Віцік і сапраўды хацеў быў падацца да хаты за ватоўкаю, але тут у хляве нешта рохкнула, віскнула, роспачна войкнуў нехта і мацюкнуўся, і дзядзька Змітраковіч, што стаяў у саменькіх дзвярах, раптам упаў, закінуўшы ногі дагары. З катуха выскачыў парсюк, ірвануў па глыбокім снезе да яблынь. На ім, ашчаперыўшы рукамі шыю, ляжаў бацька. Парсюк бег, неяк схіліўшыся набок, моўчкі рыў баразну ў цаліку снегу. Спачатку, метраў праз шэсць, упаў

бацька, за ім, ўжо ля самае яблыні, парсюк. Ён як паваліўся — і не варухнуўся болей, а бацька падскочыў, як мячык, з крыкам «Дзяржы!» памчаў наўздагон. Душыўся ад брэху Дружок, беглі, лаючыся, дзядзькі, уцякала ў хату маці. Праз дзірку ў плоце глядзела з вуліцы нейкая баба, і Віцік нечага кінуў у яе снегам. Ён як стаў на месцы, так і застаўся стаяць, не паспеў нічога зрабіць.

Дзядзька Міша Герасімчык яшчэ раз падбег са сваёй швайкаю, але парсюк ужо не торгаўся, ляжаў брудную тушаю на белым снезе, а людзі вакол яго махалі рукамі, нахіляліся, спрабавалі цягнуць парсюка да хляўка, але было нязручна. Прынеслі вяровак і тады ўжо падвалаклі тушу да ўтаптанага месца, прыцярушанага саломаю.

— Ён жа, паскуда, прывязаны быў...

— Я ўжо адвязаў, вяроўка мяшала хадзіць...

— А Міхась харашо ехаў, сядзеў як уліты, што табе данскі казак!..

— На такім рысаку, ета, не кожан здолее. Добра, браце мой, пад капыты не трапіў.

— А, пайшлі вы...

— Пеця, ён табе, гэта самае, між ног... Усё харашо, жонка дамоў пусціць?

Мужчыны рагаталі так, што здавалася, пападаюць зараз побач з парсюком. Герасімчык вінавата тлумачыў нешта, здзіўлена круціў у руках швайку, бацька таксама махаў рукой, пацiскаў плячыма, не мог расказаць, як апынуўся на парсюку.

— Каб ён тут паваліўся — дык нічога, а то да самай яблыні дабег,— сказаў Віцік, і ўсе зноў пакаціліся, у Герасімчыка ажно заслязіліся вочы.

— Да, яго маць, далі хлопцы жызні. Толькі ж не расказвайце нікому.

— Х-хэ, не расказвайце... Такога гвалту нарабілі,

палова Ліскавіч гула. Вунь вароны на бярозах усхадзіліся.

Пачалі смаліць парсюка, скрэбці нажамі, пакуль скура не рабілася чыста-жоўценькаю. Віцік таксама шкрабаў за парсючыным вухам, стараўся. Дзядзькі пацвельваліся адзін з аднаго, асабліва шмат гаварыў Эдуард Хрыстафоравіч. Ён і не рабіў нічога, а толькі смяяўся то з таго, то з другога, пакуль Герасімчык не сказаў:

— Табе, Хрыстафоравіч, як пападзе што ў зубы, дык будзеш круціць, пакуль не раскусіш.

Тады Эдуард Хрыстафоравіч пайшоў у хату. «Я стаміўся»,— сказаў ён.

Віцік думаў, які ў яго сёння цудоўны дзень. Мала што сонца і свежына — па абедзе ўся іхняя каманда ідзе на лыжах у Тамашэўскі лес. На тым тыдні на горцы ў лесе яны пабудавалі трамплін. Але пачалася завіруха, і не было як схадзіць да яго. Віцік не бачыў яшчэ трампліна, але хлопцы расказвалі, што ён проста выдатны, высокі, скакаць з яго адна асалода.

Ад радасці Віцік падбрыкнуў казлом, падбег да Дружка падужацца. Той, застаяўшыся, адразу паваліў яго галавою ў снег, ласкава задыхаў у твар, лізнуў нават. Але тут жа адскочыў убок і зноў утаропіўся, наструнены, на дзядзькоў. Незразумелымі былі яму мітусня вакол парсюка, нерухлівасць таго і маўклівасць, зноў жа новы, незнаёмы пах паленага лез у нос, трывожыў.

Віцік успомніў, што не выцягнуў яшчэ з кладоўкі свае шыракаватыя целяханскія лыжы, не праверыў умацаванні. Тут ужо не вельмі было цікава — зараз парсюка абсмаляць і абскрабуць, потым будуць разбіраць, пакуль частка яго не апынецца ў ночвах, сэрца, пячонка і ныркі — у місах, а галава з каменем у роце будзе ляжаць асобна, і занясуць яе ў хату апошняю. Ён усё гэта ведае, бачыў не раз. Ды і змёрз ён,

праўду сказаць, на вуліцы. Але не адразу пайшоў у хату, а яшчэ пакруціўся каля дарослых, пакуль не сцягнуў парсючыны хвост, каб пахваліцца перад хлопцамі.

...На лыжах ішлі ланцужком, саплі ў спіну адзін аднаму. Наперад і ў бакі ляжала раўнюткае, аднолькавае поле, і зусім памалу насоўвалася маўклівая сцяна сіня-шызага лесу. Снегу было шмат, вецер выгладзіў яго высакаватымі, доўгімі хвалямі. Ісці было б вельмі цяжка, каб нехта не праехаў перад імі на санях, вызначыўшы замеценую дарогу і трохі ўтаптаўшы яе. Улетку гэтаю дарогаю хлопцы бегалі штодня, але цяпер цяжка было пазнаць тарфяныя паплавы, кранутыя шэрымі, белаватымі па краях, выгарынамі. Рэчкі таксама амаль не відно, яе сціснулі павужэлыя берагі, над лёдам гарбамі навіслі снегавыя гурбы. Недарэчна вісіць масток, нікому ён цяпер не патрэбен.

Віцік трохі ўспацеў, але на роўным падзімае даволі моцны вецер, цісне збоку, апякае адну шчаку, і Віціку хочацца хутчэй дабрацца да лесу, дзе вецер гудзе толькі па вяршалінах соснаў, не можа прадрацца праз іх калматае голле ўніз. Лес — гэта такое месца, дзе б Віцік і жыў, калі б можна было. Тамашэўскі лес, праўда, не зусім падыходзіць. Ён прасторны, сухі, мала ў ім гушчароў і балоцін, рэдка і звярка якога стрэнеш — зайца ці ваверку. Невялікі Тамашэўскі лес, Віцік ажно расчараваўся, калі выйшаў неяк да хутара на другім яго канцы. А раз лес невялікі — абходжаны, абмацаны і абнюханы ён людзьмі, так што некранутага лапіка з суніцамі, напрыклад, знайсці цяжка. Хіба што ў правым яго баку, на сасновым адхоне, дзе бывае ажно чырвона на ўгрэлай сонцам зямлі. А вось той лес, куды ездзіў Віцік з маці і цёткай Рагозіхай па журавіны — зусім іншая справа. Там ужо цяжка знайсці абгладжаную, асветленую сонцам палянку. Мокрая зямля, зялёны, тоўсты мох, чорныя ствалы дрэў.

Зямля не трывалая, у каторых месцах нават трасецца. Куп'істыя балотцы пераходзяць адно ў другое, абходзіць іх трэба асцярожна. «Крый божа, усунецца чалавек — і не выпаўзе»,— са страхам гаворыць маці, трымаецца бліжэй да Рагозіхі, якая завяла іх сюды. У Віціка хоць таксама сціскаецца сэрца, але яму падабаюцца гэтыя купкі, на якіх можна пагойдацца, чырвань вялікіх журавін у зялёным, гнілы пах застаялае вады, якая ніколі не высыхае. Ён убачыў карычневую, з жудасна-прыгожым узорам, гадзюку на пяньку. Дакладней, спачатку ўбачыў маладзенькі абабак ля пянька, а потым ужо гадзюку, што скруцілася кольцамі, нерухліва ляжала. Стаіўшы дыханне, стаяў некаторы час, і кольцы на пяньку прыцягвалі да сябе, не было як адвесці вачэй. Спіною, з намаганнем пераастаўляючы ногі, пайшоў ад пянька. Зрабілася вусцішна, але захацелася яшчэ раз убачыць узоры і — вочы гадзючыны.

У тваністых ямах, вакол якіх толькі шорсткая, зрудзелая асака, зрэдку пачынаецца булькатанне, выскокваюць з чорнае глыбіні вялікія бурбалкі. Што гэта? «А хто яго... хадзем адсюль»,— маці і Рагозіха ўсё заварочваюць да грудкоў, дзе сушэй. Гавораць амаль шэптам, а болей маўчаць. Віцік убачыў вужа — і ўзрадаваўся, пачаў клікаць іх, каб паглядзелі. Ён вужоў зусім не баяўся, насіў за пазухай, яны былі амаль такой жа жывою цацкаю, як кацянё ці шчанюк. Але жанкі замахалі рукамі, закрычалі, каб зараз жа кінуў змяю і бег сюды. У маці ажно перахапіла голас. Каб Віцік не прыгнуўся, дык і па шыі зачапіла б. «Апошні раз!.. Нікуды не пойдзеш!.. З-за цябе сэрца!..». Віцік адышоўся ад іх падалей. Ён сам сабе будзе. Добра, што гадзюку не паказаў. Галасілі б, мусіць, паўдня...

На ўскрайку лесу лыжня некалькі разоў перасекла сляды зайцоў — спераду дзве большыя ямкі, ад

задніх лап, ззаду меншыя. Птушкі — вароны ці галкі — чарцілі роўны цалік шнурочкамі самалёцікаў. Сустрэліся і вялікія сляды — з кіпцюрамі. Віціку падкаціла пад сэрца: можа, воўк?

— Хлопцы, хлопцы, воўк прабег!

— Ага, во, во, з лесу выскачыў!

— Не, сабака. Ваўчыныя не такія.

— Ну якія, якія?

— А от не такія. Большыя.

У лесе сапраўды адразу зрабілася зацішней. Тоўста аснежаныя яліны ледзь трымалі сваё ўбранне, каторыя і паскідалі ўжо яго, з палёгкай падняўшы пруткія лапкі. Нідзе не варухнецца нічога, не рыпне і не ўздыхне, адно павісне ў сасновым голлі снегавы пылок, бязгучна растане. Глухая, стоеная цішыня, толькі шырхаюць лыжы ды цяжка дыхаюць хлопчыкі.

Віцік думае, што вернуцца яны пад вечар, а ў хаце ўжо будуць сядзець за сталом, і ў адным з пакояў, у самым дальнім, ленавата будзе гартаць кніжкі пра Нязнайку і Чыпаліна Змітраковічава Таня. Там жа, канечне, і Галька са сваімі лялькамі. А можа, прыйдзе з Таняю і Дана? Яны сяброўкі, сядзяць за адною партаю, так што і да Віціка могуць прыйсці разам. Віціку хочацца, каб прыйшла да іх высокая, з блакітнымі вачыма і жоўтымі, як салома,валасамі Дана. Яна запрашала Віціка да сябе на польскі Новы год — Дана палячка,— але якраз у той дзень Віцік два разы чхнуў не там дзе трэба, і маці не пусціла. Сказала, што прастыў.

З-за сосніў паказалася горка. Хлопцы з гігіканнем, хто хутчэй, пад'ехалі да трампліна. Трамплін быў зроблены не проста ■ грудка зямлі, а меў яшчэ надбудову з калкоў і дошак, ён быў услалы яловымі лапкамі, якія цяпер добра прысыпаў снег. «Ого,— падумаў Віцік,— тут як кіне — толькі трымайся...» Пахаладзела ў жываце, пачало смактаць там, сліна ў роце

зрабілася кіслаю. Ён узлез на вяршыню, з'ехаў уніз па роўным. Скат быў яшчэ не выгладжаны лыжамі, снег тармазіў хуткасць, і Віцік папятляў нават управа-ўлева. Але задаволенасці не было. Гэтая горка была такая, што на розных яе адхонах маглі катацца і вялікія хлопцы, да якіх ужо належаў Віцік, і такія, як Герасімчык Воўка або Кубліцкі Юрык. А з малымі катацца — гэта толькі сябе няславіць.

На трамплін паехаў Шаламаў Мішка. Раскаціўшыся, ён штурхнуўся ад краю трампліна, праляцеў метры тры і стукнуўся аб зямлю. Лыжы моцна ляснулі, Мішка не ўтрымаўся і ўпаў. Але тут жа падхапіўся і пабег на горку.

— Нічога, гэта я з непрывычкі! — бадзёра крычаў ён.— От паскачам!

Паехаў Ванька, пругка скочыў і не паваліўся, толькі зляцела ягоная вялікая заечая шапка. Віцік пад'ехаў да купкі меншых хлопчыкаў, якія толькі пазіралі на трамплін. Савеня Шурык стаяў каля лыжні, але баяўся ехаць, чакаў Віціка. «Нават Мішка ўпаў»,— гулка стукнула ў галаве, было горача.

— Давай, Віцік, разганіся толькі!..

Віцік глыбока ўздыхнуў і штурхануўся палкамі. Яму здалося, што ён паехаў вельмі хутка, і пачаў прытарможваць палкамі. Ён разумеў, што паказвае зараз свой страх, але ўсё роўна тармазіў. І ён адразу зразумеў, што не скокнуў, а паляцеў спіною на цвёрдую зямлю: хуткасці хапіла толькі на тое, каб праехаць трамплін, а адштурхнуцца Віцік ужо не здолеў. Ён устаў, пакруціў шыяй — і адчуў, што страх перад трамплінам знік. Падбеглі хлопцы, «мы ж крычалі, каб хутчэй ехаў... галавы не зламаў?.. А я гляджу — лыжы ўверх, кулдык — і няма!..», і Віцік весела засмяяўся, палез разам з усімі на горку, каб з'ехаць яшчэ.

Цяпер усё атрымалася, а скачкоў праз пяць ён нават не паваліўся, утрымаўся на нагах і доўга каціўся,

адчуваючы сябе сапраўдным спартсменам, чэмпіёнам, патрос тысячам гледачоў узнятымі ўгору рукамі. Пачалі скакаць, хто далей, і Віцік заняў другое месца, пераляцеўшы Ванькаву рысу. Няўдала скокнуў Шурык, падвярнуў нагу, але хлопцаў гэта не спыніла. Прыехалі яшчэ хлопцы з Зялёнай вуліцы — даўнія і найбольш небяспечныя футбольныя сапернікі,— скакала цяпер чалавек сем.

Віцік яшчэ раз разагнаўся, праляцеў у паветры салодкае, напоўненае адчуваннем уласнае бязважкасці, імгненне, хораша прызямліўся і стомлена пакаціў між сосна̂ў. Прыкметна падсінілася паветра, пабольшалі цені, і ў густым ельніку ўжо заварушыўся прыцемак. Віцік нечакана ўспомніў, як першы раз у жыцці паехаў з хлопцамі на гэтую горку. Каталіся доўга, забавіліся, вядома, і назад паўзлі поцемкамі, якія насунуліся на лес знянацку і вельмі хутка. Віцік спяшаўся за большымі хлопцамі, але ўсё адставаў і адставаў, пакуль урэшце не застаўся з цемраю сам-насам. Пад ялінамі нешта варушылася, шапацела, нехта хаваўся ззаду, цікаваў з-за дрэў; Віцік баяўся нават хліпнуць, бег з аблітым слязьмі тварам, але моўчкі. Дранцвелі спіна і шыя, большаў, гарчэў у горле камяк, які нельга было праглынуць. Сэрца гатова было выскачыць з грудзей. І ні з чым нельга параўнаць тую палёгку, якая ахапіла яго, калі ён вырваўся да шэрага святла поля, да прасторы, на якой бачыліся далёкія фігуркі хлопцаў. Віцік нікому не прызнаўся, што яму было страшна, але жах адзіноты запомніў назаўсёды — запомніў немату адчаю, жудасную немінучасць удару, шалёную мітусню думак-іскраў у галаве.

Ён крыкнуў хлопцам, што ідзе дамоў. Да яго адразу далучыліся Мішка і Шурык, а Ванька спешна палез на горку, каб скокнуць яшчэ раз. Хлопчыкі стаміліся, але ішлі хутка — цяпер клікалі цяпло хаты, пах ежы, матчыны голас і рукі.

Цьмелі кусцікі ядлоўцу, у калматых вяршалінах соснаў дрыжала вострае святло кволых зорак, таксама нагадвала пра дом.

— Мішка, заўтра пойдзем сюды? — пытаецца Віцік.

— Можа, сходзім на кар'еры пад цагельняю. Брат казаў, там цяпер рыба душыцца. Як дзірку праб'еш — сама на лёд лезе.

— Ага, і кошыка з сенам возьмем. Калі што — уюноў наловім.

— Малых толькі не будзем браць, ісці далёка. І ты не кажы маці, што пойдзем.

— У мяне сёння свежына,— пахваліўся Віцік.— Заўтра крывянкі прынясу.

У рот адразу набегла сліны, засмактала ў жываце. Яшчэ шпарчэй заварушыліся ногі — Віціку бачацца патэльні смажанага мяса, вялікія кругі крохкае, таксама падсмажанае крывянкі, тоўстыя і хрусткія гуркі.

Цямнеюцца наперадзе Ліскавічы, бліскаюць слабымі агеньчыкамі, якія не могуць разагнаць морак; цемра гушчэе над пабудовамі, сціскае рэдкія агеньчыкі да маленькае плямкі.

Шоргае па снезе вецер, дыміць дзе-нідзе слупком снегавога пылу. Вусцішна аднаму на роўным, змрочным полі, дзе ні чалавека жывога, ні знаёмага гуку...

У хаце ўжо чадна, накурана, расчырванелыя мужчыны сядзяць упэўненымі малайцамі, якія зрабілі вялікую работу, а цяпер заслужана адпачываюць. Гаворка за сталом агульная, па двах, бо кожнаму карціць расказаць сваё, а гаварыць для ўсяе падпіўшае кампаніі — тое ж самае, што самому сабе. А так пакрычыш у вуха суседу, паківаешся, пакуль ён табе будзе бубнець — і зноў можна гаварыць. Нікому не крыўдна. Тлушч на патэльнях застыў, ля талерак з гуркамі макрэюць плямы ад расолу — маці здагадалася ўслаць стол газетамі, нічога страшнага,— па-сі-

5*

роцку стаяць амаль пустыя бутэлькі. Маці ўхадзілася, сядзіць на ўслоне, быццам слухае некага — і нічога не чуе. Работы шмат, яшчэ на некалькі дзён — пасаліць сала, пачысціць кішкі і зрабіць каўбасы, а яшчэ ж хацелася б кумпяка мець на вясну. Суседзям трэба адрэзаць лепшых кавалкаў. Ірына Іванаўна яе сальцісон вельмі любіць. На галаву і ногі пакліча Рагозіху — лепшай, чым у яе, студзіны ні ў кога не атрымліваецца. Яна ж дапаможа і сала пасаліць. Сваіх кублаў, здаецца, хопіць.

Як убачыла Віціка, адразу падхапілася, павяла яго на кухню карміць.

— Паспееш яшчэ да Танечкі сваёй, памыйся спачатку і пад'еш. З Данай, з Данай, кніжкі глядзяць. А ты тожа кавалер — да ночы цягаўся. Яны ўжо зараз пойдуць.

Віцік есць з апетытам, ажно пахрустваюць сківіцы. Смаката, часцей бы свежына была. Ён спяшаецца — трэба паспець пасядзець з дзяўчынкамі, пасмяяцца з іхніх размоў і ўкручаных лялек, якія абавязкова будуць схаваныя дзе-небудзь на ложку. От убачылі б яны, як ён з трампліна скакаў. А то вялікія, большыя за яго, і з лялькамі носяцца. У Галькі пазабіраюць і круцяць у анучы...

Усю ноч Віціку будзе сніцца лес, над якім ён лётае, раз-пораз падаючы, але кожны раз шчасліва. Лес вялікі, з вострымі вяршалінамі, але Віцік лётае між іх, як птушка.

## Дзяўчынкі і футбол

Віцік сядзіць на першай парце разам з Матруновіч Светай. Апошні ўрок, маленькая дыктоўка. Віцік хутка піша за Ірыванннай — Ірына Іванаўна ні ў кога ў класе не вымаўляецца, а яна сама даўно прывыкла

да скарочанага імя,— паспявае і галавой пакруціць, пакуль астатнія рыпяць пёркамі, і прачытаць некалькі разоў напісаны сказ. Да яго ў сшытак зазірае ззаду Кавалёў Толік, і Віцік адхіляецца, каб яму лепш было відаць. Сам ён ні ў чый сшытак не глядзіць. Нават у Свецін, хоць той зусім побач, амаль пад носам у яго старонка з буйным, прыгожым, выдатніцкім почыркам Светы. Віцік робіць выгляд, што і Света, і ўвогуле ўсе астатнія дзяўчынкі для яго не існуюць. Такі закон у сапраўдных мужчын іхняга класа — не вадзіцца з гэтымі языкатымі, нікчэмнымі асобамі ў спаднічках і банціках. Некаторыя, праўда, ходзяць з імі, партфелі носяць, размаўляюць — ну вось, напрыклад, Цырульнік Фіма,— але з такіх смяюцца, пальцамі паказваюць. Той Фіма на фізкультуры праз «казла» скокнуць не ўмее. І ў футбол баіцца гуляць. Падумаеш, адзін раз акуляры пабілі. Здымі і бегай. Але ніхто і не возьме — ніякага толку. Што слупка пастаў на полі, што Фіму. Дык слупок хоць мяча не баіцца. А з дзяўчынкамі ходзіць. Такі хлопчык, нават біць нецікава.

Крый божа хоць неяк паказаць, што цябе дзяўчынкі цікавяць. Гэта Віцік разумее добра. Ён з сорамам успамінае сябе ў другім класе. Быў такі дурны, што заходзіў па дарозе ў школу да Матруновіч Светы і нават спрабаваў цягаць яе партфель. Цяпер ён за дзве вуліцы абыдзе іхнюю хату, лепш на ўрок спозніцца. А тады хадзіў, цягаў, расказваў ёй нешта і сам слухаў. Розуму як у таго бота, ажно цяпер шчокі гараць. Добра, што хлопцы амаль забыліся на гэта. Лісічкін толькі неяк успомніў, дык Віцік саскочыў са школьнага ганка і пхнуў яго так, што той паваліўся. Штурхаліся мінут пяць, пакуль Ірыванна не завяла абаіх у клас і не расставіла па кутках. Віцік пасля цэлы дзень дражніў Фіму, каб і ўсе астатнія чаплялі яго, не ўспаміналіся на самога Віціка. Ён адчуваў, што зграя, аб-

раўшы ахвяраю аднаго, упарта і жорстка гоніць яго да канца. Ён не хацеў трапіць на месца гэтае ахвяры. А Фіма толькі круціў тонкай шыяй, угінаў у худыя плечы чорную галаву, касіўся з-за пляча лупатым вокам. Фіма не ўмеў біцца, з яго смяяліся.

Але сказаць, што дзяўчынкі не цікавілі Віціка на самой справе, было б няпраўдай. Яны былі не такія, і ўжо адно гэта цягнула Віціка да іх. Ён заўважаў тугая заплеценыя косы, заўсёды чыстыя каўнерыкі на форменных сукенках, амаль штодня новыя банты, вышытыя насовачкі і старанна абернутыя падручнікі,— і не мог зразумець, чаму яны не такія. Іхні шчэбет таксама быў незразумелы, часта ён быў для Віціка проста пустым гукам. Чаму? Яны не гулялі ў футбол, не бегалі на рэчку і ў лес. Што яны рабілі цэлымі днямі? Калі Віціка прымушалі сядзець дома, ён і кніжку чытаў, і хадзіў да Дружка, і ганяўся за кацянём — і ўсё роўна час цягнуўся марудна. А тыя сядзелі дома цэлымі днямі.

Віцік часта хадзіў у госці да Змітраковічаў, а значыць — да свае аднакласніцы Валі. Але тут ужо ніхто не мог крыкнуць, што Віцік бегае за дзеўкамі. Гэта была зусім іншая справа. Гэта не лічылася непрыстойным. Нават Ваньку не выгнаць было з хаты, калі да Віціка разам з бацькамі або адныя прыходзілі Валя і Дана. Ён чэсна, па правілах соваў фішкі ў гульні «Хто першы?», гартаў разам з усімі якую-небудзь кніжку, проста маўчаў, апусціўшы вочы, але нікуды не ішоў. А Віцік цішком сачыў за кожным рухам Даны — яму падабалася гэтая тонкая, высокая дзяўчынка. Светлыя валасы Даны, перахопленыя лентаю, ляжалі хваляю да плячэй. Блакітныя вочы глядзелі ленавата і трошкі абыякава, як у лялькі. Яна зусім мала гаварыла, увесь час смактала цукеркі, якіх шмат прыносіла з сабой. Віцік, канечне, нікому не прызнаваўся, што Дана яму падабаецца. А сама Да-

на гэта ведала. Зімою, калі ў Віціка стаяла навагодняя ёлка, яны з Данай пацалаваліся, і гэта ледзь не ўбачыла Галька. Яны тады хвілін дзесяць сядзелі пунсовыя, не глядзелі адно на аднаго, і Віцік вельмі баяўся, што ўсе здагадаюцца.

А Галька, як кот ля сала, тупала па пакоі і нікуды не хацела сыходзіць. Яна чамусьці не любіла дзяўчынак. Сябры ў яе былі Герасімчык Воўка і Кубліцкі Юрык. Разам з імі яна ўздзіралася на вароты, чакала, пакуль з'яўляліся якія-небудзь дзяўчынкі, і галасіла адтуль на ўсю вуліцу: «Дзеў-кі, плеў-кі!» Паказвала язык, выкручвалася, што тое чарцянё. Яна наогул любіць вышыню. То на плот залезе, то на дрэва, дражніцца адтуль. Яшчэ і нагамі боўтае. А больш за ўсё Галька любіць выстройвацца ў што-небудзь незвычайнае. Абкруціцца ручнікамі, старымі матчынымі спадніцамі або нават ходнікамі — і ідзе да суседзей. «Прыгожа мне?» — паварочваецца перад імі. Тыя смяюцца, гавораць, што прыгожа. А ёй толькі і трэба гэта.

Кавалер у яе Воўка. Прыйдзе днём, сядзе на парог — і ні гуку. Сядзіць, пакручвае, як варона, вялікай галавой, далей у пакоі не ідзе.

— Да каго ты прыйшоў? — пытаецца маці.

— Да Галькі.

А тая Галька — у пакоі самым дальнім робіць нешта, напляваць ёй на кавалераў. І гэты яе не шукае. Няважна, да каго прыйшоў, важна, каб цікава было. Ды і не заўсёды добра атрымліваецца, калі разам. То з-за якое цацкі сашчэпяцца, то абзавуць адно аднаго. Жыццё — штука складаная, а мір захаваць шмат цяжэй, чым распачаць невялікую вайну. Так што, можа, Воўку прыемней сядзець на парозе, а не ісці да Галькі. У галаву чалавеку не зазірнеш.

Віцік іншым разам задумваецца — чаму хадзіць з дзяўчынкамі лічыцца сорамам? Калі цалуешся — гэта

зразумела. Дарослыя і тыя па вуглах і ў цемры стараюцца. У самога Віціка ажно закружылася галава і спынілася сэрца, калі ён пацалаваў Дану. Аднак было і соладка-трывожна, і прыемна пахлі мяккія Даніны валасы, і хацелася яшчэ гэтага аглушальна новага, зусім непрывычнага і цудоўнага адчування. Вусны ў Даны былі моцна сціснутыя, а тугая скура на шчоках пахла сунічным мылам. Віціку ўвогуле заўсёды здаецца, што Дана толькі-толькі старанна памылася і ацерлася ручніком, так што трошкі ружавеецца чысты твар. Можа, гуляць з дзяўчынкамі сорамна таму, што іх хочацца пацалаваць? Але ж хочацца не заўсёды, а вельмі рэдка. Калі, напрыклад, заскочылі ў пусты, напаўцёмны пакой, дзе срабрыстым дожджыкам святлееца ёлка, а ты трымаеш тонкую, кволую руку ў гарачай і трошкі потнай сваёй руцэ, і тая тонкая рука слухаецца цябе ва ўсім, а табе страшэнна прыемна, што яна цябе так слухаецца...

Аднак вельмі рэдка бывае такое. У Віціка толькі адзін раз і было. А так звычайна ён бачыцца з Данаю ў школе, дзе ў яго хапае спраў і без яе, на вуліцы калі стрэнеш — таксама бяжыш па нейкай сваёй патрэбе, не заўсёды спынішся. Ды і на вуліцы бачаць усе, могуць падумаць.

Вось хутка лета, цеплыня, першыя яблычкі белага наліву. І кожным летам да Сяргея Іосіфавіча і Ірыванны прыязджаюць іх вялікія, амаль дарослыя пляменніцы — Лена і Міла. Яны цэлымі днямі загараюць у садзе, чытаюць кніжкі, грызуць зялёныя яблыкі, што прыносіць Віцік — і ўвесь час смяюцца: з таго, што Віцік так вырас, што валасы яго бялеюць проста на вачах, што пчала джыгнула Гальку за язык — тая ела хлеб з варэннем, не заўважыла пчалы і адкусіла яе. Мусіць, балюча было, бо Галька раўла на тры вуліцы. Пляменніцы лячылі яе, суцяшалі, насілі на руках і смяяліся. А часта яны заходзіліся проста так,

без дай прычыны, маўчалі-маўчалі — і пачыналі порскаць у рукаў, чырванець, стрымліваючы незразумелы смех. Віцік жыў тыя дні ў нейкім дурмане. Яму не хацелася на вуліцу да хлопцаў, на рэчку, у лес, не хацелася кніжак. Лена прыціскала яго да сябе — проста так, ад юначае любові да ўсіх,— ён дранцвеў, выгінаў убок галаву — і быў гатовы для яе на ўсё. Ён саромеўся глядзець на яе доўгія, моцныя ногі жанчыны, на смуглы твар з двума чорненькімі кропкамі радзімак, на пругкую вастрыню грудзей, спрабаваў адводзіць позірк — але шыя не гнулася. Ён толькі чырванеў так, што свяціліся наскрозь вушы. А Лена жартам цмокала яго ў шчаку — як цалуюць зусім малых дзяцей. Віцік вырываўся і раптам станавіўся на галаву, боўтаў нагамі, верашчаў.

Ён бегаў за посцілкамі, вадою, яблыкамі, акулярамі ад сонца, шукаў пераспелыя, зморшчаныя і надта салодкія вішні, вызначаў, ці не спаліліся дзяўчаты на сонцы. Сам ён быў карычневы, і Лена не нашмат адставала ад яго, а Міла толькі чырванела. Яна ўвесь час ляжала з ручніком на плячах, здалёк бялела вялікім целам. Каля Мілы і Лены поўзала Галька. Яна ніколі не скідала свае спаднічкі ў гарошак, але была чорная, як варанё. Ёй зусім не трэба было загараць. Пад рукой у дзяўчат ляжалі कулькі з цукеркамі, Галька старанна ела і смактала іх. Ёй навязвалі пышныя банты, прышывалі да сукенкі розныя брыжы, і Галька не пярэчыла. Тут яна амаль не паказвала свайго сварлівага характару.

Віцік, канечне, сыходзіць на гадзіну-другую да хлопцаў, але яго як магнітам цягне ў сад. Ён не прызнаецца хлопцам, што круціцца ля дарослых дзяўчат, мармыча, што дамоў трэба, прыехалі госці. Ён думае, што вось-вось мінуцца тыя два тыдні, на якія прыехалі Лена і Міла...

Дыктоўку ўжо напісалі. Нават самая марудлівая Савосцікава Валя здала свой сшытак. Віцік даўно сабраў партфель, запіхнуў у яго разам з падручнікамі і кніжку пра пагранічнікаў, якую крадком чытаў на ўроках. Ірыванна нічога не заўважыла, а Светка ўсё касілася адным вокам, падціскала губы і выразна глядзела на настаўніцу. Зайздросціла, мусіць. Але яна ўсё-такі не ябеда, не такая, як Паўлючэнка Натка. Эдзіку Рудкоўскаму сядзець з ёй адно гора — Ірыванна ды Ірыванна, а Рудкоўскі тое, а Рудкоўскі гэтае. Такая ўжо макітра. Лялька з хвастамі. Выбралі санітарам, дык праходу не дае. Учэпіцца, што той клешч, ні за што не адстане. Галасок у яе дай божа, далёка чуваць, што ў некага рукі не мытыя. Стукнуць бы пару разоў, але нельга. Ну дзе той званок? Паснулі яны там, ці што.

Віціку трэба адразу бегчы дамоў. Ён нервуецца, падскоквае на месцы, даўно трымае пад пахаю партфель. На апошнім перапынку прыходзіў Ванька — у тры гадзіны першая сёлета сур'ёзная гульня ў футбол. Мішка і Ванька дамовіліся з хлопцамі Зялёнай вуліцы. Папярэдзілі Толіка Мохара, варатара, Барсука Пецьку — яны жывуць у самым канцы Загораўскай, не заўсёды іх убачыш на вуліцы. Трэба абавязкова сабраць самых моцных ігракоў, бо хлопцы з Зялёнай гуляюць добра. Летась Загораўскія нават прайгравалі ім.

Урэшце звініць званок. Віцік з грукатам ляціць да дзвярэй, але не яго парта бліжэйшая да іх. Ён стукаецца з Лісічкіным, ззаду паддае яшчэ нехта, у дзвярах затор. Аднак вырваўся, падцягнуў штаны і толькі сабраўся часануць па калідоры, як ззаду пачулася: «Віцік! Мацкевіч!» Змітраковічава Валя махала яму, каб пачакаў, трымала перад сабой партфель, здзьмухвала з твару раскудлачаныя валасы.

— Прыходзь сёння да нас... Дане новую гульню прывезлі, «Марскі бой», яна прынясе. І кніжкі новыя ёсць...

— Не, сёння не прыйду. У футбол гуляем!

— Падумаеш!..— Валя адразу ўскінула галаву [redacted] кірпатым носам, пакрыўджана бліснула чорным вокам, павярнулася так хутка, што косамі ледзь не зачапіла Віціка.— І без цябе абыдземся!..

Але Віціку крычаць услед ёй не было калі, ён крутнуўся на пятцы і паскакаў да выхада.

Хіба могуць усе дзяўчынкі на свеце параўнацца з футболам?

Дома Віцік перавярнуў дагары нагамі палову кватэры — шукаў сіненькія гетры, майку блякла-апельсінавага колеру і кеды. Гетры былі толькі ў яго, Мішкі і Ванькі. Іх прывёз [redacted] Баранавіч старэйшы Мішкаў брат Пеця. Гетры носяць, зразумела, самыя лепшыя ігракі каманды. Уладальнік іх карыстаецца велізарную павагаю, за ім бегаюць ад'ютанты з галазадае каманды самых малых жыхароў вуліцы, яму зайздросцяць чорнай зайздрасцю. Гэтаму чалавеку можна нахабна паводзіць сябе, даваць направа-налева пстрычкі, задзірацца і па-свойму глядзець на свет. І гэтых гетраў Віцік не мог знайсці. Ён павыкідваў амаль усё з вялізнае шафы, вывернуў шуфляды, знайшоў штук дваццаць сваіх кашуль, на якія даўно забыўся — а гетраў не было. Заставалася кладоўка. На шчасце, гетры знайшліся ў першай жа скрынцы.

— От мацi дасць!..— зларадна выпявала Галька, ходзячы за ім па пятах.— І што яе спадніцы выкінуў, і кашульку запэцкаў...

— Паскуголь яшчэ...— Віцік спяшаўся, рэчы назад не запіхваліся, іх чамусьці было болей, чым месца ў шафе і скрынках.

— І па-ка-мя-чыў усё!

Віцік плюнуў, апрануў пад футболку апельсіна-

вую майку, абуў кеды і выскачыў на вуліцу. Гетры там надзену, падумаў ён, толькі б не спазніцца.

Абедзве каманды ўжо былі на полі. Віцік усю дарогу бег, але на поплаве пайшоў павольна, стараючыся не паказаць, што задыхаўся. Хлопцы замахалі яму рукамі, але ён сеў пад кустамі алешніку, пачаў нацягваць гетры. Недалёка таўкліся малыя з Зялёнай вуліцы, іх падрастала на ёй вельмі многа, і ён пачуў сярод шапацення іх галасоў:

— Мацак прыйшоў... Ух ты, гетры надзявае... Водзіцца добра, у нападзенні ў іх... Яны з Ляхам нападаючыя, а Мішка ў зашчыце... Каб яго не было, мы б выйгралі...

Гарачая, салодкая хваля абліла сэрца, яму нават было прыемна пачуць мянушку Мацак. Ён падхапіўся [redacted] зямлі, пастукаў наскамі кедаў, быццам спрабуючы зямлю, і расслаблена пайшоў да сваіх, якія ляніва бегалі з мячом, стукалі па варотах, дзе ўжо стаяў, нацягнуўшы вялікія пальчаткі, Мохар.

Была сярэдзіна мая, прыпякала зыркае сонца, на яшчэ не вытаптаным полі густа лезла маладая трава. У цёплым паветры плаваў лёгенькі ветрык, і канавы ўздоўж поплава стаялі чыста-спакойныя, празрыстастылыя. Вось-вось павінны загумкаць, затрашчаць з іх хоры лупатых жаб, і ў ціхія вечары гэтыя шматгалосыя, ненадакучлівыя спевы нагадаюць пра цяпло, якога наперадзе цэлае лета. Недзе ўжо чуюцца павевы чаромхавага паху, за якімі неўзабаве павіснуць над зямлёй цяжкія хвалі пахаў бэзу. Усе дзяўчынкі будуць насіць духмянае вецце, шукаць у ім зорачкі шчасця. Да Віціка прыйдуць Валя і Дана, і ён наломіць ім некалькі ахапкаў бэзу. Наломіць з кустоў, што стаяць шчыльнай сцяною ў дальнім кутку саду, навісаюць над рагозінскім плотам, стараючыся пералезці цераз яго. У іх гушчары цёмна, зямля голая, і толькі ўверсе, дзе пеніцца бела-ружовая квецень, бзумка-

юць чмялі і пчолы. А за бэзам чарга вішнякоў, яблынь, язміну. Пад вокнамі разгорнуцца пеўнікі, званцы, касачы, і багацце колераў і адценняў будзе разлівацца ўсё лета, да позняе восені — ад настурак і начной фіялкі да вяргінь і астраў. У перастаянай, жухлай траве змяшаюцца дзесяткі пахаў, расцякуцца над нагрэтай зямлёй, а ноччу, калі раса збярэ іх у цяжкія, дрыготкія кроплі, раптам вырвецца на волю лёгкі і чысты пах начной прыгажуні. Дробная гушчыня зорак, маўклівая насцярожанасць дрэў, у глыбіні саду белая, ледзь бачная постаць дзяўчыны, якая не можа заснуць у гарачыні мулкага ложка, шукае нешта — некага? — уначы...

Віцік успомніў, як самы першы раз яго ўзялі ў сапраўдную гульню. З кучкі белагаловікаў, што шморгалі насамі і глядзелі на вялікіх хлопцаў поўнымі надзеі і блізкіх слёз вачыма, Генка Бучкоўскі выбраў яго. Мабыць, за тое, што Віцік быў яго суседам. Чырвоны, аглухлы ад шчасця, з дрыжыкамі ў нагах і руках, Віцік стаў у вароты. За ім паселі на зямлі анямелыя ад зайздрасці сябры. І амаль на першых жа мінутах у вароты Віціка білі пеналь. Па ўгавору, мяняць варатара было нельга. Віцік з жахам глядзеў, як адлічваліся адзінаццаць крокаў, як некалькі разоў стаўляўся вялікі і цяжкі мяч. Яму нешта гаварылі, стукалі па плячы, але Віцік нічога не чуў. Яму было амаль што блага. Самы большы хлопец [redacted] каманды працiўніка разбегся, і Віцік, заплюшчыўшы вочы, чамусьці кінуўся наперад. Моцна стукнула ў жывот, ён упаў, але ўбачыў, што мяч адляцеў далёка ўбок. Гэта быў трыумф. Пасля тае гульні яго ўжо амаль заўсёды бралі ў каманду, аднак у нападаючыя — гэта значыць, у лепшыя ігракі — яго перавялі толькі ў класе трэцім. І вось цяпер у іх свая каманда, у якой старэйшы на полі — Мішка. Па ўгавору, у абедзвюх камандах магло гуляць толькі па аднаму шасцікласніку.

Хлопцы — адна і другая каманда — стаўлялі вароты. На полі былі рэшткі варот, але іх летась стаўлялі для сябе дарослыя хлопцы, і каб даскокнуць да верхняе перакладзіны, трэба было два такіх варатары, як Мохар. Знайшлі ў алешніку прыдатныя тычкі, цяпер стараліся ўторкнуць іх у зямлю. Ад кожнае каманды ў праціўнікаў быў прадстаўнік, каб вароты выпадкова не зрабілі меншымі, чым на восем крокаў. Вароты мералі гэтыя самыя прадстаўнікі, раздзіраліся, каб крок быў як мага большы. Варатары крычалі, што нячэсна, дробненька перабіралі нагамі ўслед за прадстаўнікамі, прапаноўваючы свой варыянт. Крычалі, махалі рукамі, піхаліся.

Віцік ад хвалявання падскокваў на месцы, трос нагамі, амаль нічога не чуў. Яму здавалася, што за доўгую зіму ён развучыўся вадзіць мяч, калі той слухаецца цябе, бы прывязаны да нагі, стукаць па варотах і ўвогуле даваць паса. Ён ужо пабегаў разы са два ў поле, і мяч сапраўды мала слухаўся, ляцеў не туды, куды трэба, пераскокваў цераз нагу.

У іхняй камандзе лічылася, што Віцік добра гуляе ў футбол. Ён сапраўды ўмеў перагнаць любога на дзесяці метрах, нечакана спыніцца, стукнуць так, што мяч закоціцца ў самы кут варот. Пад канец мінулага лета ён навучыўся біць па варотах так, што ўсё яго маленькае цела нахілялася ў адзін бок, а мяч ляцеў у другі. Біў «шчочкаю», і гэта яшчэ больш падманвала варатароў. Ён адпрацоўваў гэты ўдар цэлымі днямі, стукаючы ў вароты хлява. Дружок сядзеў у будцы і торгаў вушамі — баяўся мяча. Праз тыдзень Ірыванна не вытрымала і сказала, што ў яе стукае ў галаве нават па начах. Тады Віцік перайшоў у бярозы, але там кожнага разу трэба было далёка бегчы за мячом. Цяпер ён не ведаў, ці паляціць мяч куды трэба пасля гэтага хітрага ўдару.

Віцік ведаў, што ён гуляе трошкі лепш за Ваньку і

амаль што так, як Мішка. Але Мішка проста быў вялікі, моцны і не заўсёды ўмеў схітраваць, падмануць праціўніка. І Віцік адчуваў, што перавага яго, Віціка, перад астатнімі хлопцамі не такая вялікая, каб усе лічылі яго самым лепшым. Ён не мог гуляць з такою лёгкасцю і ўпэўненасцю, як гуляў Вяргун Жэнька, што жыў каля стадыёна. Гэты хлопчык адзін мог зрабіць гульню. Прысадзісты, шыракаваты, ён ніколі не бегаў з усяе моцы і ніколі не глядзеў на мяч. Але крок яго быў шырокі і мяккі, як у кошкі. І ён чуць-чуць ківаўся над мячом, так што ніяк нельга было адгадаць, куды кіне ён сваё гнуткае, няўлоўна-павольнае цела. Віцік аднойчы гуляў супраць яго і помніць, як разгубіўся тады. Жэнька абвёў яго раз, Віцік дагнаў, скокнуў у «падкат», але да мяча так і не дакрануўся — Жэнька паспеў спыніцца, крутнуцца перад яшчэ адным чужым іграком, некалькі разоў глянуць на поле і толькі пасля плаўным ударам, над выскачыўшым варатаром, забіць гол. Віцік ледзь не заплакаў, адчуўшы, як безнадзейна слаба ён гуляе.

Якраз перад гэтым ён прыехаў з піянерскага лагера, і ўсе хлопчыкі з яго і нават з чужых атрадаў назаляліся яму ў сябры. А спачатку на яго ніхто не звяртаў увагі, і хадзіў за ім толькі Ізя Рубінчык, якога Віцік абгуляў у шахматы. А потым пачалося першынство лагера па футболу. Віцік упрасіў, каб яго ўзялі хоць запасным — усе хлопчыкі былі высокія, упэўненыя, ігракоў хапала. Ён бы так і прасядзеў запасным, каб у рашаючай гульні з другім — старэйшым — атрадам не падкавалі капітана. Той звычайна болей крычаў, чым гуляў, але тут падвярнуўся пад моцны ўдар — і закульгаў з поля. Віцік на першай жа мінуце забіў гол — выскачыў з-за абаронцаў і пераківуў цераз варатара мяч у вароты. Лік зраўняўся, гульня зрабілася яшчэ больш нервовай, і ў другім тайме Віцік выдраў мяч з кучы ігракоў, паспеў скінуць

яго пад сваю моцную правую нагу. Гол быў рашаючым.

І вось пасля ўсяго гэтага адчуць, што на самай справе ты гуляеш вельмі слаба, было асабліва цяжка. Віцік з захапленнем і крыўдай глядзеў на пасы Жэнькі, на яго ўдары і павольныя, але да міліметра дакладныя, фінты — і бегаў за ім, як прыклеены, перашкаджаў прымаць мяч, нават трохі піхаўся. Ён сцяў зубы, ад сораму не глядзеў Жэньку ў твар — і нічога не мог зрабіць з сабой.

...Нарэшце капітаны — Мішка і Вадзька Карпеня — падкінулі капейку. Разводзіць мяч выпала Мішкавай камандзе. Балельшчыкі паселі за варотамі. Яшчэ раз крыкнулі, што гуляюць да пяці галоў — і гульня пачалася.

Забегалі адразу кучаю, мяча амаль не было відаць. Віціку два разы стукнулі па назе, ён нават не заўважыў, свае ці чужыя. Доўга таўкліся на цэнтры, нарэшце Мішка выскачыў з кучы і стукнуў па чужых варотах, мяч, праўда, праляцеў далёка ад іх. Чапляліся, падалі, але тут жа падскоквалі і кідаліся наперад. На правым краі Віцік разагнаўся, абвёў дваіх, але далі ззаду па нагах, і ён добра выцяўся каленам. Штрафны стукнулі завысока. Садраная каленка балела будзь здароў. «Не прывык яшчэ»,— падумаў Віцік. Іхняя каманда ўвесь час нападала, і вось Мішка моцна стукнуў, трапіў у варатара, і мяч адскочыў проста да Віціка. Віцік ад страху ледзь зачапіў мяч, але той усё ж закаціўся ў вароты. Віцік адразу супакоіўся, бо свайго гола забіў, зрабіў выгляд, што скінуўся кед, і падбег да малых пераабуцца. Балельшчыкі з павагай абкружылі яго, ва ўсе вочы глядзелі, як ён зашнуроўваецца. Воўку хацелася спытаць што-небудзь у Віціка, каб паказаць, як ён добра знаёмы з ім, але ад хвалявання ніяк не мог прыдумаць, што спытаць.

Віцік кінуўся на поле, бо атакавалі ўжо зялёненцы. І пачуў ззаду, як Воўка проста пахваліўся сябрам:

— А ён учора ў нас дома быў, во! Да вечара сядзеў!..

Загараўскія забілі яшчэ адзін гол, потым зялёненцы сквіталі два ўзапар, удала стукнуў Мішка, зрабіў лік тры — два, і падкавалі Шурыка Савеню, ён бегаў крывячыся і кульгаючы. Віцік успацеў, абводзіў і кідаўся ў «падкаты», даваў пасы, крычаў, калі няўдала гулялі, і ўбачыў, як мяч стукнуў у руку абаронцы зялёненцаў.

— Пеналь! — закрычаў ён.

Зялёненцы спрачаліся, адносілі мяч далей ад варот, але як ні мералі, да дальняй штангі ўсё роўна выходзіла меней шаснаццаці крокаў. Пеналь быў чысты. Вадзька Карпеня адлічыў адзінаццаць крокаў — амаль скакаў, каб былі большыя,— сам стаў у вароты, насунуўшы глыбока на вушы картуз казырком назад. Біць пабег Віцік. Ён паспрабаваў паставіць мяч бліжэй да варот, але зялёненцы сачылі пільна, узнялі гвалт. Віцік ведаў, што, калі ён не заб'е, яго доўга будуць абзываць мазілам, крывой нагой, крычаць, каб лепш Мішку даў, той бы забіў. Але яму вельмі хацелася стукнуць самому. Вароты здаваліся маленькімі, у Віціка варухнулася нешта непрыемнае пад сэрцам.

Ён разагнаўся, нахіліўся тулавам улева, але стукнуў так, што мяч зрэзаўся з нагі ўправа. Вадзька скокнуў таксама ўлева за тулавам, і мяч, стукнуты не вельмі моцна, на яго вачах закаціўся ў вароты. Віцік аж захліпнуўся ад радасці.

Яны хутка забілі і пяты, апошні гол.

З поля ішлі цеснай кучкай, гаварылі ўсе разам.

— Добра мы сёння надавалі! Запомняць!..

— Ага, ага, Віцік ім пеналя як даў, дык яны і заткнуліся.

— Глядзі, які ў Шурыка сіняк. Доўга будзе.

— І ў мяне во каленка здзёрта. Таксама баліць.

— Яны толькі куюцца, а гуляць не ўмеюць.

— Бог не цяля, бачыць круцяля...

— Ім як трэцяга гола забілі, дык яны чуць не пабіліся. Кірпаты варатара па карку стукнуў.

— Кірпаты выбег з мячом, а Мохар яму пад ногі я-ак скокне!

— Бачыў, як я траіх абвёў?

— А мы з Юркам крычалі, ажно паахрыплі.

Тут жа перабіраў нагамі, лапатаў нешта чатырохгадовы Пецька, Ляшковіч-меншы. А было пазнавата ўжо, [illegible] клёнаў Варшаўскае вуліцы лёталі ў падсіненым паветры хрушчы. Каб не стома, злазілі б на клёны і натрэслі іх, але чакалі па хатах маці, непакоіліся, каторая ўжо выбягала, мусіць, на вуліцу, клікала: «Пеецька-а! Ідзі дамоў!..»

Учора цётка Герасімчыха знайшла свайго Воўку на пустцы каля Мацкевічаў. Валакла дамоў і зайшла на хвілінку да Віцікавай маці.

— Гэта ж цёмна ўжо на вуліцы, а гэтага падшыванца няма! Клікала-клікала, пайшла шукаць. Бачу — бегаюць. Цёмна, нябачна, хто пад нагамі круціцца. Схапіла аднаго — не мой, другога — вось ён, галубок. Матроска брудная, пад носам соплі прымёрзлі — і ўсё роўна бегае. Пылу нарабілі — ад кароў столькі няма. Дома бацька табе дасць, футбаліст зас...

Яна трымала Воўку за каўнер, раз-пораз торгала, быццам хацела вытрасці яго з вопраткі. Воўка маўкліва целяпаўся ў моцнай матчынай руцэ, галавы не паднімаў.

А сёння было ўжо позна, і ўсё роўна Воўка даседзеў да канца гульні. Цяпер ішоў дамоў, мусіць, у прадчуванні немінучае кары, не смяяўся ўжо і не гаварыў, а толькі ўздыхаў. Харошы футбаліст вырасце з малечы, будзе загартаваны баец, які не адступіць ні перад кім.

Цямнеюцца ў прыцемку адступіўшыя ў сады хаты,

знячэўку дасць у лоб нязграбны хрушч, якіх шмат гудзе ў цемры,— цяпло над зямлёй яшчэ не трывалае, і хлопчыкі курчацца ў лёгенькіх футболках, паскараюць хаду. Віціку ўскочыла ў галаву думка, што ён яшчэ не зрабіў урокаў. «Крычаць будуць»,— думае ён, і перад новым клопатам адступае сённяшні футбол.

## Бярозы

Бярозы раслі за гародам, побач з бульбянішчам, забіралі ладны кавалак зямлі ад поля. Яны былі высокія, моцныя, у тры, а то і болей, Віцікавыя абхваты. Было іх каля двух дзесяткаў — чорна-белых, разгалістых, гнуткага і доўгага, як не да зямлі, веццявя. Цесная чародка іх здалёк кідалася ў вочы, не гублялася побач з магутнымі вязамі і клёнамі, што невядома з якіх часоў раслі на Сувораўскай вуліцы. Па тых вязах Віцік аднаго разу пералез над вуліцай на клён, які стаяў у двары Бучкоўскіх. Пасля ў яго доўга дрыжалі рукі і ногі, але затое некалькі дзён ён пахадзіў у героях.

Пад бярозамі калюча натапырваўся нягеглы слівоўнік, слалася ўздоўж зямлі яблыня мядунка, якая непрыкметна прыткнулася збоку, выстаўляючы на сонца толькі каравае голле. Даўгаватых яблыкаў на ёй кожным годам радзіла няшмат, але калі Віцік з сябрамі даваў ім выспяваць, яны здзіўлялі адстоеным усярэдзіне сокам, які колерам і смакатою сапраўды нагадваў мёд. Затое слівоўнік акурат праз год абсыпаўся дробненькім чарнаслівам, але яго не заўсёды абіралі — хоць і салодкі быў, аднак амаль увесь чарвівы. Насупраць бяроз, цераз невялічкую лагчынку, стаяла ігруша-дзічка. На гэтай, як заўважыў Віцік, дробных ігрушак хапала штогод. З іх вылежваліся доб-

рыя гнілушкі, але есці іх проста так, нават падбіраючы з зямлі, не было як — сціскаліся ад кіслоцця скіўіцы. Лагчынка з восені налівалася вадой, узімку падмярзала, і Віцік катаўся на ёй на коньках — спачатку на адным «снягурку», прыкручаным да валёнка, потым на двух. Летам у лагчынцы добра расла дзяцеліна, і Рагозіха прыходзіла рваць яе сваім трусам.

Вялікая частка саду была пад танкаствольным вішаннікам. У ім стаялі тры вуллі Сяргея Іосіфавіча. Калі аблятаў густы вішнёвы квет, зямля пад дрэвамі скрозь усыпалася дробнымі пялёсткамі, была што аснежаная. Тымі днямі пчолы не вылазілі з кветкі, марудна поўзалі, запэцканыя ў жоўты пылок, былі лагодныя. Летась Віцік паспрачаўся з Ванькам, што прабяжыць каля таго вулея, з якога толькі што Сяргей Іосіфавіч узяў мёд. Віцік праляцеў, як ракета, аднак тры пчалы аказаліся яшчэ хутчэйшыя. Адна ўгрызлася за вухам, другая пеканула пад вока, а трэцяя прысела на шыю. Віцік з гадзіну выў, качаючыся на канапе, аднак спагады ні ад каго не меў. «Дурному і муха ў рот заляціць, не тое што пчала ўкусіць»,— сказаў бацька.

Віцік любіў сядзець на вішнях, калі ягады пачыналі чарнецца. Тут жа пырхалі вераб'і, гойдалася разам з тонкаю вершалінаю Галька. Віцік зайздросціў, што яна такая лёгкая — на вяршалінах вішанькі былі самыя салодкія.

Аднаго разу Віцік пачуў, як стары Рагозін сказаў бацьку:

— Што ты не выцерабіш палову кустоўя гэтага? Навошта табе гэтулькі? Вішня — зямля лішня.

«Во дурны дзед,— падумаў Віцік,— вішні ж салодкія».

Бацька, відаць, таксама думаў гэтак, церабіць нічога не стаў.

Ён расказваў Віціку, што пад панамі ў іхнім доме жыў панскі лясніцы. У яго было шмат зямлі, цэлы

бярозавы гай, і бярозы каля іхняга поля — рэшткі таго гаю. Як паноў павыганялі, зямлю, вядома, падзялілі, пачалі забудоўваць і араць. Чародка бяроз засталася не як памяць, а проста ні ў кога не дайшлі да яе рукі. Прастаялі яны вайну, стаялі і цяпер, нікому асабліва не замінаючы. З вясны прылятаалі сюды шпакі, адсвісталі, скубліся, ганяючы са старых шпакоўняў адчайных вераб'ёў. Цяжка лёталі над бярозамі і вароны, хадзілі, косячыся на хату, па агародзе, шукалі чагонебудзь цікавага. Калі сеялі бульбу, амаль пад нагамі каня грабліся на свежаўзаранай зямлі гракі, і было іх — што саранчы.

Травы пад бярозамі амаль не касілі, яна перастойвалася, і Віцік, гуляючы ў вайну, хаваўся ў ёй бясследна. Аднойчы, уцякаючы ад ворагаў — Ванькі і Шурыка,— ён запоўз ажно ў памідоры. Памідоры толькі-толькі пачыналі чырванець, але Віцік з асалодаю з'еў тры штукі. У памідорах пахла прыемнай гаркавасцю, аднак не было травы, Віцік выкачаўся горш за катка Ваську, які таксама валяўся тут, раскінуўшы лапы. Тады ён перапоўз да гуркоў. Вялізныя лісты, што скрозь засцілалі зямлю, былі калючыя, і Віцік з'еў толькі адзін гурочак. Ён пашкадаваў, што не выспелі яшчэ сланечнікі, паўзіраўся на іх вялікія, у моцнай яшчэ квецені, галоўкі, пашукаў хоць высахлага маку — і таксама не знайшоў. Але тут пачуліся незадаволеныя галасы сяброў, якія, страціўшы надзею знайсці Віціка, пачалі крычаць, што пойдуць дамоў, калі ён не вылезе. Убачыўшы Віціка ў агародзе, яны не тое што здзівіліся, а пачалі сварыцца, што ён гуляе не па правілах.

Але цяпер Віцік падрос, у вайну гуляў так, каб паболей ляскату было і дыму, а бярозы вабілі яго ўжо меней, бо проста качацца пад імі — сумна і нецікава.

Некалькі дзён назад Віцік прыехаў з Выганаўскага возера, дзе тры дні разам з дзядзькам Герасімчыкам

і яго Воўкам лавіў рыбу. Вось гэта сапраўднае жыццё. Яны ўставалі заране, сядзелі з вудамі, потым купаліся цэлых паўдня, пакуль не сінелі, і хадзілі ў лес. Дзядзька Міша есці варыў толькі раз на дні, раніцою і вечарам даваў сухім пайком і гаварыў, што яны жывуць, як салдаты на вайне. Ён яшчэ гаварыў, каб хлопцы асабліва не расказвалі пра гэтае жыццё сваім маці. І спаць ён таксама не прымушаў, сядзі каля кастра хоць усю ноч. Віцік шмат плаваў і амаль навучыўся ляжаць на спіне. А дзядзька Міша ляжаў як на ложку, далёка высоўваў з вады рукі і ногі, мог чытаць газету і спаць. Аднаго разу яны налавілі паўкацялка акунёў і зварылі юшку.

Возера было спакойнае, толькі выдавала крыху змрачнаватым. Наўкол разлягаліся тарфянікі, лес стаяў сыры нават у спёку, і вада была хоць і чыстая, але чорная. Віцік звычайна купаўся на меліне, толькі аднойчы заплыў далёка і, плывучы назад, малаціў рукамі і нагамі так, быццам за ім нехта гнаўся. Спалохала невядомая глыбіня. А потым прыйшла машына і забрала іх. Віцік з Воўкам хацелі схавацца, ды пабаяліся.

Дома спрачаліся бацька і маці.

— Ты зразумей,— гаварыў бацька,— што раён расфарміроўваецца. Цяпер Ліскавічы будуць проста пасёлкам, ніякіх табе райспажыўсаюзаў, райкомаў і выканкомаў. І Міжкалгасбуд пераедзе. Што тут застанецца? Яша Цырульнік яшчэ месяц назад у Новасібірск падаўся. А гэты ведае, адкуль хвост расце.

— Сяргей Іосіфавіч і Ірына Іванаўна нікуды не едуць,— упарцілася маці.— І Шаламаў застаецца, а яго вунь хірургам у Брэст запрашалі.

— Што ты мне пра старых расказваеш? — нерваваўся бацька.— Трэба наперад глядзець!

— Ты наперад глядзеў, як цябе з работы здымалі...

— Цьфу, праўду кажуць — дурной бабе і галава

мяшае...— бацька ідзе ў залу, але хутка вяртаецца зноў.— Тут і ў магазіны нічога завозіць не будуць!

— Нічога, хлеб прывязуць.

— Д-да, то ёй лейчына пад хвост, у Маскву за суленкай амерыканскай ляціць, то ўпартая, як казёл Савосеў... Сёння цёця Тэкля прыязджае, пагаворым. Трэба ж па-разумнаму.

— Ты на розум успамінаешся праз тры дні, як зробіш. Разумныя людзі нікуды не едуць.

Так яны гавораць сёння амаль паўдня. Самая галоўная навіна, канечне, што прыязджае баба Тэкля. Баба жыве далёка, у другой вобласці. Тыдні са два назад бацька ездзіў да яе і быў там некалькі дзён. Прыехаўшы, ён расказваў маці:

— Горад вялікі, харошы, сама ўбачыш. Я гадоў засем не быў, а ўжо цэнтральную вуліцу асфальтам заслажылі, набудавалі ўсяго. Мне прапаноўваюць інжынерам на льнозаводзе. Кватэру праз год абяцаюць.

— Дзе год, там і тры,— маці старанна церла цырату на стале, не глядзела на бацьку.

— А рэчка якая!.. Дняпро. Людзі лодкі свае маюць, рыбу ловяць. Будзеш сабе на пляжы загараць.

— А дзе мы жыць будзем — на пляжы? Кідай усё і ляці як угарэлы, а што там, як там — пра гэта ведаць не трэба. Панавыдумляе сабе — і лічыць, што ўсё ў яго ў руках. Чакаюць цябе там, як леташняга снегу.

— Чакаюць! Дырэктар сказаў — такія спецыялісты нам нужны. Прыязджайце, сказаў, мы вас не пакрыўдзім. А наконт кватэры цёця абяцала пашукаць. Яна знойдзе.

І вось баба Тэкля прыязджае. Віціку хочацца, каб яны пераехалі ў вялікі горад, але ж трошкі і страшна — там новыя хлопцы, новая школа. Настаўнікі ў ёй, мусіць, злыя. Бацька гаворыць, што рэчка вялікая.

Гэта, канечне, здорава, рыбы можна налавіць цэлы кілаграм.

Віцік пахваліўся ўжо хлопцам, што яны будуць пераязджаць. Сябры маўчалі, але па вачах бачна было — зайздросцілі. Амаль ніхто з іх далёка не ездзіў, не бачыў вялікіх гарадоў, і яны ўяўлялі іх сабе нечым неверагодным. Яны б усё аддалі, каб памяняцца месцамі з Віцікам.

— Назусім паедзеш? — пасля доўгага маўчання спытаўся Ванька.

— Ага,— лёгка сказаў Віцік.— Далёка.

Яны пагулялі ў футбол на пустцы, але нешта хутка здаволіліся, разышліся па хатах.

Віцік выйшаў у агарод палавіць стракоз. Невядома, калі прыедзе баба Тэкля, цягнікоў праз станцыю ідзе шмат, і чым так сядзець, чакаць, лепш палавіць стракоз. Іх гэтымі днямі шмат вісела над градамі, амаль на кожнай фасолевай тычцы сядзела па адной страказа. Віцік любіў, як стракозы кусаюцца. Схопіш яе за хвост, а яна цябе адразу за палец. Знянацку дык і выпусціш калі.

На агародзе сядзеў каток Васька. Ён таксама часта паляваў на стракоз, але ўсё няўдала. І матылькі ўцякалі ад яго. Праўда, адзін раз Віцік бачыў, як Васька прышлёпнуў жоўтага капусніка лапаю і з асалодаю з'еў яго, круцячы галавой. А так звычайна ўцякалі. Здаецца, ну, усё, папаўся матылёк, капцы яму — аж не, пырхнуў з-пад растапыраных лап, знік. Тады морда ў Ваські здзіўленая і трохі дурная. Вучыцца жыць кацянё, нічога.

Віцік паганяўся са стракозамі, на калку пад памідоры спаймаў зялёную страказа, якая ўшчыкнула яго будзь здароў. Ён пахадзіў з ёй туды-сюды, але Ваську не даў, хоць той бегаў за ім, задраўшы хвост і трасучы лапамі. Страказа была прыгожая, крыльцы яе шаргацелі, бы жасцяныя.

Раптам праз агароджу Віцік убачыў Генку Бучкоўскага, які стаяў на вуліцы і проста пазіраў удалечыню. Генка быў яго сусед праз вуліцу, ён вучыўся як не ў апошнім класе і ўжо стаяў па цёмных кутках з дзеўкамі. Віцік аднаго разу заўважыў яго пад клёнам, пазнаў у цемры белую Генкаву безрукаўку. Побач з Генкам стаяла дзяўчына. Віцік стаіўся, мяркуючы ўбачыць што-небудзь цікавае, але тыя стаялі і маўчалі. Віцік пачакаў хвілін некалькі, урэшце занудзіўся і пайшоў дахаты.

— Генка! — крыкнуў Віцік.— Паглядзі, якую страказу паймаў!

Генка паглядзеў на Віціка, на Віцікаў хлеў і яшчэ раз удалечыню і сказаў:

— Спорым, я да твайго Дружка падыду?

— Спорым...— сказаў Віцік і спалохана паглядзеў на Дружка, які стаяў каля будкі і не гаўкаў.

«Няўжо прывучыў?» — падумаў ён, але адступаць не было як. Раней ні ў каго з хлопцаў нават думкі не ўзнікала, каб падысці да Дружка.

Генка схадзіў да сябе ў хату і вярнуўся з кавалкам мяса. Яны падышлі бліжэй да Дружка. Той усё не гаўкаў, глядзеў, схіліўшы набок галаву, на Генкаву руку з мясам.

— Дружок, Дружок, я свой,— гаварыў Генка, падыходзячы да яго бліжэй, потым ён падкінуў мяса над галавой сабакі.

Дружок глэмкнуў, быццам усё жыццё еў мяса з рук Генкі, вільнуў хвастом. Косячыся, Генка дугою пайшоў у хлеў. Ён ішоў, Дружок стаяў, і Віцік падумаў, што Дружка падкупілі, што ён цяпер не самы лепшы сабака ў Ліскавічах. Але тут, быццам Генка пераступіў нябачную рысу, Дружок рыкнуў і цяжка кінуўся на яго. Генку кінула назад, але адна штаніна была ў пашчы сабакі. Хлопец раздзіраўся, як жаба, торгаў нагой, урэшце вырваўся і адкаціўся на некаль-

кі метраў. Дружок брахнуў тры разы, нацягнуў ланцуг.

— Ну, падла...— Генка, кульгаючы, заспяшаўся на вуліцу.

Віцік бег побач, зазіраў збоку Генку ў твар, адчуваючы сябе вінаватым за Дружка, але і не мог стрываць смеху.

— Во, паскуда,— Генка стараўся прыладзіць разадраную штаніну, але рукі дрыжалі,— я яго цэлы месяц кармлю, а ён кідаецца... Воўк і той прыручыўся б... Халера, штанам капец.

— Ага, капец,— пацвердзіў Віцік.— Вунь колькі аддзёр.

— Добра, за нагу не ўхапіў...

— Не, ён рэдка кусаецца. Ён разумны.

— Разумны... Што цяпер са штанамі рабіць? Маці ўбачыць — год будзе галасіць. Во, гад...

Генка пайшоў у хату надзяваць другія штаны.

Віцік пабег да Дружка і абняў яго за шыю. «Маладзец, Дружок,— гаварыў ён,— я табе прынясу кавалак вяндліны, смачнай, як апельсін, і ты ніколі нічога не будзеш есці з чужых рук, нават калі я паеду...» І тут Віцік зразумеў, што ён паедзе — а Дружок застанецца ў гэтай будцы ля хлява, і кожны дзень будзе хадзіць побач Генка Бучкоўскі, а ён, Віцік, хадзіць не будзе. Дружок глядзеў на Віціка разумнымі вачыма. Віцік схапіў яго за вушы і тыцнуў сваім носам у халодны і вільготны сабачы нос...

Баба Тэкля прыехала пасля абеду.

Пакуль абцалаваліся ды распыталіся, пакуль бацька схадзіў за Герасімчыкамі, а маці Ірыну Іванаўну і Сяргея Іосіфавіча паклікала — прайшло шмат часу. Гасцінцы бабы Тэклі былі — пеўнікі на палачках, якія можна доўга смактаць, доўгія, як макароны, цукеркі, валоскія арэхі. Арэхі трэба было біць малатком. Віцік сядзеў проста на падлозе, лупіў па арэхах і ўжо

трошкі стаміўся ад гоману ў хаце. За сталом гаварылі як не ўсе разам.

Віцік даўно заўважыў, што, калі людзі збіраліся за сталом, яны ўсе свае прамовы заканчвалі запрашэннем выпіць. Мужчыны гаварылі — ну то вып'ем ужо, давайце вып'ем, бярыцеся разам, давайце, колькі трымаць можна. А жанчыны, запрашаючы выпіць, гаварылі і пра ежу. Маці, напрыклад, заўсёды казала так — піце і ешце, госці дарагія. О тута кумпячок, во капустачкі, не сядзіце так, трэба ж заесці...

— Міша,— перарываючы агульную гаману, спытаўся бацька,— гэта не ў вас каня падвесілі?

— У нас,— вінавата залыпаў вачыма дзядзька Герасімчык. Ён нават змізарнеў трохі.— Гэта ж, халера, цягнулі за Выгарышчамі электрычную лінію. Пакуль правады ляжалі — нічога, ніхто на іх і не глядзеў. Пачалі нацягваць — ніяк адзін нацягнуць не могам, няроўна вісіць, перакос. Пайшлі мы з хлопцамі па лініі глядзець. Аж каля балота на правадзе конь вісіць!..

— Д-да... Трактарам нацягваючы, не тое што каня — хату ўзнімеш,— з веданнем справы заківаў бацька.— Гэта ж прыдумаць, скула ім у бок, дзе каняназязаць!

— Брыгадзір тамтэйшы, ёлупень, зачапіў за провад, і адышоўся сам. Не, ты прадстаў толькі: ідзём мы з хлопцамі, а над зямлёй конь вісіць!..

— Пад суд сцерваца...

— А што ён ведаў, дрот пад нагамі валяецца, дык і зачапіў...

— Вой бо-о, страх які... Гэта ж не кацянё, каня!..

Віцік ведае, дзе тыя Выгарышчы. Ён там быў у бабы Ванькі Ляшковіча. Якраз тымі днямі да бабы прыязджалі аж з Мінска нейкія дзядзькі, прасілі, каб яна расказвала ў магнітафон казкі. Раней Віцік і не ведаў, што ёсць такія магнітафоны. Дзядзькі цягалі драты, пстрыкалі ў скрынцы, махалі рукамі, каб Віцік

з Ванькам не соваліся па хаце. А брахнуў за акном маленькі бабчын сабачка, дык яны папрасілі замкнуць яго ў хляве. Баба трошкі спалохалася, але расказала тры казкі. Адзін дзядзька ўсё бегаў і крычаў другому:

— Не, ты чуў — драбалілася баба, драбалілася, ледзь выдрабалілася!.. І не глынуў воўк бабу, а палкнуў! А? Во дзе народ, во дзе мова! Як там, памятаеш, замест пабегла? Паямчылася? Ага, паямчылася! От слаўцо дык слаўцо! Ездзіць трэба, шукаць, а то сядзім, мазалі на азадках зарабляем.

А гаворка за сталом перакінулася ўжо на пераезд. І тут самай галоўнай асобаю зрабілася баба Тэкля. Аказваецца, яна знайшла на вуліцы Паштовай хату, якую здадуць Мацкевічам па таннай цане. Харошая такая хата, гаварыла баба Тэкля, невялічкая, праўда, але добрая яшчэ, амаль новая. Гарода вось толькі не будзе... А потым на льнозаводзе кватэру дадуць, свая будзе. І ёй лягчэй, калі Міхась побач.

— Я ж яго гадавала. Бацькі памерлі ў вайну, забрала я да сябе яго. І нічога, вот вывучыўся, сям'я, дзеткі...

— А памятаеце, цёця, як я бахілы клеіў? Сам зраблю, сам прадам, поўная шуфляда грошай была. І цёці дам, і сабе было. За восем класаў экстэрнам здаў, у школу не хадзіў амаль. У вучылішча не хацелі прымаць...

— Маленькі быў, казалі, што гадоў мала. А тут Макар, брат, з вайны вярнуўся, пайшоў да дырэктара, дамовіўся.

— А які мне Макар касцюм пашыў тады! З англійскага шыняля, хадзіў, як пан...

А маці маўчыць, нешта думае, куточкі вуснаў гаротна апушчаны. Сяргей Іосіфавіч і Ірыванна адгаворваюць яе пераязджаць, і Віцік адчувае, што ёй сапраўды нікуды не хочацца ехаць. Але бацька ўпарты і сёння ўжо гаворыць пра пераезд як аб вырашаным.

Насядзеўшыся за сталом, усе ідуць у бярозы, на траву. Цёпла, хораша, добра сядзець на разасланых посцілках пад казытлівым ценем бярозавых ветак-касіц. Дзядзька Міша прынёс фотаапарат, пачаў здымаць усіх разам і паасобку. Людзі смяюцца, весела пазіраюць у аб'ектыў, і калі выпадковы чалавек будзе глядзець на іх збоку, быццам праз той жа фотаапарат, ён падумае, што гэта шчаслівыя людзі.

Вось і ўсё. З таго часу застаўся толькі здымак белагаловага, падобнага на выдатніка хлопчыка, які ўсміхаецца жарту пра птушку, што зараз будзе ляцець з аб'ектыва. Хлопчык у святочнай матросцы, самую крышачку рабаценісты, са свежай драпінай на шчацэ — каток Васька праявіў характар, не вытрываўшы штохвіліннага тузання. У хлопчыка ўжо амаль дарослы позірк, і ніхто не скажа, што белагаловы хлопчык у гэты ж дзень падкіне ў рыдыкюль свае бабы маленькую жабку. А ён падкінуў і да ночы хаваўся ў свайго сябра Ванькі.

Усе бярозы каля хаты Мацкевічаў ссеклі, калі пракладвалі новую вуліцу замест Сувоpaўскай.

Хлопчык пераехаў у другі горад, знайшоў новых сяброў, і жыццё яго было не нашмат горшае і не нашмат лепшае за жыццё мільёнаў іншых хлопчыкаў на нашай рознакаляровай, прыгожай зямлі.

## Змест

**Кажадуб А.**

К 13 Гарадок: Апавяданні і аповесць.— Мн.: Маст. літ., 1980.— 160 с.— (Першая кніга празаіка).

50 к.

Асноўная тэма апавяданняў, уключаных у зборнік «Гарадок» — духоўны свет нашага сучасніка. Малады чалавек шукае ў жыцці сваё месца, знаходзіць сваю дарогу, на якой ён сталее, набіраецца вопыту. Аўтара цікавяць і маральна-бытавыя праблемы, узаемаадносіны бацькоў і дзяцей.

У аповесці «Гарадок», якая дала назву ўсяму зборніку, аўтар глядзіць на жыццё невялікага палескага гарадка вачыма дзесяцігадовага хлопчыка. Жыццё навокал цікавае і складанае, а людзі добрыя і вельмі розныя.

$К\frac{70303-50}{М\ 302(05)-80}$ 29—80

ББК 84 Бел 7

Бел 2

*Первая книга прозаика*

Александр Константинович Кожедуб
ГОРОДОК

Рассказы и повесть

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак С. А. Філіпаў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар В. В. Шарамета.

ІБ № 883
Здадзена ў набор 04.10.79. Падп. да друку 31.01.80. АТ 05029. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 6,45. Ул.-выд. арк. 7,06. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2651. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

Кажадуб Алесь Канстанцінавіч нарадзіўся ў 1952 годзе ў горадзе Ганцавічы на Брэстчыне. Закончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Настаўнічаў на Лагойшчыне, працаваў навуковым супрацоўнікам у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, цяпер — рэдактар літаратурна-драматычных праграм рэспубліканскага тэлебачання.



50 к.